Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 44 (4588) 5 лістапада 2010 г.

## У нумары:

**Аб'ектыўна, па-дзелавому**

Навіны з Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Стар. 2

**Дэвальвацыя… сумлення**

Нераўнадушнае слова пісьменніка Уладзіміра Саламахі пра літаратуру, грамадства, жыццё.

Стар. 4-5

**Фестываль — гэта кірмаш, а кірмаш — гэта выбар**

Кінакрытык Ігар Сукманаў распавядае пра самыя адметныя падзеі «Лістапада».

Стар. 10

**А мастак нарадзіўся — тут!**

Скульптару Льву Гумілеўскаму споўнілася 80 гадоў.

Стар. 14

**Кніганоша з Тэатра юнага гледача**

Ігар Сідорчык — пра тэлебачанне, якое выхоўвае густ.

Дадатак «Кніжны свет»



# «Белы Вальс» Галіны Конанавай

Паказаць свае новыя работы ў цэнтры Мінска, ды яшчэ ў галерэі, побач з якой месціцца наш найстарэйшы, самы папулярны і прэстыжны мастацкі салон-магазін, — каго з мастакоў не парадаваў бы такі шанц! Асабліва, калі жыве мастак ў абласным горадзе і са сталічнай публікай сустракаецца нячаста. Зрэшты, у сур'ёзным прафесійным творчым працэсе такія паняцці, як сталіца і перыферыя, страчваюць свой "тэрытарыяльны" сэнс і пераходзяць на той узровень, дзе рэй вядуць досвед, майстэрства, інтэлект і духоўнасць.



Творчасць Галіны Конанавай (яна з 1984 года, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, жыве ў Магілёве) заўсёды была ў эпіцэнтры арт-жыцця Беларусі. А яе персанальная выстаўка "Белы Вальс", прадстаўленая сёння ў галерэі "Мастацтва", сталася адметнай падзеяй для культурнай грамады і Мінска, і ўсёй краіны.

Госці вернісажа гаварылі пра Галіну Конанаву як пра асобу на рэдкасць гарманічную: паспяховую ў творчасці, актыўную ў мастацкім жыцці, шчаслівую ў сям'і. Сям'я ў яе, дарэчы, творчая: вядомы скульптар Уладзімір Конанаў — муж Галіны, да мастацтва спрычыніліся і абедзве дачкі, прычым Ганна, якая заканчвае навучанне ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, — ужо даволі вядомы малады жывапісец, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, удзельніца многіх значных выставак.

А тое, што Галіна Конанава чалавек грамадска актыўны і надзвычай адказны, зразумела ўсім, хто бачыў яе ў справе. Вось чаму магілёўскія калегі неаднаразова выбіралі яе старшынёй абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў. Вось чаму менавіта на ёй трымаецца вялікая праца па арганізацыі выставачнай дзейнасці ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава. З 1998 года яна загадвае тут навукова-экспазіцыйным аддзелам і за гэты час прыдумала ды ажыццявіла больш як паўтары сотні канцэптуальных выставак: міжнародных, рэспубліканскіх, калектыўных, персанальных, з фондаў музея. Такія, напрыклад, праекты, як "Формула 4 плюс", "Імгненне радасці" (творы Сяргея Каткова, Святланы Катковай, Зоі Луцэвіч), персанальная выстаўка Тамары і Уладзіміра Васюкоў, перформанс "Падарункі ад Ханса Крысціяна Андарсана", упрыгожылі б і культурнае жыццё сталіцы, спешчанай выбітнымі вернісажамі. Сама ж Галіна ўжо без малога трыццаць гадоў удзельнічае ў выстаўках, пленэрах, творчых конкурсах: міжнародных, замежных, рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх. Два гады таму яе прынялі ў міжнароднае аб'яднанне "Слікарскі Уранак" (Чарнагорыя).

Зразумела, увагу ў прафесійным арт-асяроддзі, як і сярод сур'ёзных аматараў мастацтва, выклікаюць не факты біяграфіі, а творчасць таленавітай асобы. Карціны Галіны Конанавай, уключаныя ў сёлетні мінскі праект, поўная назва якога "Белы Вальс, або Запрашэнне да гармоніі", — маляўнічы люструнак яе прыгожага ўнутранага свету, водгалас мажорнага ладу яе думак, плён няспынных пошукаў у манеры жывапіснага выказвання.

Гэтая сапраўды сонечная, мудрая, тонкая мастачка, стварыўшы казачнае "вальсавае" кола са сваіх вобразаў-персанажаў, запрасіла, паклікала сваіх гледачоў зазірнуць у "Сад Эдэма", павітаць "Нараджэнне Раніцы", паспытаць "Бурштынавы кактэйль" і "Вішнёвы пунш" (з цыкла "Сасуды"), адчуць агонь "Аргенцінскага танга" і прахалоду "Вальса Белай Лілеі", перахапіць позірк "Аўтапартрэта з птушкай", падобнага да выявы дзівоснай кветкі з жаночым тварам...

"Мужчына робіць гісторыю, жанчына — сама гісторыя". Гэтае вядомае выслоўе, як падкрэслівае мастачка, можа быць эпіграфам да яе выстаўкі. "Жанчына напаўняе свет сваёй існасцю, сваёй прамяністай прысутнасцю. Мужчына, наадварот, выходзіць з межаў сваёй істоты, валодаючы харызмай самараскрыцця. Ён запаўняе свет сваёй творчай энергіяй, сцвярджаючы сябе ў ім як гаспадар і валадар. Жанчына, нібы люстэрка, паказваючы аблічча мужчыны, адкрывае яго самому сабе і такім чынам накіроўвае яго. Яна дапамагае спазнаць мужчыну самога сябе і ўвасобіць сэнс свайго ўласнага быцця, — тлумачыць Галіна Конанава канцэпцыю свайго праекта, натхнёнага раздзеламі кнігі "Таемнасць кахання" Паўла Еўдакімава, рускага багаслова, доктара філасофіі. — І працуючы над выстаўкай, асабліва значэнне я надавала колеравай гаме, ствараючы энергетычны акорд белага і чырвонага. Белы сімвалізуе шлях святла, чырвоны — радасць быцця".

Зрэшты, сапраўдны жывапіс не падлягае слоўным вытлумачэнням. "Белы Вальс, або Запрашэнне да гармоніі" варта пабачыць на ўласныя вочы, адчуць і пачуць. Як музыку...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





На здымках: Галіна Конанава і яе карціны, прадстаўленыя ў новым выставачным праекце.

Фота Кастуся Дробава

## Літ-абсягі

# Жыццё працягваецца!..

**Адразу дзве кнігі, прысвечаныя творчасці класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча, чыё 80-гаддзе з дня нараджэння мы будзем святкаваць праз некалькі тыдняў, у хуткім часе пабачаць свет у рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва".**




Першая — зборнік "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы". У адной кнізе аб'яднаны літаратуразнаўчае эсэ Алега Лойкі "Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі", успаміны і іншыя матэрыялы, якія раскрываюць характар адносін легендарнага пісьменніка і маскоўскага мастацтвазнаўцы, выкладчыцы Літаратурнага інстытута імя М. Горкага Ніны Молевай, а таксама вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя Уладзіміру Сямёнавічу. Знаёмства з Молевай істотна паўплывала на раннюю творчасць У. Караткевіча. Жанчына стала прататыпам вобраза Ірыны Горавай у рамане "Нельга забыць". Анатоль Верабей, адзін з укладальнікаў кнігі, заўважае наконт гэтага раздзела ёмістага тома "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы" наступнае: "...Цяпер Н. М. Молева — доктар гістарычных навук, кандыдат мастацтвазнаўства, сябра Саюза пісьменнікаў і Саюза мастакоў Расіі, аўтар многіх навуковых прац і мастацкіх твораў. Гэтыя матэрыялы дазваляюць не толькі глыбей зразумець постаць аднаго з самых яркіх беларускіх пісьменнікаў другой паловы XX стагоддзя, але і раскрываюць цікавыя старонкі беларуска-рускіх літаратурных сувязей у гэты час".

У сваім жа эсэ Алег Лойка выявіў Караткевіча як рэальнага, зямнога чалавека ў вобразе шматгранна таленавітага генія літаратуры, прыводзяцца многія згадкі пра асабістыя сустрэчы з класікам беларускага прыгожага пісьменства.

Другая кніжная навінка — добра вядомае чытачу старэйшага пакалення "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча" Адама Мальдзіса. Упершыню ўнікальны па сваёй шчырасці дакументальны аповед вядомага літаратуразнаўцы пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" — у 1990 годзе. Тыраж — 8500 асобнікаў — разышоўся даволі хутка. Сёння кніга толькі зрэдку мільгае ў букіністычных аддзелах мінскіх кнігарань. Доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс спрабуе разгадаць многія загадкі геніяльнай празорлівасці паэта і празаіка, гісторыка і мысляра. Аўтар кнігі глыбока перакананы, што Уладзімір Караткевіч з'яўляецца зоркай першай велічыні на нацыянальным літаратурным небасхіле.

Сяргей ШЫЧКО

## Арт-лінія

# Зямля і людзі

**У барысаўскай мастацкай галерэі "З'ява" да 7 лістапада працуе рэтраспектыўная фотавыстаўка Уладзіміра Няхайчыка (1936 — 2007) "Мая Беларусь". Экспануецца 60 здымкаў аўтара.**

Адна са стрыжнёвых тэм Уладзіміра Няхайчыка — "Людзі беларускіх вёсак". Збіраннем агульнага партрэта беларусаў ён займаўся больш як 40 гадоў, даючы да яго ўсё новыя і новыя рысы. Другая тэма — беларускі краявід — генетычна злучана з першай, абумоўлена ёю. На "творы зямлі беларускай" ёсць характэрныя, непаўторныя рысы, уласцівыя толькі ёй адной.

Калі партрэт Уладзімір Андрэевіч прынцыпова бачыў толькі чорна-белым, то ў пейзажы для яго адкрылася магчымасць для эксперыменту. Спачатку 1970-х гэта быў чорна-белы пейзаж на жэлаціна-срэбнай фотапаперы, у 1990-х ён пачаў уручную размалёўваць выявы фарбамі, паралельна спрабуючы сябе ў каляровай фатаграфіі, і, нарэшце (з канца 1990-х), — камп'ютарная рэтуш, размалёўванне і фотамантаж з выкарыстаннем акварэльнай паперы і струменевага прынтара.

Засваенне камп'ютара дазволіла майстру на пачатку нашага стагоддзя ўзяцца за новую тэму — беларускую міфалогію. У яго серыі "Багі і духі беларускага Пантэона" можна ўбачыць дамавіка, лесуна, Бабу Ягу ды іншых істот. Рыцары ў яго работах шпацыруюць па нябёсах, штурмуюць замкі і заляцаюцца да паненак. Для ўзмацнення кампазіцыі і выяўленчага ўражання ён часам устаўляў у фатаграфіі чароды птушак і жывёл, сонца, аблокі.

Уладзімір Няхайчык правёў 11 персанальных фотавыставак. Яго работы знаходзяцца ў фондах многіх музеяў Беларусі, сярод якіх — Літаратурны музей Янкі Купалы і Нацыянальны гістарычны.

Паводле слоў мастацтвазнаўцы галерэі "З'ява" Тацяны Кірылавай, ён часта наведваў Барысаўшчыну, удзельнічаў у пленэрах на Бярэзіне, супрацоўнічаў і сябраваў з мясцовымі фотамастакамі. Калегі Уладзіміра Няхайчыка называюць яго самым беларускім з усіх айчынных фатографаў. Сціпласць, працавітасць, уменне бачыць, адчуваць і, як вынік, — сузіральнасць і паэтычнасць, тактоўнасць і ўважлівасць, непрыманне вонкавай эфектнасці, — вось тое, што мы бачым у работах Уладзіміра Андрэевіча.

На адкрыццё выстаўкі прыйшлі родныя, сябры, знаёмыя і калегі майстра. Падзяліліся ўспамінамі і яго паплечнікі.

"Сёлета адзначае 50-годдзе фотаклуб "Мінск", а Валодзя быў адным з першых яго членаў — з 1963 года. Часта падчас вандраванняў па вёсках мы з ім працавалі ўдваіх. Нават прыдумалі такі прыём: адзін з нас з чалавекам размаўляе, пакуль той не забудзецца, што хтосьці наводзіць на яго фотаапарат. Таму і людзі на яго здымках разняволеныя", — казаў старшыня рады народнага фотаклуба "Мінск" Яўген Казюля. А вядомы фотамастак Юрый Васільеў, куратар гэтага выставачнага праекта, адзначыў, што творчасць У. Няхайчыка гэта не той гламур, які квітнее ў сучаснай фатаграфіі: "Калі вы хочаце пазнаць, якая яна, Беларусь, — ведайце: яна такая, як на гэтых здымках. Валодзя фактычна звярнуўся да ўсіх жанраў, якія ёсць у фатаграфіі, і ва ўсіх жанрах ён пакінуў вельмі пераканаўчыя работы. І з гэтым ён увойдзе ў гісторыю нашай нацыянальнай культуры".

На вернісажы адбыўся паказ дакументальнага фільма пра Уладзіміра Няхайчыка, зняты яшчэ пры яго жыцці: з экрана фотамайстар распавёў пра сябе, пра свае захапленні.

Мастацтвазнаўца галерэі "З'ява" Тацяна Кірылава зазначыла: "Гэтая выстаўка — даніна памяці выдатнага майстра. На яго творчасць вялікі ўплыў зрабіла дзяцінства, якое прайшло ў гады вайны ў партызанскім лагеры. Ён быў па прафесіі землеўпарадчыкам, можа, таму, як ніхто іншы, адчуваў і ведаў беларускую зямлю. А наколькі псіхалагічна глыбокія і выдатныя ў яго партрэты! Уладзімір Няхайчык ганарыўся, што ён беларус, што жыве ў гэтай краіне. І ў назвах тых выставак, якія ён праводзіў, і ў саміх творах абавязкова гучалі ноткі беларускасці".

Анатоль МАЗГОЎ



На здымку: Уладзімір Няхайчык.

Фота аўтара, г. Барысаў

## Повязі

# Галавой і сэрцам — да Вільні

**У кнігарні "Кніжны салон" прайшла беларуска-літоўская імпрэза, на якой сабраліся аматары літаратуры, гісторыкі, даследчыкі, каб пагаварыць пра блізкасць гэтых краін, агульнасць гістарычных лёсаў, супольныя праблемы, падабенства фальклорных матываў… Своеасаблівы антураж вечарыны стварылі кніжныя выставы — з асабістага архіва Сяргея Панізніка і кнігі, што выйшлі ў Літве.**



Намеснік Пасла Літвы ў Беларусі Ёнас Данеляўскас заўважыў, што адным са шляхоў знаёмства з асаблівасцямі краіны з'яўляецца вывучэнне культуры і мовы, чытанне кніг. Таму вельмі прыемна ў кнігарні Беларусі бачыць кнігі на літоўскай мове. Віргінія Тарнаўскайтэ, дырэктар Літоўскага цэнтра культуры, адукацыі і інфармацыі, якая на вечарыне выконвала ролю вядучай з літоўскага боку, расказала пра паэтычны фестываль "Вясна паэзіі", вынікам якога стаўся пераклад твораў літоўскіх паэтаў, чые імёны былі як добра вядомыя беларускаму чытачу, так і зусім новымі.

Адам Мальдзіс падкрэсліў: "Я сапраўды чалавек памежжа, бо калі прыеду ў Літву, усе звяртаюць увагу на маё літоўскае прозвішча. Літоўскую ж мову я пачаў вывучаць толькі ў аспірантуры. Калі працаваў у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі, была выказана прапанова заключыць дамову пра беларуска-літоўскае супрацоўніцтва. Так нарадзілася некалькі кніжак, адна з якіх — "Перазовы сяброўскіх галасоў" (пра беларуска-літоўскія літаратурныя сувязі), якая спачатку выйшла на Беларусі, а потым у Літве на літоўскай мове".

Паэт і перакладчык Сяргей Панізнік звярнуў увагу на тое, што беларуска-літоўская спадчына непадзельная. Яго ж асабістае сужыццё з Літвой пачыналася з купчай на зямлю (цяпер у Мёрскім раёне), якая была падпісана ў Вільні сто год таму. Але "галавой да Вільні" Сяргей Сцяпанавіч жыве ўжо невядома які час. Ён прымаў удзел у супольных кніжных праектах. Пазнаёміў перакладчык прысутных і з выставай, на якой былі прадстаўлены кнігі з каштоўнымі аўтографамі літоўскіх літаратараў.

Галоўны рэдактар часопіса "Мастацтва" Людміла Грамыка расказала пра сумесны беларуска-літоўскі праект, які адбыўся ў 2009 годзе, калі Вільнюс быў абвешчаны культурнай сталіцай Еўропы. Мэтай праекта было паказаць беларускаму чытачу панараму мастацтва Літвы. Гісторык Аляксей Дзермант звярнуў увагу на альманах "Druvis", унікальнае для нашай краіны выданне. На яго старонках навукоўцы падымаюць пласты агульнага беларуска-літоўскага мінулага, каб беларусы ведалі, што наша спадчына — не толькі гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, але і таго кантынента, які да гэтага часу застаецца недаследаваным.

На вечарыне гучалі песні і вершы на беларускай і літоўскай мовах, прамаўлялі літаратары і навукоўцы Арсень Ліс, Алесь Разанаў, Кастусь Цвірка і многія іншыя.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Сяргей Панізнік і Віргінія Тарнаўскайтэ каля стэнда з кнігамі з асабістай бібліятэкі Сяргея Сцяпанавіча.

Фота Кастуся Дробава

## З-пад пяра

**Пісьменніцкі** майстар-клас прайшоў днямі ў магазіне "Кніжны салон" на вуліцы Калініна. Гасцямі юных чытачоў, пакупнікоў кнігі, былі пісьменнікі Раіса Баравікова, Андрэй Жвалеўскі, Яўгенія Пастэрнак, Эсміра Ісмаілава, Валерый Кастручын, Дар'я Клюйко, Арцём Кавалеўскі, Тацяна Мушынская, Людміла Рублеўская. Іх кнігі, адрасаваныя дзецям, у апошні час пабачылі свет у розных выдавецтвах Беларусі і Расіі. Удзел у імпрэзе прынялі і намінанты літаратурных конкурсаў сталічных школьнікаў "Мінск учора, сёння, заўтра" і "Спяшайцеся рабіць дабро".

Сяргей ШЫЧКО

**"Вячэрні лістапад"** — так называецца новая кніга гродзенскага паэта Анатоля Апанасевіча, прэзентацыя якой адбылася днямі ў Гродзенскай навуковай бібліятэцы імя Яўхіма Карскага. Там сабраліся не толькі калегі-пісьменнікі, але і навучэнцы, студэнты, бібліятэкары, сябры і проста аматары літаратуры. Непадробную цікавасць выклікала на вечарыне таксама выстаўка мастацкіх работ паэта — жывапісных і скульптурных, выкананых з розных матэрыялаў: дрэва, гіпсу, металу, намаляваныя алеем. Фотаздымкі некаторых з іх змешчаны ў новай кнізе Анатоля Апанасевіча.

Людміла КЕБІЧ

**Удзельнікі** Другога міжнароднага пленэру разьбяроў па дрэве зрабілі гродзенцам незвычайны падарунак — дванаццаць драўляных скульптур, якія разам складаюцца ў сцэну нараджэння Ісуса Хрыста. Над гэтай работай плённа працавалі пяць беларускіх і столькі ж літоўскіх скульптараў. Стварыўся маленькі шэдэўр на базе аграрна-турыстычнага комплексу "Гродзенскі маёнтак "Каробчыцы". І ўзнік усяго за дзесяць дзён. Высокую ацэнку творчасці рэзчыкаў па дрэве даў Генеральны консул Літоўскай Рэспублікі ў Гродне Рымантас Латакас.

Іосіф ЗАЯЦ

**Творчы вечар** Алены Міхаленкі адбыўся ў канцэртнай зале Мінскага Палаца мастацтва. Аўтар дзевяці кніг для дзяцей і дарослых, Алена Міхаленка піша вершы, паэмы, казкі, апавяданні, аповесці. Яна адрадзіла ў Беларусі рэдкі літаратурны жанр: вершаваныя пераклады жыццяў святых. Найбольш вядомая яе кніга "Сказание о жизни преподобной Евфросинии, игумении и княжны Полоцкой". У гэтым жа жанры напісаная паэма "Матушка Ксения" і кніга, якая нядаўна з'явілася на паліцах кніжных магазінаў — "Сказ про Петра и Февронию, муромских чудотворцев". У вечарыне прынялі ўдзел акцёры тэатра і кіно, музыканты, літаратары. Цыкл песень кампазітара Уладзіміра Казбанава на вершы Алены Міхаленкі прадставілі салісты вакальнага ансамбля "Тимпан".

Мікалай КАНСТАНЦІНСКІ

**Юныя танцоры** з Пружаншчыны — у ліку пераможцаў на трэцім адкрытым конкурсе дзіцячай і юнацкай творчасці "Залатая ліра", які прайшоў у Мінску. Пружанскі раён прадстаўлялі вучні харэаграфічных аддзяленняў трох дзіцячых школ мастацтваў. У намінацыі "Рускі танец" першае месца заваявалі навучэнцы харэаграфічнага аддзялення з Пружан. У намінацыі "Эстрадны танец" пружанскія дзеці заваявалі трэцяе месца. Таксама трэцяе месца ў гэтай жа намінацыі атрымалі юныя танцоры з Клепачоў. Адзначана дыпломам і малодшая група харэаграфічнага аддзялення Ліноўскай школы мастацтваў.

Галіна КАЛЯДА

# Дэвальвацыя...

Іншы раз, калі размова заходзіць пра прыгожае пісьменства, ад дасведчаных людзей можна пачуць: маўляў, у літаратуры і вакол яе — усё як у жыцці…

Вядома, гэта выказванне не новае. Безумоўна, на ім, калі чуеш, можна не засяроджвацца, кінуўшы ў адказ нібы мімаходзь: "А хіба можа быць інакш?", каб не некаторыя акалічнасці часу, якія прымушаюць шмат пра што задумацца. Напрыклад: ці ўсё ў нас вакол творчасці ладам?.. І чаму там так, а не інакш?.. Ды і спецыфіка нашай беларускай літаратуры такая, што ў ёй і вакол яе ёсць рэчы, на якія нельга не звяртаць увагі. Скажам, існуюць мовы і літаратуры, якія з прычыны шэрагу гістарычных, эканамічных, палітычных і іншых з'яў, што стагоддзямі панавалі ў грамадстве, звонку насаджаліся яму, па-свойму адбіліся на іх, так бы мовіць, ідэнтычным стане. А кожная сапраўдная літаратура як аснова нацыянальнай культуры якраз і з'яўляецца той сферай духоўнай дзейнасці, якая па сутнасці і нясе ў сабе код самабытнасці таго або іншага народа. Гэта агульнавядома, ніякага ваяўнічага нацыяналізму тут няма — закон жыцця. ("Сігналізатары" ў розныя інстанцыі, не марнуйце час, шукаючы ў гэтым маім выказванні крамолу). Кажу так з глыбокім перакананнем, бо ў нашым грамадстве, ва ўсіх сферах яго жыцця, у тым ліку і духоўнай, усё не горш, чым у іншых грамадствах. А шмат што ў многім нават і лепш. І хай тыя, хто нахабна навязваюць нам сваё, падумаюць, ці падыходзіць яно нам, хай лепш вучацца ў нас памяркоўнасці, разважлівасці, вытрымцы і памятаюць: не трэба нам чужое нялюдскае, што яны, нібыта клапатліўцы пра нас, выдаюць за дабро, і не трэба нам іх клопат пра нас, "занядбаных" ды "неразумных". Але мы самі, без вас, разбяромся і ў сваёй палітыцы, і ў сваім ладзе жыцця, і ў шмат чым іншым. І ў духоўнай сферы, у тым ліку і ў той яе састаўной частцы, якая называецца літаратура, — таксама. А вось паглядзець, як і што тут, іншы раз не шкодзіць, каб выявіць якую загану, дзе — "худую траву с поля — вон!". Скажам, вакол літаратуры даўно ўжо нахабна спрабуе панаваць, па прыкладзе іншых па духу далёкіх ад нас грамадстваў, звычайная непрыстойнасць. Але і ў нас з'явілася шмат людзей, якія, карыстаючыся фактарам часу, ўседазволенасцю (гэта так яны разумеюць дэмакратыю), упарта займаюцца не сваёй справай, не маючы для гэтага ні здольнасцей, ні адукацыі, ні нават элементарнага прызвання. Карацей кажучы, няма ў іх усяго таго, што трэба мець чалавеку, каб больш-менш годна выконваць нейкую важную для сябе і людзей справу.

Напрыклад, у нас у грамадстве ёсць, з дазволу сказаць, палітыкі, якія на самай справе — няўдалыя прадпрымальнікі ад яе. Яны самі аб'явілі сябе нібыта клапатліўцамі за народнае шчасце, маючы на мэце ўласныя выгоды.

Сярод нас, напрыклад, ёсць акадэмікі нейкіх самадзейных акадэмій, гэтыя псеўдавучоныя перашкаджаюць працаваць сапраўдным вучоным, пішуць на іх скаргі, патрабуюць прызнаць свае антынавуковыя "адкрыцці" адкрыццямі…

Ёсць, і нямала, урачоў-шарлатанаў, што прыносяць шкоду хворым, часта непапраўную. Някепска пачуваюць сябе сярод нас розныя ілжэпрарокі, якія ламаюць людскія лёсы… Увогуле, і ў нас, як паўсюль, раптам з'явіліся нейкія, раней нікому невядомыя нібыта клапатліўцы пра нашу краіну, народ, чалавека. Зрэшты, такіх новаспечаных "спецыялістаў" столькі, што становіцца проста брыдка. Так і хочацца ім усім, пачынаючы ад самадзейных палітыкаў і заканчваючы непісьменнымі "пісьменнікамі" сказаць: "Ды

І хай тыя, хто нахабна навязваюць нам сваё, падумаюць, ці падыходзіць яно нам, хай лепш вучацца ў нас памяркоўнасці, разважлівасці, вытрымцы і памятаюць: не трэба нам чужое нялюдскае, што яны, нібыта клапатліўцы пра нас, выдаюць за дабро, і не трэба нам іх клопат пра нас, "занядбаных" ды "неразумных".

не блытайцеся пад нагамі, не перашкаджайце людзям, займайцеся сваёй справай!"

Вось тут чытач можа параіць: дык скажы пра гэта хаця б літаратарам, калі ты да іх бліжэй.

Казаў і кажу разам з многімі такімі ж, як я, літаратурнымі рэдактарамі з дзяржаўных выдавецтваў і выданняў. Штодзённа. Людзям, выпадковым у літаратурнай творчасці. Ды вось што засмучае: у літаратуры — дакладней, вакол яе — яны былі заўсёды. І ў тыя нашы часы, якія "прозревшие" так ахайваюць. Літаратура тады была ў іншай стадыі, яе лепшыя творы перакладаліся на асноўныя мовы свету. Ведаю, што і тады ні адзін рэдактар, ні адзін наш класік, нават з сусветным імем, не пераканаў ніводнага чалавека, які не меў ніякіх схільнасцей да творчасці, што гэта не яго справа. І помніцца, як адразу пасля такіх размоў скаргі на рэдактараў ішлі ў самыя розныя інстанцыі — ад пісьменніцкага саюза да ЦК КПСС: маўляў, мяне крыўдзяць, я — талент!

І на такія скаргі (мы ж — гуманісты) рэагавалі. Вядома, былі выпадкі, калі нават "зверху" далікатна раілі перапісваць — абы змоўк. (Хтосьці, зрэшты, і перапісваў, у выніку чаго такія "пісьменнікі" пачыналі верыць, што яны сапраўды спецы ў літтворчасці.)

Чаму некаторыя людзі займаюцца не сваім, ды пры гэтым яшчэ наносяць шкоду іншым, а то і ўсяму грамадству, вядома. Але ўсё адно адзначу: уласны інтарэс, розны. Так, напрыклад, у самадзейнай палітыцы, псеўдалячэбнай справе або шарлатанстве-прадказальніцтве першапрычына (галоўная прычына) — грошы, прага ўласнага абагачэння лёгкім, падманным шляхам. І — безадказнасць за гэта.

Скажам, нейкі новаспечаны ілжэпалітык, выклянчваючы ў якіх-небудзь сваіх для яго "патронаў" (але чужых для нашага грамадства палітвараціляў) у змаганні



за сродкі для асабістага бязбеднага існавання гатовы прадаць свой народ, Айчыну, краіну. Але, як кажуць памяркоўныя людзі, якія ўсё бачаць і разумеюць, не па Сеньку шапка… Хай, ну пакрасуецца-пакрасуецца ды на тым і сядзе… І "садзяцца" на тое месца, на якім і належыць сядзець чалавеку. Вось ужо шмат гадоў.

А вось калі, скажам, шарлатан-лекар? Гэта не проста шкода — трагедыя! Так і хочацца сказаць такому чалавеку: "Лепш займаўся б сваім: складваў на дачах печы, гандляваў на базары, круціў у майстэрні гайкі — умееш жа як ніхто іншы, і табе карысць, і людзям. Дык жа — не: лекар я, жонка кажа…

Але, паўтару, дзеянні такіх

Ёсць, і нямала, урачоў-шарлатанаў, што прыносяць шкоду хворым, часта непапраўную. Някепска пачуваюць сябе сярод нас розныя ілжэпрарокі, якія ламаюць людскія лёсы… Увогуле, і ў нас, як паўсюль, раптам з'явіліся нейкія, раней нікому невядомыя нібыта клапатліўцы пра нашу краіну, народ, чалавека. Зрэшты, такіх новаспечаных "спецыялістаў" столькі, што становіцца проста брыдка. Так і хочацца ім усім, пачынаючы ад самадзейных палітыкаў і заканчваючы непісьменнымі "пісьменнікамі" сказаць: "Ды не блытайцеся пад нагамі, не перашкаджайце людзям, займайцеся сваёй справай!"

людзей, якія займаюцца не сваім, найчасцей абумоўлены адным: асабістая нажыва любым шляхам, і гэты шлях здаецца ім найбольш прыдатным.

З такімі людзьмі ўсё больш-менш зразумела. А чым, скажыце, растлумачыць імкненне займацца не сваёй справай бясконцага мноства так званых пісьменнікаў? Слесары-сантэхнікі, адстаўнікі, пенсіянеры, прыёмшчыкі металалому і шклатары, няўдалыя журналісты, хатнія гаспадыні… Зрэшты, здаецца, сёння няма прадстаўніка ні адной прафесіі, ні адной сацыяльнай, узроставай групы (хіба што немаўляты — выключэнне), якія не пісалі б, з дазволу сказаць, вершы, паэмы, апавяданні, раманы, эпапеі ды не навязвалі б гэтыя "тварэнія" грамадству, чытачам, часам нават патрабуючы, каб па іх "кнігах" праводзілі розныя мерапрыемствы, ледзь не на дзяржаўным узроўні?

Не ведаеце, як усё гэта патлумачыць? І я не ведаю, хаця магу толькі здагадвацца, што тут і да чаго.

Тут прага зарабіць грошы — найчасцей адпадае. Гэтыя людзі выдаюць сваё або за кошт розных спонсараў (вось яшчэ праблема адукацыйнага ўзроўню некаторага нашага маладога мецэнацтва ад культуры, але верыцца, што яна з часам вырашыцца), а найчасцей за свае кроўныя. Здараецца, іншы такі "пісьменнік" або "пісьменніца" гадамі збірае пенсію, зарплату, каб толькі задаволіць самалюбства: я маю кнігу!

Але паўстае пытанне: а хто ж выдае тых "пісьменнікаў"? Прыватныя выдавецтвы. Запэўніваю, што дзяржаўныя, дзе, як і павінна быць, — высокапрафесійная рэдактура, такія "творы" адхіляюць. Але вось зноў жа тая бяда, пра якую казаў раней — непісьменным "пісьменнікам" ніякіх заслонаў няма. Паспрабуйце сказаць ім, што літаратура — не іх прызванне, скаргі на вас паляцяць куды заўгодна. (Во што значыць магія СЛОВА! Але ж слова бывае рознае, і гнілое — таксама: гл. Біблію, што там сказана пра Слова сапраўднае і пра іншае.) Пішуць, як і ў даперабудовачныя часы, па старой завядзёнцы, вышукваючы "крамолу" ў творах сапраўдных пісьменнікаў. І сённяшнія скаржнікі не грэбуюць нічым. У сваіх "сігналах" яны "вырываюць" з твораў асобныя сказы, падаюць іх па-за аўтарскай канцэпцыяй, "уводзяць" свае забароны на тэмы, спекулююць на патрыятызме. Словам, "сігналізуюць", пільныя, нібыта аб "сапраўдным твары" пісьменнікаў, "развенчваюць" шкоднасць іх твораў. Пры гэтым яны "ўгледжваюць" толькі ім адным зразумелую накіраванасць у творчасці таго або іншага літаратара, бессаромна даюць яму сваю ацэнку, маўляў, ён "такі",

Пішуць, як і ў даперабудовачныя часы, па старой завядзёнцы, вышукваючы "крамолу" ў творах сапраўдных пісьменнікаў, не разумеючы, што даўно ўжо не тыя часы. І сённяшнія скаржнікі не грэбуюць нічым. У сваіх "сігналах" яны "вырываюць" з твораў асобныя сказы, падаюць іх па-за аўтарскай канцэпцыяй, "уводзяць" свае забароны на тэмы, спекулююць на патрыятызме.

чаму яго друкуе дзяржаўнае выдавецтва, а не мяне?..

Заўважана, што такія "сігналізатары", "не имея в достаточном наличии таланта" (перл аднаго з іх), нападаюць сёння на найбольш адметных творцаў, на тых пісьменнікаў, якія па вялікім рахунку знаходзяцца ў той кагорце сапраўдных літаратараў, што годна пішуць на дзвюх нашых дзяржаўных мовах. "Сігналізуюць" з патрабаваннямі прыняць меры да творцы: пакараць яго, забараніць друкаваць! (Во ўжо дзе дэмакраты!)

Таксама заўважана, і не мной першым, што ім, бедакам-скаржнікам, самім занадта цяжка зразумець, што да чаго: іх накіроўваюць… А мы ў тых "інстанцыях", у якія "сігналізуюць", здараецца іншы раз з-за сваёй чуласці да кожнага, або з-за боязі праслыць душыцелямі свабоды слова (свабода слова, між іншым, ад кожнага з нас патрабуе гранічнай адказнасці, хай і маральнай) ствараем вакол гэтага "шуміху". Хаця ведаем, як толькі пачнём "рэагаваць", разбірацца, такое "сігналізаванне" стане тэндэнцыяй, а яна можа ператварыцца ў сістэму.

Прыклад падобнай сістэмы, але ў іншай сферы, у нас ужо даўно ёсць: некаторыя самадзейныя палітыкі напярэдадні асабліва важных падзей жыцця нашага народа, краіны апантана "сігналізуюць", праўда, сваім, чужым для нас "патронам", пра тое, нібыта ў іх роднай Беларусі жыццё — жах! Таксама патрабуюць прыняцця мер… да таго народа, сярод якога выраслі, які іх вывучыў, выправіў у жыццё… Не разумеюць "продвинутые", што народ сам даўно вызначыў, як яму жыць, што ён са сваіх глыбінь у свой час вылучыў таго, каму давярае свой лёс… (Навейшая гісторыя існавання незалежнай нашай краіны гэтых "продвинутых" так нічому і не навучыла.)

З палітыкамі, дзе яны сапраўдныя, а дзе "ілжэ-", разбяромся і без розных "заступнікаў" за нас. Нашы сапраўдныя палітыкі ўсё гэта, накіраванае супраць іх з самых розных "извне", таксама даўно ўжо і з гонарам прайшлі, загартаваныя. І не вельмі на гэта звяртаюць увагі. А вось як, напрыклад, быць, калі ўжо іншыя "клапатліўцы" "сігналізіруюць", скажам, на выдатных урачоў, якія, бачыце, нібыта не так іх лечаць, як раіла суседка Манька? Або калі на прынцыповых чыноўнікаў усіх узроўняў, якія сумленна (і такіх большасць) выконваюць свае службовыя абавязкі, пры гэтым перашкаджаюць хціўцам, злодзеям, казнакрадам?.. А на настаўнікаў?.. У рэшце рэшт — на сапраўдных пісьменнікаў?.. Тут я зноў мушу засяродзіцца на літаратуры, бо яна мне бліжэй па прафесіі.

Дык вось, нядаўна даведаўся, што нібыта "клапатліўцы" за чысціню нашай літаратуры "прасігналізіравалі" "куды трэба" на асобных пісьменнікаў і пісьменніц, якія, маўляў, пішуць не тое, што трэба, і не так. Сярод тых, хто па іх меркаванні "не так" піша — празаік Анатоль Казлоў.

# сумлення

Не для "пільных" кажу, яны і так ведаюць, няхай і з чужых вуснаў, Анатоль Казлоў — у айчыннай літаратуры непаўторная асоба. Гэта ні на каго не падобны празаік. Талент. А талент — з'ява не такая ўжо частая сярод звычайных, добрых, прафесійных пісьменнікаў, што заканамерна. Гэтага празаіка ў 1980-я, па сутнасці маладога чалавека, выпускніка Гомельскага універсітэта, адкрыў часопіс "Маладосць". А. Казлоў як пісьменнік прайшоў выдатную творчую школу ў нашых слынных літаратараў-папярэднікаў. Ён валодае своеасаблівым мастацкім чуццём, глыбокай аналітыкай з'яў рэчаіснасці. Яго кнігі прозы, з якімі ўваходзіў у літаратуру — "Першыя сцяжыны" (1987), "Міражы ценяў" (1990), "…І тады я памёр" (1993) — засведчылі пра адметнасць творчага патэнцыялу маладога празаіка. (Звярніце ўвагу, якія разбег між імі па часе выдання, не тое што сёння нехта: "месяц — кніга"!) Пісьменнасць, бездакорны літаратурны, прытым свой стыль (зараз часта непісьменныя "клясікі" заяўляюць, што іх "непісьменнасць" — своеасаблівасць аўтарскага стылю). Прыроджанае адчуванне народнай і літаратурнай мовы, разуменне яе законаў, мастацкі і грамадзянскі гуманізм. Усё гэта дапамагае А. Казлову ў сваіх творах па-свойму выяўляць загадкавыя з'явы, што ёсць у грамадстве. Пісьменнік здольны пранікаць у глыбіні сутнасці таго, што выкрывае, на чым і засяроджвае нашу чытацкую ўвагу. Даволі часта ён гэта робіць праз абазначэнне чалавечых "низменных страстей", але не любуючыся імі, не прапагандуючы іх, як, скажам, гэта робяць сотні, тысячы чужых псеўдакніг, якімі засыпаны многія кнігарні. ("Сігналізатары", чаму тут не б'юце ў званы?)

Словам, "пільныя" цудоўна ведаюць, што, напрыклад, той жа А. Казлоў — сапраўдны пісьменнік. А таксама што ён актыўна працуе з маладымі аўтарамі, адкрывае ў часопісе "Нёман" таленты, і што ён яшчэ доўга (калі яго "не выбіць" з гэтай справы) будзе перашкаджаць графаманам і іншай рознай непісьменнай "брацыі" забруджваць, разбураць нашу літаратуру. А яна, як бы гэтага каму не хацелася, працуе на народ, дзяржаву. Ведаюць яны таксама, што яго калегі з Саюза пісьменнікаў Беларусі двойчы (2006 год, кніга "Юргон" у 2009, кніга "Горад у нябёсах") вызначалі А. Казлова як аднаго з лепшых нашых празаікаў, узнагароджваючы дыпломамі Рэспубліканскага конкурсу "Лепшая кніга года" ў намінацыі "проза". (Між іншым, там графамания да разгляду не прымаецца, і ацэнку творам даюць прафесіяналы.)

Дарэчы, у нас паступова (чаму?) укаранілася практыка, калі ацэнку творам сапраўдных пісьменнікаў на старонках некаторых выданняў часта даюць недасведчаныя крытыкі, сярод іх — і тыя, хто ніяк не можа праявіць сябе ў творчасці, наогул як след не разбіраецца ў літаратуры, часам нават не ведае, пра што твор, пра які піша. (Во ўжо сапраўды: а суддзі хто?)

Горш таго, здараецца, мы самі ў форме розных паваргхоўных агляддаў ганім тое, што друкуем. Думаем, што гэта падштурхне да новых творчых здабыткаў, а на справе нібы пераконваем чытача ў тым, што літаратура наша...

> Тут таксама недалёка да тэндэнцыйнасці: нярэдка такія агляддальнікі "раскручваюць", хваляць слабенькія творыкі пісьменнікаў з уласнага акружэння, а потым ужо нібы паблажліва называюць сапраўды годных. Гэтыя "крытыкі" набываюць сабе "славу", бессаромна вучачы сапраўдных майстроў слова, як пісаць. Больш таго, сёння сёй-той нават абражае ў друку класікаў, народных песняроў, па сутнасці зневажаючы гонар народа, краіны.

Тут таксама недалёка да тэндэнцыйнасці: нярэдка такія агляддальнікі "раскручваюць", хваляць слабенькія творыкі пісьменнікаў з уласнага акружэння, а потым ужо нібы паблажліва называюць сапраўды годных. Гэтыя "крытыкі" набываюць сабе "славу", бессаромна вучачы сапраўдных майстроў слова, як пісаць. Больш таго, сёння сёй-той нават абражае ў друку класікаў, народных песняроў, па сутнасці зневажаючы гонар народа, краіны. (Скажыце, "дэмакраты", такое магчыма ўявіць у якой суседняй да нас краіне?) Урэшце, гэта не проста нетактоўна, гэта кашчунства, якое чамусьці мы самі і дазваляем, саромеючыся пакрыўдзіць усю падобную калялітаратурную брацію.

Я прашу прабачэння ў чытача за некаторае адступленне ад тэмы. Пра стан нашай крытыкі і што такое літаратура: гэта найперш тавар ці нешта іншае для грамадства, спадзяюся, мы яшчэ паговорым… Дык вось, розныя "сігналізатары", іх ідэйныя натхняльнікі, вядома ж, перастануць перашкаджаць жыць і працаваць усім нам: у тым ліку і сапраўдным палітыкам, вучоным, урачам, настаўнікам… і пісьменнікам таксама, калі мы перастанем зважаць на іх. Якая простая і ўсім вядомая ісціна! Калі я кажу пра пісьменнікаў, то акцэнту ўвагу калег на тым, што сучасныя "пільныя" стараюцца "выбіваць" з літаратуры менавіта значных творцаў і па адным. Прыём таксама даўно вядомы, "дзейсны" ў свой час, і калі мы сёння дазволім яму "иметь место быть" у нашым жыцці, у тым ліку і ў літаратуры, дык сапраўды "дадэмакратызуемся".

Наша літаратура, як даўно і да нас сцвердзілі папярэднікі (класікі і проста годныя, сумленныя пісьменнікі), як ужо гаварылася, вызначыла народ. Менавіта найперш праз яе ў свой час свет даведаўся, што ёсць Беларусь, Беларусь, а не нейкі там край, як некаму хацелася і часам хочацца цяпер (бачыце, ім "муляе" суверэнная дзяржава!).

Наша літаратура, у якой ладам працуюць прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей, якая праз Саюз пісьменнікаў Беларусі годна мацуе братнія і сяброўскія сувязі найперш з рускай літаратурай, з усімі іншымі літаратурамі былых рэспублік некалі адзінай краіны, а таксама — з многімі замежнымі. Наша літаратура, як і ўсялякая сапраўдная літаратура, як гаварылася, не толькі аснова нацыянальнай культуры, носьбіт і выказнік духу свайго народа, але, як сведчаць лепшыя яе творы мінулага і сённяшняга, і народаў, з якімі беларусы годна жывуць на сваёй зямлі, у адной агульнай шматнацыянальнай краіне. Яна, гэтая літаратура, ніколі не распальвала і не распальвае міжнацыянальную непрыязнасць, не абражала і не абражае прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, веравызнанняў, не прапагандавала і не прапагандуе насілле… Даўно прызнаная далёка за межамі нашай краіны як гуманістычная, яна ніякім чынам не паддаецца таму маральнаму, заснаванаму на разбурэнні чалавечага духу падзенню, якое адбываецца з некаторымі іншымі літаратурамі, нават з тымі, што прэтэндуюць на першынство ў свеце.

Але неяк у адным са сваіх артыкулаў, гаворачы пра яе месца ў жыцці грамадства, я цытаваў аднаго з класікаў сусветнай літаратуры, маўляў, Амерыцы (пастаўце замест яе любую так званую цывілізаваную краіну, дзе ўсё падпарадкавана грошам, а не духоўнасці, не ўсім іншым чалавечым каштоўнасцям, не самому чалавеку) мастак непатрэбен. Амерыка (любая іншая тая ж дзяржава, якая, у адрозненне ад нашай, не мае сацыяльнай арыентацыі на чалавека) не знайшла месца для яго, які займаецца праблемамі чалавечага духу замест таго, каб скіроўваць сваю вядомасць на гандаль мылам, цыгарэтамі або аўтаручкамі, рэкламаваць аўтамабілі і г.д.

> У нас літаратура не выведзена з адукацыі, як некаму з "клапатлівых" хацелася б, яна не "аддзелена" ад дзяржаўнага клопату, (хоць дзяржава і не ўмешваецца ў літпрацэс). Захаваліся, мадэрнізуюцца, удасканальваюцца дзяржвыдавецтвы, літаратурныя часопісы... Урэшце, усё гэта ў значнай ступені фінансуецца з дзяржбюджэту. Зразумела, што і патрабаванні да літаратуры, калі ўжо так, павінны быць самыя высокія.

У нас літаратура не выведзена з адукацыі, як некаму хацелася б, яна не "аддзелена" ад дзяржаўнага клопату (хоць дзяржава і не ўмешваецца ў літпрацэс). Захаваліся, мадэрнізуюцца, удасканальваюцца дзяржвыдавецтвы, літаратурныя часопісы... Урэшце, усё гэта ў значнай ступені фінансуецца з дзяржбюджэту. Зразумела, што і патрабаванні да літаратуры, калі ўжо так, павінны быць самыя высокія. (Між іншым, і гэта азначае, што месца графаманіі ў ёй не месца...) І калі кіраўнік дзяржавы заўважае, што трэба ствараць творы найвышэйшага мастацкага ўзроўню, то тут — спраўдлівая заклапочанасць яе сённяшнім станам, перспектывамі далейшага развіцця.

Думаю, што адсюль таксама вынікае і наступнае: мастацкі ўзровень усіх друкаваных твораў, незалежна ад таго, выходзяць яны ў дзяржаўным ці прыватным выдавецтве, павінен быць надзвычай высокім ці, хаця б пакуль ідзе працэс станаўлення літаратуры нашага новага часу, — проста прыстойным. Ва ўсялякім разе не такім, як цяпер у пераважнай большасці "кніг", што выпускаюць многія прыватныя выдавецтвы, дзе гаспадар за грошы аўтара не толькі выдасць бязглуздзе, а і назаве яго Пушкіным, Талстым, Шолахавым… каб толькі дагадзіць таму: абагачае ж мяне. (Ім, такім выдаўцам і выдаўцам, узяць бы прыклад з "Харвеста", дзе ўсё — лепшае: і класікі і сучаснікі, і цэлыя накірункі агульнаадукацыйных кніг, пры моцнай, прафесійнай рэдактуры.)

Але зноў вернемся да таго, з чаго пачыналі: так, у літаратуры, дакладней, вакол яе, усё як у грамадстве. Але з некаторымі папраўкамі, сярод якіх і такая… Наша грамадства даўно перажыло тое, што даволі ўмела некалі навязвалі яму чужыныя нібыта нормы жыцця, паводзін, розныя мадэлі… Яно годна справілася з дэвальвацыямі, крызісамі і да т.п. Зрэшты, інакш і быць не магло… Калі я кажу пра дэвальвацыі, крызісы, дык успамінаю пра іх і ў іншым, вобразным плане: ёсць жа, аказваецца, і дэвальвацыя слова, сумлення. Яны, вучаць класікі, самыя страшныя з усіх. Бо гэта дэвальвацыя духу. У цэлым і іх мы не дапусцілі, але… Пра гэтыя дэвальвацыі, асабліва сумлення, між іншым, вельмі дакладна і па-мастацку разам з многімі таленавітымі пісьменнікамі піша той жа Анатоль Казлоў. З яе, з дэвальвацыі сумлення, пачынаецца разбурэнне не толькі ўласна літаратуры, а найперш чалавечага духу, увогуле — асноў жыцця…

Літаратура пачынаецца там, дзе пачынаецца боль за чалавека, за свой народ, Айчыну. Там жа, дзе боль за ўсё гэта пачынаецца, — і сапраўднае жыццё кожнага з нас: ад палітыкаў да самых простых людзей. Між іншым, пра гэта некалі Анатоль Казлоў, спасылаючыся на класіка грузінскай літаратуры Надара Думбадзе гаварыў мне, цытуючы яго і вызначаючы сваё месца ў літпрацэсе: "Там, дзе пачынаецца боль — пачынаецца літаратура" (даслоўная цытата). І я рады за свайго малодшага калегу, пісьменніка Анатоля Казлова, што ён і сёння, як і на пачатку свайго творчага шляху, застаецца такім жа неравадушным да чалавечага болю, да ўсяго таго, што адбываецца ў жыцці. Ён, выяўляючы пачварнае, пратэстуе супраць разбурэння чалавечага духу. Ён чуйны да ўсіх перамен часу (найперш — не лепшых). Як, дарэчы, многія нашы сапраўдныя пісьменнікі.

Уладзімір САЛАМАХА,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

## Анкета пісьменніка

# Каб вучыць людзей дабрыні…



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, выхавальнікам, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

Паэтэса Надзея ПАРЧУК:

1. Нарадзілася ў глыбінцы. Тут жа, на самай паўднёвай ускраіне Піншчыны, жыла і вучылася. Дык вось, на працягу майго дзесяцігадовага навучання, дый, наогул, за ўвесь час існавання школы ў в. Ладараж, па-мойму, ні адзін вучань пісьменніка ў вочы не бачыў: не прыязджалі да нас пісьменнікі. Аднак усіх класікаў і пісьменнікаў-сучаснікаў мы, вучні 1960—1970-х, ставілі па іх творчым таленце, духоўным развіцці і інтэлекце куды больш вышэй за сваіх любімых настаўнікаў, мы лічылі паэтаў і празаікаў душой народа, святлом нацыі, і нават — пасланцамі нябёсаў. Маё пакаленне і цяпер пашанотна ставіцца да іх як да галоўных носьбітаў і захавальнікаў духоўнасці і культуры народа, стараецца пераймаць ад іх усё лепшае і карыснае. Таму, на маю думку, існуючае меркаванне пра пісьменніка як настаўніка і вяшчальніка ісціны толькі ў ранейшыя часы, мякка кажучы, не зусім карэктнае, ці нават зусім не карэктнае. Бо чаму толькі "пісьменнік быў настаўнікам"? Ён і зараз ёсць, і заўсёды будзе (нават пасля свайго сыходу ў іншы свет).

2. Пагадзіцеся, што з ненармальнымі нораваміі ніякае грамадства нармальна развівацца не здольнае. Таму "падзенне нораваў" і сапраўды — міф у дачыненні да нашых грамадзян у цэлым. Бо пакуль што ў нас ні эканоміка, ні культура не апускаюцца ўніз і нават не топчуцца на месцы, паспяхова развіваюцца ўсе сферы грамадскай дзейнасці. І ўсё таму, што ў нас — слаўная моладзь, выдатныя вучоныя, таленавітыя творцы, працавітыя людзі.

Калі ж на белы свет глядзець вачыма песіміста і заўважаць толькі негатыўныя праявы нашага грамадства, г.зн. п'янства, наркаманію, разбэшчанасць, гультайства, то падзенне нораваў — рэальнасць. Але гэтая рэальная бездухоўнасць датычыцца толькі тых асоб, якія маральна не справіліся ці то са сваімі жыццёвымі выпрабаваннямі, ці то са здрадлівымі спакусамі, ці са складанымі тэхналагічнымі працэсамі, эканамічнымі перабудовамі.

Кнігі пісаліся і будуць пісаца для таго, каб вучыць людзей розуму, дабрыні, спагадзе, любові, духоўнасці, прыгажосці і адпрэчваць усё негатыўнае і нікчэмнае ў жыцці. На кнігі, якія разбэшчваюць грамадства, прывіваюць людзям жорсткасць, насілле, вучаць дасягаць матэрыяльнага багацця, асабістых выгад любой цаной — не варта траціць грошы.

3. Грамадская актыўнасць хоць і адбірае ў пісьменніка шмат часу, але затое шмат і дае, бо пісьменнік знаходзіцца ў гушчы жыцця, якое падказвае творцу новыя тэмы, цікавыя задумкі, дапамагае адкрываць складаныя чалавечыя вобразы, надаваць ім своеасаблівыя рысы ў характары. Жыццё духоўна ўзбагачае пісьменніка як чалавека і як творцу.

4. Апошнім часам прыходзіцца толькі гадаць, чаму у сучаснай перыёдыцы стала цяжка адшукаць такі літаратурны жанр, як нарыс: ці то ў краіне перавяліся нарысісты, ці то яны перасталі гэты неабходны від літаратуры лічыць вартым іх увагі і дарагога часу, ці то добраахвотна саступілі гэты пачэсны абавязак журналістам. Але мне зрэдку шчасціць (напрыклад, перад Днём Перамогі ці яшчэ якім святам) адшукаць менавіта нарысы ў такіх раённых газетах, як жабінкаўская "Сельская праўда", пінская "Полесская правда", камянецкая "Навіны Камянеччыны". У рэдакцыях гэтых выданняў працуюць вядомыя пісьменнікі Алесь Каско, Расціслаў Бензярук, Ніна Дзякава, Мікалай Еляневіч. Яны, як сапраўдныя літаратары, умеюць падаць свой твор па мастацку шчыра, цікава і кранальна.

## Дзве думкі

# Праўда... Праўдзіна

**Вітаючы з'яўленне ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" серыі "Залатое пяро", з задавальненнем перачытваючы кнігі паэтаў, якім пашчасціла ўжо надрукавацца ў ёй, часам лавіў сябе на думцы: калі ж у гэтай аўтарытэтнай бібліятэчцы нацыянальнай літаратуры будзе прадстаўлены хто-небудзь з сучасных празаікаў? І вось, нарэшце, такая кніга пабачыла свет — "Нелюбімыя гінуць" Віктара Праўдзіна.**



Віктар Праўдзін сёлета адзначыў сваё 55-годдзе. Як быццам і не падстава святкаваць такі юбілей, бо ён "не круглы". Што В. Праўдзін і зрабіў. Сціпласць не дазволіла сканцэнтраваць увагу на ўласнай персоне. Хоць, бадай, многія ўжо маглі пераканацца ў тым, што празмерная сціпласць, як тая палка з двума канцамі. Аўтар шматлікіх кніг, у тым ліку і такіх, якія чытачы бяруць нарасхват, ён крытыкай не аблашчаны.

А кніга, між іншым, пакідае вельмі прыемнае ўражанне. Не абыходзячы негатыўных момантаў нашай рэчаіснасці, нават часам, магчыма, празмерна засяроджваючы на іх увагу, як гэта назіраецца ў рамане "Нелюбімыя гінуць" (чытачу прапанавана першая кніга пад назвай "Выпрабаванне"), ён дапамагае чалавеку, якога жыццё чымсьці, а то і многім абдзяліла, як бы скінуць з сябе ўвесь той бруд, што наліпнуў на яго, змыць, каб пастарацца забыць тое, што прыніжае яго як асобу. Паколькі ж галоўныя персанажы гэтага твора жанчыны, дык падобнае ачышчэнне тым больш неабходна.

Як дакладна зазначыў у канцы сваёй прадмовы да кнігі — "Пяшчотныя, чыстыя рукі Мадонны" Віктар Гардзей, В. Праўдзін "слушна давёў многім сваім паклоннікам, што ў кожнай, нават у змучанай жыццём жанчыны, як у той нябеснай мадонны, рукі самыя чыстыя, ласкавыя і пяшчотныя". Давесці гэта, дадам ад сябе, яму было няпроста, бо галоўнымі героямі свайго рамана ён абраў такіх маладых жанчын, чый жыццёвы лёс не тое, што нешчаслівы, але і трагічны.

Хоць бы ў той жа маладой чачэнкі Айшэ. Перад ёй адкрываліся светлыя перспектывы, бо скончыла сярэднюю школу з залатым медалём. Ды над усім быў пастаўлены крыж: будучы муж гвалтам выкраў яе. За гэта яна і не магла кахаць яго...

Айшэ непакоіцца за лёс сына, які нарадзіўся пасля смерці бацькі. Вайна ж працягваецца, небяспека падсцерагае іх на кожным кроку і кулі можна чакаць ад каго заўгодна.

У рамане паўстае жорсткая, аголеная праўда канца XX — пачатку XXI стагоддзя, калі многія, здавалася б, раней непахісныя маральныя асновы пахіснуліся, ледзь не паўсюдна правяць баль грошы, а высокія і светлыя ідэалы падмяняюцца прагай нажывы. Ствараецца ўражанне, што сумленным і прынцыповым проста немагчыма жыць. У першую чаргу, жанчынам, якія, як ніхто іншы, адчуваюць сябе безабароннымі перад абставінамі і людзьмі.

З першых жа старонак рамана нібыта ўвесь белы свет паўстае супраць іх. Шасцёра прадстаўніц слабага полу сабраліся на заробкі ў Германію. За аказанне якіх паслуг ім будуць плаціць, на жаль, здагадваюцца не ўсе. Да таго моманту знаходзяцца ў няведанні, пакуль "рафік", у якім яны едуць, не спыняюць рэкецёры і патрабуюць з кожнай па 50 "баксаў". Адна з пасажырак, Кацярына, прадчуваючы, чаго ім можа каштаваць адмова, хапаецца за брытву. Другая, Ірына, якая шмат паспела пабачыць ужо і для якой, безумоўна, сакрэтам гэтая паездка не з'яўляецца, знаходзіць іншы спосаб разлічыцца з вымагацелямі. Прытым паслугі аказвае ім тут жа, у іхнім "Мерседэсе".

Сцэна, што адбываецца пры гэтым, як кажуць, не для "цнатліўцаў". Пры жаданні лёгка можна папракнуць В. Праўдзіна ў празмерным натуралізме. Але гэта зусім не смакаванне пікантных падрабязнасцей, а праўда, ад якой нікуды не падзенешся. Такая голая праўда — гэта і ёсць праўда В. Праўдзіна як пісьменніка, які імкнецца спасцігаць жыццё ва ўсёй ягонай складанасці, не абыходзячы вострых (і балючых!) момантаў.

Каторую з гераінь В. Праўдзіна ні возьмеш — яна, па сутнасці, Мадонна з падрэзанымі крыламі. У падобным сцвярджэнні не трэба шукаць іронію, сказана гэта сур'ёзна. Мадонна, бо менавіта так ставіцца пісьменнік да жанчыны, успрымаючы яе ўвасабленнем усяго светлага, чыстага, нават святога на зямлі. А з падрэзанымі крыламі таму, што ад рэчаіснасці нікуды не дзенешся.

Аднак кожнай з тых, пра каго расказвае В. Праўдзін, ён дае магчымасць знайсці сваё шчасце ў будучым, не сумняваючыся, што падобнае магчыма.

Валодаючы вялікім майстэрствам, В. Праўдзін нават эпізадычныя персанажы падае так праўдзіва і пераканаўча, што яны ўспрымаюцца неардынарнымі характарамі, лёгка запамінаюцца. Як, скажам, снайперша Вольга. Былая біятланістка, якая пры Савецкім Саюзе "на чэмпіянатах займала прызавыя месцы", расчараваўшыся ў мужчынах, пачынае ваяваць на баку баевікоў, даўшы сабе слова забіць асабіста сто федэралаў.

У аднатомнік В. Праўдзіна ўвайшла і ягоная аповесць "Эксгумацыя". Гэты дэтэктыўна-прыгодніцкі твор ужо добра вядомы чытачу, у тым ліку і замежнаму, неаднойчы друкаваўся. Прыцягальнасць аповесці зноў жа ў праўдзівасці характараў, у выверанным адлюстраванні жыццёвых сітуацый і калізій.

Завяршае кнігу апавяданне "Па-чалавечы..." Хоць, гэта, бадай, і не апавяданне, а навела з няхітрым сюжэтам. Ды сутнасць не ў гэтым, таму што істотна іншае: В. Праўдзін паўсюль перш-наперш застаецца тым чалавеказнаўцам (і чалавекалюбам), якому ў аднолькавай ступені балюча як ад усведамлення таго, што з-за абставін, але ў не меншай ступені з-за людской жорсткасці ламаюцца жаночыя лёсы, так і ад сутыкнення з гэтай самай жорсткасцю ў дачыненні да "братоў нашых меншых".

Ва ўсякім разе на падобную выснову падштурхоўвае выпадак, што адбыўся ў маленстве галоўнага героя, якога, думаецца, невыпадкова завуць менавіта Віцем. Хутчэй за ўсё і сам пісьменнік быў відавочцам таго, як сусед, перш, чым зарэзаць гусака, жорстка абыходзіцца з ім: "ён паставіў гусака на зямлю каля плота, а сам усеўся на неслуха, заціснуўшы крылы паміж ног. Цяпер абедзве рукі ў дзядзькі Мішы вольныя, і ён пачынае накручваць гусакову шыю вакол штакеціны. Раз, другі — шыя доўгая". Хлапчуку ад пабачанага становіцца балюча і ў яго "ад гэтай шкадобы (гусака. — А. М.) па шчоках цякуць пякучыя слёзы".

Тое, што адбываецца, не праходзіць незаўважна і для дарослых:

"Што ж гэта Мішка вытварае? — убачыўшы суседа верхам на гусаку, абурана гаворыць цётка Марыя. — Што ён за нелюдзь?.. Не можа па-чалавечы гусаку галаву адсекчы..." За гэтым "па-чалавечы", калі мець на ўвазе ўсю творчасць В. Праўдзіна, хаваецца глыбокі сэнс.

Такая яна, не ўспрыміце гэта за таўталогію, праўда Віктара Праўдзіна. Дык пачакаем другой кнігі гэтага рамана "Нелюбімыя гінуць", каб даведацца, як далей пачнуць разгортвацца лёсы Любы Анікейчык, Айшэ, Марыі. Ці знойдуць яны сваё шчасце, якое, несумненна, ніякія грошы замяніць не могуць. Нават заморскія.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Нехта з вялікіх сказаў, што літаратура — гэта "ледзь-ледзь". Відаць, гэта азначае, што літаратура павінна адлюстроўваць жыццё праз дакладныя тонкасці. Напэўна, гэта можна параўнаць з тым, як соляць ежу: перасоліш — кепска, недасоліш — таксама, павінна быць — у самы раз. У святле гэтага "ледзь-ледзь" і хацелася б паразважаць пра кнігу прозы Віктара Праўдзіна "Нелюбімыя гінуць", што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". У кнізе змешчаны тры творы: аднайменны раман (дакладней, яго першая частка), дэтэктыўная аповесць "Эксгумацыя" і апавяданне "Па-чалавечы...".**

# «Дробязі»

Паразважаць хацелася б адносна рамана. У творы разгортваюцца тры лініі, якія ўрэшце аказваюцца звязанымі між сабой: гісторыя беларускай дзяўчыны Любы Анікейчык, што трапіла ў Нямеччыну ў секс-рабства, чачэнкі Айшэ, якая апынулася ў ваенным Грозным, і беларускага хлопца Івана Серады.

Калісьці ў Любы і Івана было каханне, аднак маладых людзей разлучыла маці хлопца, сказаўшы, што Іван ажаніўся. Люба з'язджае ў Германію працаваць пакаёўкай, зарабіць грошай. Але трапляе ў пастку. Іван ідзе на вайну ў Чачню добраахвотна. Там, ратуючы жанчыну з дзіцём, ён сам церпіць, яго скалечвае. Тою жанчынай аказваецца Айшэ.

Раман вострасюжэтны, чытаецца лёгка і з цікавасцю, але… Часам сустракаюцца моманты, калі ты прыпыняеш чытанне і думаеш, ці рэальна напісанае ў жыцці?

Прыкладам, лінія Айшэ. Пачынаецца яна сцэнай пахавання Цімура, мужа гераіні: "У памяці ў адначассе ўсплылі бяссонныя ночы, поўныя слёз і праклёнаў, узгадала, як неаднойчы глядзела на спячага мужа і жадала яму смерці. І смерць прыйшла..." Чаму ж яна так ненавідзела яго? Што ж ёй давялося перанесці? З твора бачны толькі адзін "здзек": Цімур яе выкраў і змусіў стаць сваёй жонкай. Але ж тое на Усходзе звычайная справа. Можа, нават і ганаровая.

Да таго ж, Цімур быў жаніх далёка не з горшых — малады, заможны, з паважанага старажытнага роду, ды яшчэ з рэгаліямі: "На той час Цімур, майстар спорту міжнароднага класа па вольнай барацьбе, чэмпіён Расіі і Еўропы, быў кумірам грозненскіх школьнікаў, ягоны партрэт вісеў на ганаровым месцы побач з партрэтам генерала Дудаева". І вось сваты такога знанага жаніха завіталі да бацькоў Айшэ. "Цімуру адмовілі, бо бацька і маці марылі, што адзіная дачка-выдатніца пасля школы будзе вучыцца на медыцынскім факультэце Грозненскага ўніверсітэта. Дый ранавата шаснаццацігадовай дзяўчыне замуж. Праўда, была ўмова, па якой Цімур мог разлічваць на жаніхоўства, але не раней таго часу, калі Айшэ будзе вучыцца на трэцім курсе". У Беларусі, напэўна, так і адказалі б, ды і то падумалі б, ці адмаўляць такому знакамітаму жаніху. Тым больш дзіўнай гэтая сітуацыя падаецца для Усходу. Існуе ж показка, што чым лепшая адукацыя ў дзяўчыны, тым менш там яе цэняць, ды і 16 гадоў — не такое ўжо "ранавата" для тых краін. Але дапусцім — усякае ў свеце бывае.

"Я не любіла, таму ён і загінуў", — кажа Айшэ Лоле, сваёй свекрыві, у час пахавання. З якога ж каменя, здаецца, трэба мець сэрца, каб сказаць такое маці, якая хавае сына. Але і маці, Лолу, тое, што адбываецца, падобна, мала кранае. "Мой сын як сапраўдны джыгіт загінуў, абараняючы Радзіму. Роду Баджыевых не сорамна за яго, і ты абавязана паводзіць сябе як жонка героя", — кажа яна ў адказ. Такое ўражанне, што яна глядзіць серыял і холадна каменціруе падзеі. Якой бы высокай ідэяй ні была апантана маці, але калі ў яе памірае сын, свет для яе перастае існаваць — існуе толькі адно чорнае гора, а наша Лола на пахаванні сына толькі і робіць, што падлізваецца да нявесткі. "Больш нічога я вам не абавязана. Цімура няма, і я не застануся ў вашым доме", — кажа Айшэ. І гэта пры тым, што дом яе бацькоў разбамбілі, што бацькі загінулі, больш нікога ў яе няма, а яна цяжарная.

"Лола і Айшэ з могілак вярталіся апошнімі. На вузкім, у дзве дошкі ў шырыню, хісткім падвесным мастку праз бурлівы горны ручай прыпынілася. Лола выцягнула з рукава белую насоўку, на імгненне прыклала яе да вачэй і адразу кінула ў мутную ад дажджоў ваду.

— Кінь і ты, — падтрымліваючы нявестку за локаць, папрасіла Лола, — няхай вада возьме наша гора...

Айшэ як і не чула. Яна, трымаючыся за вяроўкі-поручні, адштурхнула свякроў і, не адрываючы абцасаў ад дошак, пашкрэбала да супрацьлеглага берага, дзе іх чакаў малодшы Цімураў брат Рэнат. Ён дапамог Айшэ ўскараскацца на высакаваты бераг..."

Яна адштурхнула свякроў... Аўтар, відаць, і сам не заўважыў гэтай "дробязі". Нявестка штурхае свякроў, пажылую жанчыну, на хісткім мастку, ды яшчэ на вачах яе сына! Ды пасля гэтага яе жывой ці пакінулі б!

Ды, відаць, аўтар — увесь у нашых рэаліях.

Лінія Любы Анікейчык доўгі час ідзе даволі пераканаўча. Можа быць, і не заўсёды аўтар трапляе ў "ледзь-ледзь", у нейкія тонкасці, але збольшага — прымальна, цікава, нават захапляльна.

Аўтар пазіцыянуе Любу як станоўчую гераіню — сумленную, разумную. Але хіба, напрыклад, фраза, сказаная ёю эканомцы фраў Эльзе: "Ашчаслівіла, дабрадзейка... Патраціла мой крэдыт на непатрэбнае барахло і паводзіць сябе так, быццам нічога не здарылася..." — сведчыць пра гэта?

А вось тое, што потым адбываецца з Любай, у адзінаццатым раздзеле, увогуле выглядае ненавуковай фантастыкай — гэта тычыцца размоў, сітуацый і г.д. Гэты раздзел, на мой погляд, найбольш непрадуманае, сырое месца ў рамане.

І яшчэ, "замежным" лініям не стае антуражу, нямецкай і чачэнскай мовы.

Лінія Івана Серады развіваецца наступным чынам. У Чачні яму ампутуюць ногі. Ён вяртаецца дахаты, праз некаторы час едзе падлячыцца ў санаторый. У санаторыі таксама лечыцца і крымінал. Там Іван знаёміцца з Марыяй, скалечанай дзяўчынай, якая трапіла ў залежнасць ад злодзеяў, і ратуе — выкупляе яе. (Але ж і санаторый, не раўнуючы, як у турме абставіны). Крымінал выпісаны аўтарам даволі пераканаўча (ва ўсякім разе, тое, што я ведаю пра яго з працы Варлама Шаламава "Нарысы злачыннага свету", супадае з напісаным у творы). Ну, хіба што часам праскокваюць нейкія "дробязі". Напрыклад, момант, калі Іван скруціў галоўнага ліхадзея Зуба, — той пачынае прасіцца адпусціць яго: "Ну, узялі мы трошкі тваіх капеек, не ўсе ж... — заскуголіў ён. — Жытуха такая... Як паглядзіш на куксы-абрубкі, жыць не хочацца, толькі са свіннёй у лужыне спаць... Адно ратаванне — пляшка гарэлкі... І ты хутка гэткім станеш... Грошы вярну, адпусці..." І гэта кажа верхавод злодзеяў, які наводзіў страх на ўсё наваколле? Ён бы, канечне, даваў адступнога ў дадзенай сітуацыі, але, відаць, іншай лексікай. "Адпусці чалавека, мы ж не ўсё забралі, па сумленню паступілі, — падкаціў да Івана Рэмба і, ухапіўшы яго за рукаў кашулі, пачаў нясмела тузаць. — Адпусці, Іван, мы больш не будзем... Ён жа просіцца... Яму ж баліць..."

Нейкія дзіцячыя прамовы — ясна, што баліць, таму і б'юць, каб балела.

Адкуль падобныя хібы? Па-першае, відаць, з-за паспешлівасці, з-за недастатковай прадуманасці кожнага моманту твора. А па-другое, відаць, з-за таго, што ў аўтара нейкі "недагляд" негалоўных герояў, у іх адносінах аўтар забывае, што чалавек — гэта цэлы свет, што яны не могуць быць, напрыклад, просталінейна-адмоўнымі. (Не пра крымінал гаворка, там свая справа. Бо, як вельмі пераканаўча сведчыць Шаламаў, махровы крымінал — гэта ўжо не людзі). У апісанні другарадных герояў — недахоп увагі, а ў галоўных, адпаведна, — лішак, у выніку церпяць і першыя, і другія. А ўвогуле, як бачым, дробязей у літаратуры не бывае.

А вось аповесць "Эксгумацыя" — дабротны дэтэктыў.

Наталля КАПА

Паэт Міхась Пазнякоў на гэты раз парадаваў чытача кнігай прозы з сімвалічнай назвай "Паміж радасцю і болем", у якой змясціў апавяданні, эсэ, абразкі і гумарыстычныя творы (Мінск, выдавецтва "Чатыры чвэрці", 2010). Калі чытаў гэты зборнік, было якраз такое адчуванне, што і сам вярнуўся ў родныя мясціны, пахадзіў па знаёмых, да скону веку родных сцежках-дарожках. Менавіта ён, пісьменнік, падштурхнуў мяне яшчэ раз успомніць сваіх землякоў — жывых і тых, каго, на вялікі жаль, ужо няма на гэтым свеце.




# Нізкі паклон роднаму, свайму

Надзвычай узнёсла, шчымліва згадвае сваю малую радзіму пісьменнік: "Родны, незабыўны кут! Мая ціхая, маляўнічая радзіма! Тут я зрабіў свае першыя крокі — у жыццё, у літаратуру, да людзей. Тут я адкрыў першыя таямніцы, спазнаў першы гарачы боль, першыя радасці і захапленні. Пра яе — мае самыя зіхоткія і чуллівыя ўспаміны. Сюды, дзе б я ні знаходзіўся, цягне мяне дарога. Тут і сягоння чэрпаю сілы, натхненне, святло, дабрыню, прыгажосць, без якіх немагчыма жыць па-сапраўднаму.

Напэўна, адна з самых балючых страт для чалавека — страта сваіх каранёў, той жывой энергіі і чысціні, якімі поўняць нас родная зямля і самыя блізкія людзі.

Залаты куток майго дзяцінства, блакітныя арэлі маіх мар, надзей і памкненняў — невялічкая вёска Забароддзе, што на Быхаўшчыне..."

Пісьменнік цёпла ўспамінае сваю "незабыўную, клапатлівую, цярплівую" матулю Марыю Еўдакімаўну. "Колькі ёй давялося перажыць, вынесці, сцярпець! І цяжкой працы з самага маленства, і жахаў ваеннага ліхалецця. А ці проста гэта — нарадзіць і выгадаваць васьмярых дзяцей?! А ці лёгка было на трэці дзень пасля родаў ісці ў поле жаць збажыну? І — якая мужнасць — зберагчы ўсё ў полымі вайны сябе і двух малых сыноў. Першы муж загінуў на фронце. Пасля вайны выйшла замуж за ўдаўца, на руках у якога вайна пакінула траіх дзетак. А затым далі жыццё і нам шасцярым, сярод якіх я — чацвёрты".

Добрую памяць пакінуў пра сябе і бацька, Павел Кузьміч. Яго ведалі і паважалі не толькі ў наваколлі, але і шмат яшчэ дзе. Гэта быў адметны працаўнік, майстар на ўсе рукі: лясніk і садоўнік, бондар і цясляр, агроном і сіноптык, сталяр і кравец, пчаляр і паляўнічы, рыбак і народны лекар... І як заўважае пісьменнік, "усё ўмеў і нас прывучаў жыць са свайго мазаля і сваім розумам".

Не менш цёплыя словы сказаў Міхась Пазнякоў і пра сваякоў, бабуль і дзядуль, цётак і дзядзькоў, пра суседзяў, пра школьных настаўнікаў. Прыцягальным, ганаровым было для Пазнякова-вучня імя славутага земляка, маршала авіяцыі, Героя Савецкага Саюза, ураджэнца суседняй вёскі Глухі Сцяпана Красоўскага. Некалі ў панскія часы той пасвіў коз, працуючы на пана, а падпаскам у яго быў бацька будучага пісьменніка. На сустрэчу з маршалам, прыгадвае Міхась Пазнякоў, збіраліся людзі з усіх навакольных вёсак. Прасторны двухпавярховы будынак Глухскай сярэдняй школы, узведзены па ініцыятыве маршала і на яго ўласныя грошы, не мог змясціць усіх ахвотных.

З эсэ пісьменніка таксама можна глыбей даведацца пра яго асабістае жыццё і творчасць, пра кнігі, што выдадзены, дзе працаваў і вучыўся жыццёвай мудрасці. Акрамя шэрагу апавяданняў, такіх, як "Ад лёсу не ўцячэш" і "На паўдарозе", якія закранаюць вечную тэму кахання, няпростых адносін паміж мужчынамі і жанчынамі, звяртаюць на сябе ўвагу абразкі. Невялікія па памеры, але глыбокія зместам, яны якраз у поўнай ступені раскрываюць (як, відома ж, і эсэ пра малую радзіму) назву кнігі — "Паміж радасцю і болем". Хораша чытаюцца абразкі "Праскоўя Ільінічна", "Міша Шапулоў", "Сашка", "Праз сорак гадоў...", "Матчына надзея", "Дабрата", "Вінтоўкі", "Ранні наведвальнік" і многія іншыя. Апошні абразок, дарэчы, вельмі актуальны для нас, пісьменнікаў, асабліва для тых, хто займае пасады ў выдавецтвах і літаратурных выданнях. Скажыце праўду чалавеку, не шпурляйце яго з кабінета ў кабінет: ну, дрэнь, гэта зусім непісьменна і друкаваць няможна!.. Не вадзіце, адным словам, за нос. Герой абразка "Ранні наведвальнік", упершыню пачуўшы праўду пра сваё пісанне, не пакрыўдзіўся, а, наадварот, сказаў рэдактару: "Дзякуй!". А праўду, як бачым, разумныя людзі любяць.

У раздзеле "З новым падыходам" пісьменнік змясціў гумарыстычныя творы "Паездка да мора", "Незвычайная сустрэча", "Мая дапамога школе", "Адпомсціла", "Чыя дачка?", "Мудраслоўі", "Першакрасавіцкія заклікі" і "Агрэхі на арэхі".

Міхась Пазнякоў добра ведае жыццё людзей, пра якіх піша. Таму ствараe яркія, запамінальныя вобразы. Прасякнутая шчырай удзячнасцю, глыбокай любоўю і сыноўнім клопатам, чыстым і светлым позіркам на рэчаіснасць, проза пісьменніка кранае сваім лірызмам, хвалюе і прымушае думаць і суперажываць.

Кніга Міхася Пазнякова "Паміж радасцю і болем", безумоўна ж, знойдзе свайго чытача. Пісьменнік стварыў не проста чытэльную кнігу. Ён, як сын матулі, у пояс пакланіўся сваёй малой радзіме — вёсцы Забароддзе і людзям, што жылі і працягваюць там жыць.

Васіль ТКАЧОЎ

# Вершы, якія нас не пакрыўдзяць

Неяк Янка Брыль сказаў: "Маленькі чытач непадкупна патрабавальны, чулы на праўду і фальш у іх найменшым выяўленні, ён дапускае ў свет сваёй чыстай, паэтычнай душы толькі таго, хто таксама шчыры і закаханы ў прыгожае". Безумоўна, шчыры і закаханы ў прыгажосць і духоўнасць аўтар зборнічка вершаў "Даравальная нядзеля", які нядаўна пабачыў свет у выдавецтве "Смэлтак". Аўтар гэтых — беларускі паэт Алесь Клышка. Сваю чарговую кніжку вершаў ён прысвяціў дзеткам і іх бацькам.




Кніжка надзвычай арыгінальная і добрая ва ўсіх мастацкіх адносінах. Дый інакш быць не можа. Бо сама назва яе — "Даравальная нядзеля" настройвае на добры лад, на мудрасць, на чысціню. Калі юныя чытачы не ведаюць, дык нагадаю, што Даравальная нядзеля — гэта апошняя нядзеля перад Вялікім постам ці 7-я нядзеля перад Вялікаднем. У гэты дзень усе праваслаўныя вернікі просяць адзін у аднаго прабачэння. Просяць дзеля таго, каб далучыцца да поста з добрай душой, засярodзіцца на духоўным жыцці, каб з чыстым сэрцам сустрэць Вялікдзень — дзень Уваскрэсення Хрыстова.

У гэты самы дзень трэба дараваць і тым, хто нас пакрыўдзіў, а таксама ўсім нам папрасіць прабачэння ў тых, каго мы вольна ці нявольна пакрыўдзілі. Інакш марнымі будуць нашы імкненні падчас поста.

Некалі нават цары прасілі прабачэння ў сваіх падданых. З гэтай мэтай яны аб'язджалі войска і прасілі прабачэння ў салдат, а потым наведвалі храмы. Маленькім храмам духоўнага даравання з'яўляецца кніжка вершаў Алеся Клышкі. Яе галоўны герой — хлопчык Ясік (Янка). У пачатку кнігі юнага героя цікавіць ранак, які абуджае людзей да справы, потым — дзень, які ўпрыгожвае стол прысмакамі, а потым ноч, якая сцеражэ спакой і змрок. Ясік падрастае, і яго пачынае захапляць рыбалка, ён жадае даведацца, напрыклад, хто такі цвыркун. Але найбольш хлопчыка цікавяць народныя і рэлігійныя святы і звычаі — Масленіца, пост і, вядома ж, Даравальная нядзеля.

У канцы кнігі Ясік становіцца дарослым, ён ходзіць у царкву, яму, як і ўсім беларусам, аўтар жадае:

Дык будзь жа заўсёды здаровы,
Волат зямлі беларускай.

Зборнік вершаў Алеся Клышкі прыцягвае чытачоў і таленавітым спалучэннем гумару і духоўнай тэматыкі. Юных і дарослых чытачоў вершы аўтара прымусяць думаць, супастаўляць, рабіць высновы, пазнаваць прыгажосць, мудрасць і сілу, а таксама дапамогуць у хрысціянскім выхаванні. І самае галоўнае, дзякуючы "Даравальнай нядзелі" Алеся Клышкі, чытачы, па словах французскага паэта Поля Элюара, узнімуцца ў сваім светапоглядзе "ад далягляду аднаго да далягляду ўсіх". А гэта сёння вельмі важна.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Сведчанне сучасніка

Сярод выданняў так званага бліжняга замежжа не так проста сёння адшукаць нешта датычнае беларускіх літаратурных рэалій. Калі ж падобная кніга і выходзіць у свет, то найчасцей застаецца без увагі ад саміх беларусаў: выдавецтваў на постсавецкай прасторы цяпер тысячы і нават бібліёграфы буйнейшых бібліятэк не ў стане ахапіць і зафіксаваць усё новае. Такой малазаўважаной рызыкуе застацца і кніга ўспамінаў, нарысаў і эсэ даволі вядомага крытыка познесавецкага перыяду Леаніда Тэракапяна, сталага аўтара часопіса "Дружба народов". А між тым у гэтай навінцы (кніга пад назвай "Между исповедью и проповедью: очерки о писателях СНГ и Балтии" выйшла сёлета ў маскоўскім выдавецтве "Культурная рэвалюцыя") утрымліваюцца звесткі пра гісторыю публікацый твораў беларускіх пісьменнікаў (І. Мележа, А. Адамовіча, В. Быкава) у слынным шматнацыянальным часопісе.




Ды і сам аўтар быў асабіста знаёмы з нашымі выбітнымі празаікамі. У артыкулы пранікаюць і фрагменты мемуарнага характару: "Там, у спякотным, задушным Кактэбелі Іван Паўлавіч амаль не пакідаў свайго нумара. Мясцовая прыбіральшчыца проста стамілася: не магу падмесці, сядзіць і сядзіць. Я дык па маладым наіве радаваўся — значыць, ідзе работа, у часопісе ўжо зачакаліся абяцанага працягу "Палескай хронікі". Аднак на мае настойлівыя роспыты "калі?" празаік адказваў з вінаватай усмешкай: пішу. Да кропкі яшчэ далёка. І за гэтай няўпэўненасцю стаялі не толькі пакуты творчасці, але і падступная хвароба, прадчуванне, што не паспее".

Цікавыя характарыстыкі (на матэрыяле назіранняў) дае Л. Тэракапян і Алесю Адамовічу: "Стаўленне да Адамовіча ніколі не было адназначным. Так, прызнаны празаік, крытык, публіцыст, літаратуразнаўца. Але ён жа і парушальнік спакою, усчынальнік дыскусій, вораг догмаў. Фігура дужа нязручная для чыноўнікаў... Чаго-чаго, а раўнадушша ў ім не было. Ніколі. Сыду з эмпірэй на зямлю. Дзеля штодзённасці, чыста жыццёвай ілюстрацыі. У снежні 1991 года мне прыйшлося трапіць з інсультам у рэанімацыю. Час быў суровы, жорсткі. І да ўсяго іншага — адчайны дэфіцыт з лекамі. Мае знаёмыя — некаторыя пры пасадзе, ступені і "з сувязямі" — скрушна разводзілі рукамі. Нейкі элементарны, хадавы прэпарат (цяпер ён паўсюль), дастаць немагчыма. Хіба па блаце, у Крамлёўцы, але для гэтага патрэбныя даведкі... Карацей, беганіна. Час ішоў ужо на гадзіны, у рэанімацыі паніка, родныя з ног збіліся, вышукваючы неабходнае. У апошні момант, па нейкім праясненні, выплыла з памяці імя Адамовіча. Можа быць, ён створыць цуд? Алесь не ўздыхаў, не вохкаў, толькі ўважліва выслухаў, што патрэбна. На наступны дзень лекі былі ў бальніцы. Не ведаю, як ён іх знайшоў. Пэўна, таксама мог адбрахацца. Бо сам жа быў на мяжы інфаркта, які і адбыўся праз тры тыдні. Але пра гэта я даведаўся толькі пасля выпіскі... Заўжды і паўсюль ён быў накіраваны на пераадоленне. Закасцянеласці, самазаспакоенасці, інерцыі. І ў грамадстве, і ва ўласнай творчасці". Нямала слоў аддадзена Л. Тэракапянам гісторыі публікацыі ў часопісе "Дружба народов" аповесці А. Адамовіча "Карнікі": "Добра патрапала яна мне нервы. Але рэдкі выпадак у маёй журнальнай практыцы — на ўсіх этапах праходжання рукапісу аўтар быў побач, падстаўляў плячо, шукаў варыянты пераадолення цэнзурных затораў. Лавіна прыдзірак нібыта зусім не бянтэжыла яго. Наадварот, распальвала азарт, падштурхоўвала да вынаходніцтва ўдакладненняў, якія былі толькі на карысць аповесці. На памяць пра гэтую катаргу на маім стале засталася драўляная попельніца, падараваная Адамовічам пасля выхаду доўгачаканага нумара часопіса. Ужо ж колькі было выкурана цыгарэт за тыдні нашых блуканняў па пакутах і непазбежных бадзянняў па інстанцыях. І можа быць толькі мне зразумелы надпіс на кнізе: "Заўваж, што сярод маіх гіпербарэйцаў няма тваіх землякоў, ніводнага. Нібы адчуваў, хто мне ўратуе кнігу!". Пасля публікацыі пасляслоўя да "Хатынскай аповесці" Алесь неяк няўзнак, амаль мімаходзь прапанаваў напісаць кнігу пра яго. Прапанова была зманлівая, але, падумаўшы, я адмовіўся. Надта шмат трэба было ведаць для гэтага. І не прыблізна, а падрабязна, з нюансамі культуры і мовы".

У кнізе таксама змешчаныя роздумы над творамі Івана Чыгрынава і Васіля Быкава (трохі слоў аддадзена і гісторыі публікацыі ў згаданым часопісе аповесці "Знак бяды", больш падрабязна пра гэта — гл. у двухтомнай біяграфіі аўтарства С. Шапрана), "Палескай хронікай" Мележа. Крытычныя развагі Л. Тэракапяна цікавыя і сваім арыгінальным падыходам, а каштоўныя перадусім тым, што перад намі, па сутнасці, меркаванне і ацэнкі чалавека збоку, толькі часткова ўключанага ў беларускі кантэкст. Гэта заўсёды дае іншы вугал асвятлення любога пытання ці праблемы. Што да біяграфічнага і, так бы мовіць, сацыёлага-літаратурнага матэрыялу, то ён павінен быць улічаны пры складанні адпаведных кніг пра вядомых беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

№ 44 5 лістапада 2010 г. Літ



Мікола АНТАНОЎСКІ

## Сярод лістоў

І з ценем смутку, нейкага папроку
Сябе спытаю:
“Хто ты на зямлі?”
Няўжо, як ліст самотна-адзінокі
Сярод лістоў,
што сыплюцца з галін?

Хаджу ў задуме ціха між бярозаў
І, ап’янелы, можа, ўпершыню
Так разважаю аб жыцці цвяроза
І так высока сэнс яго цаню.

Таму прычынай, мусіць,
гэта восень—
Нібы ў яе патрапіў неспадзеў,
Калі шукаюць вочы ў небе просінь,
А бачаць шэрыя шкілеты дрэў.

І, хоць я знаю, што пасля завеяў
У прадчуванні з выраю гракоў
Вішчо бяроз ізноў заружавее,
Сумніў гняце з упартасцю грахоў.

А мо сумніў мой —
гэта бура ў шклянцы,
Калі душа так прагне цеплаты?..
Ах, як зайздросна у паўсонным танцы
Ляцяць з бяроз спакойныя лісты!

* * *

Сонца шчаслівае: знае бязмежжа,
Нам жа гадаць: ну, а што за імглой?
Вызначыць нельга і з Эйфеля вежы,
Як жа сыходзяцца неба з зямлёй.

Мілая, толькі не трэба смяяцца
З вершаў, прапетых маёю душой, —
Быццам не знаеш,
што лепш закахацца
Там, дзе сыходзяцца неба з зямлёй.

Як не стае нам сустрэч пад вярбою
І туманоў маладых над раллёй!
Дзякую лёсу: сышліся з табою
Так, як сыходзяцца неба з зямлёй.

Пэўна, да скону ў тым будзе патрэба —
Ведаць, што там, за сівою імглой...
З чырвані сонца чырвоная глеба —
Гэта сыходзяцца неба з зямлёй.

## Нехта

Аднойчы прачнуўся. І глянуў
На Нейкага ў люстры сябе —
Вачам не паверыў. І сп’яну
Да рэчкі халоднай пабег.
Чало акрапіў ён вадою
І плюнуў — сябе не пазнаў.
Вярнуўся. Дрыготкай рукою
Уліў у вантробы віна.

У вусны ўшчаміў цыгарэту
І ў вочы пусціў цёплы дым —
Гадае, якога ж ён свету:
На гэтым жыве ці на тым?

І розум, бы той Дом Саветаў,
Уцяміць не можа, чаму
Ужо не патрэбны ён свету
Ні гэтаму і ні таму...

## Чаканне

Няўжо зіма зноў прыйдзе нечакана?
Яшчэ ж і жар рабінаў не ачах
І ў садзе яблык пераспелых пах
Салодзіць ранкам малако туману.

Яшчэ галоўкі белых хрызантэмаў
Таемна зазіраюць у акно —
Там бродзіць вінаграднае віно,
Вурчыць пад гаману
вясельнай тэмы.

І ўжо прымераны празрысты вэлюм
Пад колер
першароднай чысціні.
І, хоць яшчэ ўсе прагнуць цеплыні,
Вось-вось нябёсы
нас атуляць беллю.

Надзей купальскія вянкі на Яна
Даўно прыбіла
плынь да берагоў,
І толькі велічнасць густых снягоў
Чаканне верне зноўку нечакана.

* * *

Наліў віна сасмяглай шклянцы
І выпіў прагна, за паўдых.
Сядзеў. Як пацеркі ружанца,
Перабіраў свае гады.

Гадаў: ці скарб яны, ці смецце,
Што выкінуць пара даўно?..
Ён быў дзівак на гэтым свеце,
Бо паважаў адно віно.

І да яго, як да паэта,
Прасіўся дожджык праз акно.
Каго любіць у свеце гэтым?
Каб не любіць, — ён піў віно.

Курыў салодка цыгарэты —
І дым візеў над ім віной.
Чаму зайздросціць ў свеце гэтым?
Каб не зайздросціць — піў віно.

Удвух са шклянкай. Лішні трэці…
Няўжо праз дно глыбей відно:
Сляпому лепш на свеце гэтым?
Каб ім не быць, — ён піў віно.

## Белы птах

Бываю рэдка на магіле,
Дзе хвоя пакручастая ў бядзе
Шуміць, пакуль яе не сціпяць
Або пакуль пад ветрам не ўпадзе.

Над помнічкам галінаў крылы,
На іх садзіцца часам белы птах.
Ён прылятае да магілы
Не светлым днём,
а толькі па начах.

Калі тут вусцішна і глуха,
Каменным карткам страшна і крыжам,
Той белы птах развее скруху —
Яе ў капліцы сцеражэ кажан.

Той белы птах —
са сноў трывожных
Маёй душы збалелай пасланец...
Ды ў песні кожнай, спеве кожным
Чамусьці радасны заўжды канец.

І тайну знаюць толькі двое:
Я ды мой бацька, што дачасна схаў, —
Чаму я рэдкі госць ля хвоі,
Чаму ў галлі яе спявае птах…

## Ля кастра

Прагны жар каўтне бярозу —
Толькі пусціць белы дым.
Я дзіўлюся: як жа проста
Апынуцца ў свеце тым,
Дзе ні рангу, дзе ні чыну
Не спытаюць у цябе,
І навошта ім прычына —
Ты вясёлы ці ў журбе.

Лепш, канечне ж, каб усмешна
Развітацца мне з былым, —
Не святым, але й не грэшным,
Толькі мудрым і сівым.

Лепш, канечне, каб не рана
(А пра позна — не кажу),
Без шкадобы і падману
Адпусціць у свет душу.



Алесь ВЯРЦЕЙКА

Б.М.

* * *

У рэху чорна-белых сноў
Злаўлю цябе мярэжай думаў
Аркуш жыцця пачну наноў
Пад шэпт старых крывіцкіх рунаў
Памкнуся ў невядомы край
У калаўрот штодзённых мрояў
Дзе пераможаны адчай
І зніч гарыць святлом герояў

## Прарок

Усе смяяліся навокал,
А ён — маўчаў.
Усе спяшаліся кудысьці,
А ён — чакаў.

І ўзняўся раптам ён і штосьць
Пачаў казаць сляпому люду.
Ён не маўчаў,
Ён быў прарок.

* * *

Усмешка дзіўная на вуснах,
У вачах блукае таямніца.
Маўклівы позірк сярод ночы:
Складана з ім не пагадзіцца.
Пры ззянні ліхтароў рахманых
Гляджу ў твой твар, нібы ў люстэрка,
Чаканнем ціхім апантаны,
А там — блукае паняверка…

* * *

Пад гукі начной цішыні
прачынаецца існасць,
у віры шалёным кружляюць
законы жыцця...
“Цяпер” адыходзіць на заўтра
і прыкрая шчырасць
сумленне катуе дашчэнту,
да забыцця...

* * *

Шпацыр па Старавіленскай уночы,
У экстазе захапляе моцна дых,
Слязяцца ручаём сляпыя вочы:
Шапчу малітву — верш чытаю ўслых.

У цямрэчы чую голас — водгук лёсу,
Імкнуся наўздагон яму брысці.
Наўкол адно — плыве туман бялёсы?
Туман густы. З дарогі не сысці.
Шапчу малітву, ад спакус замову:
Шукаў
Імкнуўся
Йшоў
Знайшоў
Спасціг...

* * *

Я, дзіця Сусвету,
сяджу на ўскрайку
й грэюся прамянямі
усмешліва-яскравага Сонца.
Ты, усмешліва-яскравае Сонца,
сагрэй мяне сваімі пратуберанцамі:
бывае, ты так прыпякаеш,
што кругам ідзе галава ў хаосе.
Але:
Я, як былінка, расту ўгару.
Я цягну свае парасткі да тваёй
ні на што не падобнай існасці.
Я жыву.



Ганна НІЧЫПАРОВІЧ

## Так бывае...

Пустата запаланіла сэрца,
Так бывае з намі у жыцці,
Калі дзесьці нітачка парвецца,
Вельмі цяжка той канец знайсці.

Нітачка за нітачкай — прарэха,
Скроні рэжа думка, аж звініць.
Так балюча адгукнецца рэха,
Не вярнуць былога, не змяніць.

Не вярнуць і не змяніць... Здаецца,
Скруха пасялілася навек.
Радасць сярод болю
не ўжывецца,
Як бы ні стараўся чалавек.

* * *

Кранае сонца небакрай,
Праменьчык на зямлю спусціўся.
Ты, ранак, трошкі пачакай,
Бо хлебароб спаць не лажыўся.

* * *

Калі пачуцці глушаць розум,
Адказнасць моўчкі назірае,
А са спазненнем прыйдзе роздум:
Падумаць страшна, што чакае.

* * *

Жыццё складаецца з хвілін
Чакання, мітусні, спачыну,
На момант адпусці спружыну,
І ў полі воін — ты адзін.

* * *

Кожны дзень —
Гэта дзень чаканняў,
Успамінаў
І намаганняў,
Мар,
Надзей
І самоты
Глухой.
Але ж вечар —
Не за гарой.

## Родная хата

Першыя крокі,
Першыя словы,
Першыя гукі
Роднае мовы,
Ды павучанні
Матулі і таты —
Гэта і вабіць
Да роднае хаты.
Вуснамі я
Прыпаду да крынічкі.
Б’ецца яшчэ тут
Струмень невялічкі.
Гэта крынічка
Дзіцячых жаданняў,
Сноў каляровых
І першых прызнанняў.
Кожны куточак
Роднае хаты
Грэе, бы рукі
Матулі і таты.

## Вёска

Аджывае вёска,
Каміны — набаты,
А душа смуткуе,
Просіцца дахаты.
Ашалелы вецер,
Нібы ў танцы-твісце,
На макушы вязаў
Абрывае лісце.
Зараслі сядзібы
Лебядой, асотам...
Выбітыя вокны
Над струхлелым плотам.
Вуліцы шырокай
Як і не бывала,
Дзе мяне матуля
Кожны раз страчала.
І буслы гняздзіцца
Там зусім не хочуць,
Ля пустой хаціны
Болей не клякочуць.
Сумнымі вачыма
Хата пазірае
У маё дзяцінства
І — мяне чакае.



Фота Кастуся Дробава

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

5 лістапада 2010 г.

Выпуск 21

# Кніганоша з Тэатра юнага гледача

Для аматараў мастацтва акцёр ТЮГа Ігар Сідорчык не мае патрэбы ў прадстаўленні. Граф Дарынкур у спектаклі "Маленькі лорд Фаўнтлярой", Містар Пэндлтан у "Паліяне", рэжысёр-пастаноўшчык казкі воўчага лесу "Па зялёных гурбах акіяна", выканаўца шэрагу роляў на тэатральнай сцэне і ў кіно. Але сённяшняя наша гутарка — пра сюжэт "Кніжная лаўка", які Ігар Яўгенавіч прадстаўляе гледачу ў фармаце перадачы "Наша раніца" на АНТ, і пра кнігі наогул.



— Ідэя стварыць сюжэт, прысвечаны кнігам, нарадзілася некалькі год таму ў тэлерэжысёра Сяргея Дужа, які працаваў на 8 канале. Ён і зрабіў пілотную версію. Паколькі я дастаткова даўно супрацоўнічаў з гэтым калектывам, мне прапанавалі быць вядучым. А потым сюжэтам зацікавіўся тэлеканал АНТ, у выніку чаго "Кніжная лаўка" была ўключана ў папулярную перадачу "Наша раніца".

— Што з сябе ўяўляе сюжэт?

— Ён выходзіць кожны тыдзень у сераду. Сама перадача працягваецца з 6 да 9 гадзін раніцы, і вось у гэты прамежак рэжысёр устаўляе наш невялікі сюжэт. Маёй задачай з'яўляецца паказ новых выданняў любога жанру. Некалькі слоў пра новую кніжку, дзе яе можна набыць. Прычым, згодна з фарматам, для перадачы не патрабуецца крытычны аналіз. Хутчэй ацэнка паводле ўласнага мастацкага густу. У перспектыве мару пра перадачу, дзе б кнігі разглядаліся падрабязна, грунтоўна, так, як гэта робіцца ў Расіі. Але для гэтага патрабуецца іншы вядучы, хутчэй, прафесійны філолаг.

— Як ажыццяўляецца адбор выданняў?

— Кнігі выбіраю сам. Заходжу ў крамы, выдавецтвы. Праглядаю кніжныя навінкі. Нейкага знешняга кантролю няма. Ёсць унутраны кантроль. Часам бачыш новае імя, гартаеш кнігу, а на старонках — нецэнзурныя выказванні. Такія выданні, зразумела, у перадачу не трапляюць. Хоць у іншых сітуацыях часам даводзіцца паказваць кнігі, якія не чытаю: фантастыку, фэнтэзі. Але ж камусьці з чытачоў яны падабаюцца.

— Які рэзананс ад перадачы? Ці прапаноўваюць вам знаёмыя і незнаёмыя аўтары расказаць пра свае кнігі?

— Спецыяльна водгукі не адсочваю. Хоць часам прыемна даведвацца, што сюжэт паспрыяў продажу. Напрыклад, 27 асобнікаў кнігі знакамітага беларускага барда 1960—1970-х Арона Крупа, якія прадаваліся ў кніжнай лаўцы, што месціцца ў Акадэміі навук, былі раскуплены імгненна.

З аўтараў наўпрост амаль ніхто не звяртаўся. Аднойчы звanілі з Брэста, пыталіся, дзе выйшла кніга пра Белавежскую пушчу. А вось у мінулым годзе акцёр нашага тэатра і пісьменнік Анатоль Жук, ужо нябожчык, падарыў мне свой скандальны раман "Бульвар" пра жыццё багемы. Я яму сказаў, што кнігу абавязкова прадстаўлю, але хваліць не буду. Нават пасварыліся з ім крыху.

— А як вы прыйшлі да неабходнасці прапаганды кнігі?

— Мне здаецца, выбару ў мяне не было. У спектаклі "Танга ўтраіх" рэжысёра Яўгена Валабоева, які паказваецца на сцэне КЗ "Мінск" і на пляцоўцы Дома літаратара, выконваю ролю пісьменніка Абеля Знорка, Нобелеўскага лаўрэата (смяецца).

Патлумачу на сваім прыкладзе. У Санкт-Пецярбургу ў мяне ёсць родныя. Калі прыязджаю да іх, пачынаю запытваць: "Дзе былі?", "Што бачылі?". І высвятляецца, што і да Эрмітажа не дайшлі, і ў тэатр не патрапілі, хоць жывуць зусім недалёка. Здаецца, калі блізка, можна скарыстацца ў любы момант. А потым забываешся або адкладаеш да бясконцасці. Так і з кнігамі. Тэлебачанне закрывае жыццё ад людзей. Але спадзяюся, што пасля нашага сюжэта некаторыя людзі выходзяць з дому і ідуць у кнігарні.

— Хто ўплываў у вашым жыцці на выбар кніг?

— Мастацкі густ прывіваецца бацькамі, настаўнікамі ў школе і ва ўніверсітэце. Не разумею цынізм маладых людзей, якія думаюць, што старыя наўрад ці могуць расказаць нешта цікавае. Часам нават шкадую, як мала ўзяў у людзей, з якімі сустрэўся ў жыцці: разуменне літаратуры, мастацтва, мінулага. Цудоўна памятаю сваіх выкладчыкаў. У школьныя гады гэта былі настаўніца рускай літаратуры Нэлі Лур'е і кіраўнік тэатра юнацкай творчасці Валерый Мароз. Сярод выкладчыкаў тэатральнага інстытута адразу ўзгадваю прафесара Аркадзя Скіра, які выкладаў у нас замежную літаратуру. Ён працаваў у некалькіх навучальных установах і часам мог пераблытаць аўдыторыю. Таму пачынаў чытаць нам лекцыю па-французску, нібыта перад ім сядзелі студэнты інстытута замежных моў. Потым разумеў сваю памылку, выбачаўся і пачынаў з таго месца, дзе скончыў лекцыю. Выкладчыка сцэнічнага маўлення Ілью Кургана, уладальніка ўнікальнай бібліятэкі. Веру Рэдліх, якая праводзіла заняткі па майстэрстве акцёра. Яна была вучаніцай Станіслаўскага, асабіста ведала лепшых пісьменнікаў пачатку ХХ стагоддзя і расказвала пра сустрэчы з імі.

Аднойчы, неўзабаве пасля паступлення ў тэатральны інстытут, наш педагог, артыст Купалаўскага тэатра Аўгуст Мілаванаў папрасіў падрыхтаваць урыўкі з твораў. Калі ўбачыў аўтараў, папрасіў дастаць аркушы паперы і пачаў дыктаваць спіс таго, што мы павінны былі прачытаць.

— Што да таго часу ўжо было прачытана? Якімі выданнямі цікавіцеся зараз?

— Шмат чытаць пачаў яшчэ ў школе. З таго часу збіраю кнігі, таму ў мяне дома назапасілася вялікая бібліятэка. У 4-5 класах перажыў захапленне светам прыроды. Марыў звязаць жыццё з прафесіяй ветэрынара, дрэсіроўшчыка, таму прачытаў усе кнігі пра жывёл у школьнай бібліятэцы. Любімымі пісьменнікамі былі Джэк Лондан і Эрнест Сетан-Томпсан, аўтар шматлікіх кніг пра жывёл. Захапляўся прыгодніцкімі творамі, кшталту "Палескіх рабінзонаў" Янкі Маўра. Пасля стаў больш увагі надаваць класіцы — Дзікенсу, Пушкіну, апавяданням Чэхава. Галоўнае, трэба выхоўваць мастацкі густ, каб чалавек у адпаведным узросце мог зразумець думкі аўтараў.

Шмат знаёмлюся з драматычнымі творамі, шукаю ў іх нешта новае для тэатра. Апошнія кнігі — проза пецярбургскага празаіка Алены Чыжовай і Міхаіла Шышкіна. Зараз набыў для сябе кнігу літаратуразнаўцы і крытыка Андрэя Сіняўскага.

Мой калега па АНТ, вядомы тэлевядучы Аляксандр Аверкаў называе мяне "кнігалюбам" і "кнігазнаўцам". А на самай справе я — кніганоша, бо заўсёды цягаю з сабой на тэлебачанне партфель з цяжкімі кніжкамі (смяецца). Калі ж сур'ёзна… Памятаеце знакамітых "Кніганошаў" Караткевіча? Галоўны герой апавядання, стары Корч, кажа пра кнігі: "Сын мог чытаць… А мяне не ўмудрыў Пан Бог… Але я іх люблю". Так і я. Калі бяру кнігу, узнікае рабалепства перад выдумкай чалавека. Павага да людзей, якія знайшлі мужнасць, жаданне, волю пачаць пісаць. Ніякі Інтэрнэт не здолее замяніць кнігу. Гэта бяздонны акіян, у якім можна плаваць да бясконцасці, і ніколі не дасягнуць дна.

Гутарыў Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Фота Кастуся Дробава

## Вітрына

# Хіты і сакрэты «Раніцы»




Бадай што самая невялікая з магілёўскіх кніжных крам ААТ "Магілёўсаюздрук" "Раніца" знаходзіцца на праспекце Міра. У краме дзве невялічкія залы. Амаль ля самага ўвахода — перыядычны друк, за спінай касіра — у лепшых еўрапейскіх традыцыях — палічка з новымі паступленнямі, а самае ўтульнае месца адведзена беларускай літаратуры. Ужо восем гадоў загадчыцай "Раніцы" працуе Вольга Аўдзеева.



— Вольга Генадзьеўна, што змянілася ў кнігарні за гэтыя гады?

— Спачатку магазін быў арыентаваны ў першую чаргу на вучняў. Сёння на тых жа плошчах месціцца не толькі запатрабаванае вучнямі ў сезон падрыхтоўкі да 1 верасня.

Ёсць электронная база, на касе камп'ютар. Заказ — ад 1-2 экзэмпляраў да 150, калі ідзе размова пра вучэбныя дапаможнікі, — фарміруецца пад уплывам сезоннага попыту, да пачатку новага навучальнага года актыўнасць пакупнікоў узрастае, пасля назіраецца невялікі спад.

— Наколькі папулярныя ў пакупнікоў беларускія кнігі?

— Беларуская кніга запатрабавана, найбольшым попытам карыстаюцца кнігі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі": пра прыроду, краязнаўчай тэматыкі. Кніга "Спадчына Беларусі" — проста шэдэўр. Яна мела поспех і ў чытачоў постсавецкай прасторы, і ў замежных. Добрым словам прыгадаю і фотаальбом "Мой Магілёў". Госці горада — замежныя турысты, нашы суайчыннікі, удзельнікі шматлікіх канферэнцый з задавальненнем забіраюць з сабою часцінку Беларусі, каб падзяліцца ўбачанай прыгажосцю з сябрамі.

Паэзія разыходзіцца нядрэнна, але сярод даўніх аматараў. Кнігі Амара Хаяма запатрабаваны. З сучасных празаікаў — Наталля Батракова, Тамара Лісіцкая.

Яшчэ адзін хіт продажаў — кніга Аксаны Катовіч і Янкі Крука "Золотые правила народной культуры". Паболей бы такіх выданняў!

> Беларуская кніга запатрабавана, найбольшым попытам карыстаюцца кнігі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі": пра прыроду, краязнаўчай тэматыкі.

Наведвальнікі ахвотна набываюць творы беларускіх класікаў: "Дзікае паляванне караля Стаха", "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Трывожнае шчасце", "Сэрца на далоні", "Знак бяды" і іншыя.

— Якія формы работы з пакупнікамі ў вас найбольш папулярныя?

— Традыцыйныя. Навінкі размяшчаем на палічцы, якая адразу кідаецца ў вочы. Безумоўна ж, спачатку прачытваем самі, каб маглі давесці пакупніку, пра што новая кніга.

Дапамагае і рэклама кніжных навінак на мясцовым тэлебачанні. Добра разыходзяцца кнігі ў межах акцыі "Тэрыторыя нізкіх цэн".

Прэзентацыі ў краме не праводзім, плошча не дазваляе. І, відаць, усё ж такі гэта больш зручна рабіць у бібліятэцы. Калі нас, прадстаўнікоў гандлю, на прэзентацыі запрашаюць, ніколі не адмаўляемся.

— А не перашкаджае "Раніцы" наяўнасць побач вялікай кніжнай крамы?

— Ды не, пакупнікі кажуць, што нашы цэны крышачку ніжэйшыя за тыя, што выстаўляюць суседзі. Ды і наведвальнікі ў нас пастаянныя, лічыце, добрыя знаёмыя. Дарэчы, заказы на кнігі прымаем пастаянна. Ёсць каталогі, па якіх таваразнаўцы знаходзяць, замаўляюць патрэбнае — і кніга паступае ў кнігарню.

Многія з пастаянных пакупнікоў сёння пенсіянеры, часам хадзіць ім да нас ужо цяжкавата, калі шукаюць кніжку, дык звоняць па тэлефоне. Мы яе абавязкова знаходзім, заказваем, звязваемся з пакупнікамі і запрашаем прыйсці за пакупкай. Аднойчы нават самой давялося аднесці кнігу дадому хворай жанчыне. Няцяжка гэта!

— Вольга Генадзьеўна, як мяркуеце, не спыняць існаванне крамы пашырэнне інтэрнэт-выданняў ды электронныя кнігі?

— Не так даўно мы праводзілі апытанне наведвальнікаў кнігарні, адным з пунктаў анкеты якраз было "Якія кнігі вам падабаюцца больш — у электронным выглядзе ці папяровыя?" Наведвальнікі крамы — ад 15 гадоў да 80 і болей — адзінагалосна адказалі, што хочуць купляць звычайныя кнігі ў кніжнай краме, каб патрымаць іх у руках, пагартаць, прачытаць анатацыю, ацаніць памер шрыфта, пачытаць перад сном. За камп'ютарам так не атрымаецца.

Гутарыла
Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымках: вас вітае "Раніца"!; загадчыца магілёўскай кнігарні "Раніца" ААТ "Магілёўсаюздрук" Вольга Аўдзеева.

Фота Іны Ракевіч

Маладзічок

# Найти читателя в поколении

Мировая детская литература: учебное пособие для учащихся специальности "Начальное образование" учреждений, обеспечивающих получение среднего специального образования / Т.Е. Автухович [и др.]; под ред. Т.Е. Автухович. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 328 с.

Мировая детская литература. Хрестоматия: учебное пособие для учащихся специальности "Начальное образование" учреждений, обеспечивающих получение среднего специального образования / Т.Е. Автухович [и др.]; под ред. Т.Е. Автухович. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 592 с.




Приохотить нынешнего ребенка младшего школьного возраста к чтению хороших книг — задача не из лёгких. Точнее, задача эта почти невыполнимая, если решать её приходится одной только школе. Есть, конечно, надежда на семью — на папу с мамой, а чаще на бабушек и дедушек, которые могут, если постараются, сделать так, чтобы подрастающий человек "в детстве верные книжки читал". Но всё-таки главную роль надо отвести школе, учителям. Именно учителя начальных классов могут стать теми, кто поможет классикам и неклассикам детской литературы найти в новых поколениях и друзей и читателей.

Для таких учителей и созданы рецензируемые книги — почти тысяча страниц печатного текста, многие из которых — в хрестоматийной части — достойны того, чтобы их читать, перечитывать и учить наизусть.

Цель этих пособий — познакомить будущих учителей начальных классов с основными закономерностями и этапами становления и развития мировой детской литературы. Более того, на основе работы с ними можно проследить, как на протяжении веков менялось — прежде всего, благодаря развитию философской мысли — представления о детстве и ребенке. Для учителя, который ставит перед собой большие задачи (а именно такой учитель и нужен сегодня отечественной школе), подобное знание особенно актуально.

Но вернёмся к вопросу о том, как научить ребенка читать, понимать и любить литературу. Авторы пособия исходят из единственно верной посылки о том, что всему этому может научить только человек, который умеет "видеть" текст и вдоль и поперек, и во всех иных его измерениях — филологическом, историческом, нравственном, эстетическом. А этому надо последовательно учить.

Авторы существенно облегчили жизнь потенциальному пользователю пособия, самым тщательным образом произведя отбор отрывков из произведений прозы и поэзии разных стран и народов. У внимательного читателя наверняка сложится представление о литературе французского классицизма, о романтических произведениях немецких сказочников XIX века, о неповторимой по интеллектуальному обаянию викторианской литературе, о полной философского пафоса литературе США и Канады рубежа XX века. А что говорить о произведениях скандинавских писателей, которым уделено вполне достойное место!

Нет сомнений в том, что никакой обзор мировой детской литературы не будет полным без произведений писателей и поэтов, писавших на русском языке. Авторы пособия рисуют достаточно полную и убедительную картину литературы России XIX века — хорошо представлены произведения для детского чтения В.А.Жуковского, В.Ф.Одоевского, А.С.Пушкина и многих других выдающихся классиков. Русская литература рубежа XX века, советский период, современные произведения — всему этому нашлось в пособии достойное место. Быть может, даже и хорошо то, что корифеи детской литературы, чьи книги во многих изданиях можно найти в любой библиотеке — представлены в хрестоматии чуть более скромно по сравнению с другими авторами.

Особенно важно, на наш взгляд, что выбор произведений советского периода не страдает никакой тенденциозностью: в сферу филологического внимания попадают все значительные произведения вне зависимости от политических или любых иных ярлыков. Так что нынешнему ребенку, то вольно гуляющему в пушкинских садах, а то неловко попадающему в канавку садистских стишков, крайне полезно будет почитать, например, Даниила Хармса и других




"обэриутов". А у педагога есть возможность подготовить ребенка к восприятию такой поэзии — с помощью рецензируемых книг.

Такая подготовка облегчается тем, что и в учебном пособии, и в хрестоматии даны разнообразные, не повторяющие друг друга вопросы и задания, причём в хрестоматии они еще и уровневые — как для школьников, так и для студентов. Это позволяет приблизить работу в аудитории будущих учителей начальных классов к "боевым условиям" реальной преподавательской деятельности.

Вся мировая детская литература не уместится и в нескольких тысяч страниц печатного текста. Потому нет необходимости повторять классическую фразу о том, что нельзя объять необъятного. Однако понять логику развития такого необъятного явления можно. Рецензируемые пособия в полной мере отвечают этой цели.

Обратим внимание на одну немаловажную деталь. Авторы пособия хорошо понимают, что текстовая деятельность на материале мировой детской классики по определению связана с качеством перевода. Не случайно поэтому, что вопросы и задания к отрывкам из произведений Льюиса Кэрролла, например, носят исключительно развёрнутый и многоплановый характер. При этом много внимания уделяется именно качеству переводов произведений Кэрролла на русский язык, которых существует множество. Надо отдать должное авторам: они не ограничиваются хрестоматийными примерами – скажем, переводами С.Я.Маршака, Н.В.Демуровой. В зону внимания попадает и гораздо менее известный широкому читателю перевод "Алисы в Стране Чудес", выполненный Владимиром Набоковым: его "Крокодилушка" позволяет организовать с будущими учителями начальных классов очень интересную дискуссию по поводу "литературной аккультурации" в процессе переводческой деятельности…

Но мы увлеклись. Преподаватели дисциплины "Мировая художественная литература" сами разберутся, что к чему. Тем более, что они наверняка уже успели по достоинству оценить новый учебный материал. Поэтому нам остается только вновь поблагодарить коллектив авторов под руководством профессора, доктора филологических наук Т.Е.Автухович за большой и полезный труд. А преподавателям колледжей и будущим учителям начальных классов пожелаем в полной мере реализовать благородный замысел — воспитать новое поколение вдумчивых, добрых и умных читателей. Наша страна от этого только выиграет.

Юрий МАСЛОВ,
заслуженный учитель Республики Беларусь,
кандидат педагогических наук, доцент

# Дзядуля, які ведае пра ўсё на свеце



**Выдавецтва "Народная асвета" распачало новую серыю, кнігі з якой адразу занялі ўстойлівыя пазіцыі ў топ-10 "Кніжнага свету". "Рассказы Деда Природоведа", адрасаваныя дзецям малодшага школьнага ўзросту, — не толькі маленькія энцыклапедыі, шчодра аздобленыя рознакаляровымі малюнкамі. У іх чытачы знойдуць цікавыя заданні, гульні і крыжаванкі, галаваломкі і рэбусы, якія дапамогуць засвоіць пададзены ў займальнай форме матэрыял.**

Створаны аўтарамі Сяргеем і Галінай Трафімавымі і мастакамі Э.Жакевічам і А.Філіпёнак Дзед Прыродазнаўца, блакітнавокі русавалосы прыгажун з бародкай і вусамі, мудры, уважлівы, усмешлівы, а галоўнае — самы разумны на свеце. Няма такіх пытанняў пра ўсё жывое на зямлі, на якія ён не ведае адказаў. На яго саламяны капялюш без боязі садзяцца матылькі і птушачкі, на плячо даверліва забіраецца вавёрка, а каля ног туляцца зайчаняты. Добры даследчык прыроды ўзброены толькі планшэтам ды біноклем і нікога не пакрыўдзіць

У кнізе "Березовый алфавит" Дзед расказа юным падарожнікам пра беластвольнае дрэва — яго дзіўныя магчымасці (бяроза можа прадказваць надвор'е), як яно цвіце і чым хварэе, што робяць з яго людзі, што азначаюць чорныя рыскі на яго кары. У "Ёлочкиных секретах" знойдуцца цікавыя гісторыі пра жукоў, якія пакідаюць "малюнкі" пад карой дрэва, і пра тое, як лічыць узрост елкі, чаму яна завецца "музычным дрэвам" і яе цудатворныя лекавыя якасці. Пра самае галоўнае свята, гераіняй якога з'яўляецца зялёная лясная жыхарка, таксама Дзед ведае — і пра тое, калі нарадзіўся звычай яго адзначаць, і калі ўвайшлі ў моду шкляныя цацкі, і пра самую дарагую апратку лясной госці, якую зрабіў ювелір Піажэ ў Жэневе.

Кніжка "Растут ли на золотом дереве золотые яблоки" запрашае ў незвычайны свет: найменне "залаты" людзі давалі не толькі кветкам, лекавым раслінам і пладам, але і птушкам, жывёлам і нават дажджу. Дзе знайсці залаты яблык бяссмерцця і назіраць за залатым дажджом, Дзед Прыродазнаўца таксама раскажа на яе старонках.

Дарэчы, дажджы бываюць яшчэ рознакаляровыя, "бульбяныя", "сляпыя" і нават "крывавыя". Калі разгарнуць кніжку "Сколько тайн у дождика", даведаешся, чаму ідзе дождж і з'яўляюцца бурбалкі ў лужынах, чаму пасля дажджу кветкі пахнуць так моцна, а гіяцынт мае назву "кветка дажджоў", пра месцы, дзе дажджу не бывае і дзе ён ідзе амаль цэлы год, а таксама пра краіну, жыхары якой носяць "дождж" у кашальках.

А калі цікава, што хаваюць у мяшках насякомыя, рыбы і птушкі, трэба зазірнуць на старонкі кніжкі "Про мешки с сюрпризами". А кніжка "Малышам о чудо-липучках" паведаміць пра жывыя "цюбікі з клеем", чаму ў мурашнікаў у дождж не працякае дах, для чаго прыгожай экзатычнай кветцы рафлезіі ліпкае насенне.

У серыі "Рассказы Деда Природоведа" ёсць яшчэ кніжкі "Где живут драконы" (пра яшчараў вострава Камода, Атлантычнага і Ціхага акіянаў і пабярэжжа Аўстраліі) і "Диковинки богини Венеры". (Аказваецца, любімыя намі кветкі "анюціны вочкі" і камелія, згодна старажытным легендам, — людзі, на якіх разгнявалася багіня, а мак — гэта яе слёзы.)

Не толькі загадкі зямлі падуладны Дзеду Прыродазнаўцы, герой ведае і пра тайны зорнага неба, якія раскрые маленькім чытачам у кнізе "Звёздные загадки". Чаму зоркі свецяцца, маюць розны колер, мігцяць і ці падаюць яны з нябёсаў? Ці можна пачуць "шэпт зорак" і дзе шукаць "земляныя зоркі"? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні на старонках новай серыі кніг, якая, спадзяёмся, парадуе нас працягам.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Азбука Морзэ

● 24 — 26 лістапада ў Маскве пройдзе конкурс работнікаў кнігагандлю, які праводзіцца Асацыяцыяй кнігараспаўсюджвальнікаў незалежных дзяржаў пры фінансавай падтрымцы Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі. Сёлета да ўдзелу ў спаборніцтве ўпершыню запрашаюцца спецыялісты таваразнаўчых службаў, а не прадаўцы кніг, як гэта было вызначана ўмовамі двух папярэдніх конкурсаў. Ад Рэспублікі Беларусь у спаборніцтве прымуць удзел два таваразнаўцы, якія прадставяць ААТ "Белкніга" і УП "Мінская фабрыка каляровага друку".

— У РВУ "Літаратура і Мастацтва" рыхтуецца да друку зборнік твораў юных аўтараў з розных рэгіёнаў краіны. Кніга пабачыць свет у межах сумеснага праекта рэдакцыйна-выдавецкай установы і грамадскага аб'яднання "Мы — дзецям". Гэтае выданне разлічана на шырокае кола чытачоў, якія цікавяцца дзіцячай творчасцю. У перакладзе на нямецкую мову (кніга выходзіць па-руску і па-нямецку) — яно можа выкарыстоўвацца і як вучэбны дапаможнік для нямецкіх дзяцей, якія вывучаюць рускую мову. Малюнкі да зборніка казак выканала мастачка Маргарыта Цімохава. Прыгожа аформленую кнігу мяркуецца выдаць накладам 3 тысячы асобнікаў, яна будзе распаўсюджвацца праз кнігарні, а таксама па школьных і публічных бібліятэках краіны.

● Вучні пяці маскоўскіх школ у межах эксперымента, што праводзіцца пад патранатам выдавецтва "Академкнига/Учебник", у час аднаго ўрока на тыдзень — грамадазнаўства — карыстаюцца электроннымі падручнікамі. Тэхнічныя навінкі аб'ядноўваюць букрыдэр і планшэт. Распрацоўка ўяўляе сабой электронны адукацыйны комплекс, складнікам якога з'яўляецца прыстасаванне з двума сенсорнымі экранамі (дыяганаль кожнага роўная дыяганалі падручніка). Адзін экран для чытання выкананы па тэхналогіі электроннай паперы, другі — паўнаколеравы, вадкакрышталічны, прызначаны для работы ў адукацыйным партале ў Інтэрнэце.

— У выніку аднаго з апытанняў стала вядома, што найбольш успрымальная да тэхнічных інавацый катэгорыя — моладзь — пакуль не спяшаецца насустрач рынку лічбавых выданняў і рыдэраў. Так, толькі 13 працэнтаў рэспандэнтаў цягам апошніх трох месяцаў набылі электронную кнігу. Пры гэтым больш як палова з іх — 56 працэнтаў — здзейснілі пакупку толькі таму, што лічбавае выданне было неабходнае для вучобы.

● Распачаў работу IV Краснаярскі кірмаш кніжнай культуры. Прафесійная частка праграмы кірмашу ў гэтым годзе арыентавана ў першую чаргу на спецыялістаў, якія пацуюць у галіне кніжнага афармлення, бібліятэкараў і журналістаў. Літаратурна-фестывальная праграма ўключае сустрэчы з аўтарамі: як расійскімі, так і замежнымі, сярод якіх — пісьменнікі Джэймс Мік (Вялікабрытанія), Хасэ Манюэль Прыета (Куба, ЗША), Керстын Хольм (Германія), Яцэк Хуга Бадэр (Польшча), французская перакладчыца Элен Шатлен. Пройдуць публічныя дэбаты, па выніках якіх будзе аб'яўлены шорт-ліст літаратурнай прэміі "НОС" (Новая словесность).

— Расійскае выдавецтва "Эксмо" вырашыла правесці конкурс для тых, хто гатовы пераканаць людзей у тым, што "чытаць не шкодна, шкодна не чытаць". Новая ініцыятыва запушчана ў межах праекта Mr Bookman. Арганізатары запрасілі ўсіх, хто яшчэ не развучыўся чытаць, а таксама верыць у свае творчыя сілы і дар пераканання, расказаць пра карысць чытання. Удзельнікам прапаноўваюць паспрабаваць знайсці адказы на пытанні: хто ён, чалавек, які чытае? Як сумясціць чытанне і дынаміку жыцця? Што чакае таго, хто закінуў кнігі? Што атрымае той, хто знаходзіць час на чытанне?

Падрыхтавала
Чэслава ПАЛУЯН

# Философия на грани искусства

Большая книга афоризмов: Мудрость тысячелетий. — Минск: Харвест, 2010.

Меткое слово всегда ценилось наравне с грозным оружием. Поэтому интерес, который мудрые высказывания вызывают во все времена у всех народов, гарантирует успех "Большой книге афоризмов", выдержавшей уже не одно издание. Что такое, в сущности, афоризм? На этот вопрос составители сборника отвечают цитатой из книги: "Это либо философия на грани искусства, либо искусство на грани философии". В предлагаемой читателю книге собраны меткие слова и выражения из американского популярного журнала "Ридерс дайджест", польского юмористического еженедельника "Пшекруй" и других периодических изданий.

Содержание книги — афористически обобщённый мир человека. Чего стоят названия разделов: "Первые двадцать лет — самая длинная половина жизни", "У всех голова с волосами, но не у всех с мозгами", "Всякой глупости своё время", "Женщины — с ними трудно, без них невозможно"...

Нельзя не процитировать, поскольку мудрость на любой вкус и на все случаи жизни. Впрочем, судите сами: "Если ваша жена клад — вам причитается 25 процентов. Брак — это всегда борьба: сначала за объединение, потом за равноправие, потом за независимость (А. Ботвинников)". Или: "Любовь — это соревнование между мужчиной и женщиной за то, чтобы доставить друг другу как можно больше счастья. (Стендаль)". А ещё: "Злословие так нравится людям, что очень трудно удержаться от того, чтобы не сделать приятное своим собеседникам: не осудить человека. (Л. Толстой)". Или вот это: "Доброта — это защитная реакция юмора на трагическую бессмысленность судьбы (С. Моэм)".

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО




# Ключи от сокровищницы Слова Божия

После долгих лет запрета и забвения возродился интерес к духовной литературе и её основополагающим книгам – Библии и Евангелию. Сделать их достоянием широкого круга читателей, а также приобщить к христианской культуре подрастающее поколение призваны тома, увидевшие свет в минском издательстве "Харвест". Канонические тексты сопровождаются подробными комментариями, которые трактуют не совсем понятные непосвящённому читателю места Священного Писания.




## Толковое Евангелие от Матфея, от Марка и Луки, от Иоанна

Толковое Евангелие от Матфея, от Марка и Луки, от Иоанна с предисловиями и подробными объяснительными примечаниями епископа Михаила — роскошное трёхтомное издание, украшенное золотым тиснением. Изданное по благословению Митрополита Минского и Слуцкого Филарета, Патриаршего Экзарха всея Беларуси, оно содержит текст на старославянском, русском и комментарии, исключающие разночтение текстов. "Для правильного разумения и истолкования Священных Писаний читатель-богослов должен соблюдать определённые правила — а именно, быть знакомым с его оригинальными языками", — указывал в одном из своих сочинений Митрополит Московский Филарет. Тем же, кто не имеет возможности обратиться к оригиналу, надлежит пользоваться руководством и пособием толкований Святых Отцов Церкви. Для людей светских, которым "не достаёт ревности и времени собрать оную библиотеку и её употреблять", предназначено данное краткое издание с предисловием епископа Михаила. Приводя в пример немецкий перевод Библии с объяснительными примечаниями, одобренными папским престолом и многими архиепископами и епископами Римской Церкви, автор указывает на долг истинных ревнителей православия — дать народу простое и удобное толкование.

"Жестокосердным мы называем богача, который видя брата и сестру нагих и лишённых дневной пищи, говорит им: "Идите с миром, грейтесь и питайтесь", но не даст им потребного для тела (Иак. 2,15 — 16); как же назовут тех, которые приготовлялись служить братьям от сокровищ, данных для всех в слове Божием, взяли у Церкви ключи от этой сокровищницы, а сами так скупо раздают из неё другим?.. Опасаемся несовершенства наших первых опытов? Но доколе же будет подавлять в нас всякую самодеятельность юношеская робость? Если бы ремесленник, не имея хороших орудий и достаточного навыка в труде, из опасения сделать несовершенное ни за что не принимался, он умер бы с голоду" (из речи протоиерея А. В. Горского в день празднования 50-летия Московской Духовной Академии).

Во многом сходные между собой, Евангелия от Матфея, от Марка и Луки, от Иоанна имеют некоторые различия: тексты, которые встречаются в одном из них, могут отсутствовать в остальных или где-то освещаться более подробно. Иногда у евангелистов по-разному подаётся то или иное событие. Учитывая эти нюансы, епископ Михаил в Толковом Евангелии даёт более подробные объяснения к отличающимся или даже, на первый взгляд, содержащим разногласие местам. К третьей книге прилагается приблизительная таблица событий с указанием, почему тот или иной факт относится к определённому времени.




## Толковая Библия

Во вступительном слове от редакции, предваряющем данную книгу, сказано: "Священное писание — должно оставаться для нас прежде всего тем местом, где мы находим христианскую истину, выраженную не для апологетических и диалектических целей, а ради той жизненной связи и тех личных отношений, которые Богу угодно установить между человеком и Им Самим. Устанавливать же такие отношения присуще слову".

Комментарии на все книги Святого Писания под редакцией А. П. Лопухина, получившие благословение Святейшего Патриарха Московского и всея Руси Алексия II, размещаются в трёх томах. Первый из них рассказывает о Библии, исторических книгах, книгах Паралипоменон, учительных книгах, книге Екклезиаста и других. Во втором томе — книги пророков и Евангелие от Матфея. Третий том — Симфония. Ветхий и Новый Завет.




## Любовь к возвышенному

Во вступлении к изданию его составитель задаётся вопросом, что такое Добротолюбие? Этим словом, — отвечает он, — переведено греческое название книги, которое означает: любовь к прекрасному, возвышенному, доброму. Путешественники пишут путевые заметки обо всём, что встречают достойным внимания на своём пути. Писали свои заметки и избранники Божьи, в разных направлениях проследившие все тропы духовной жизни, обо всём, что встречали и испытывали в этом многотрудном шествовании своём.

Четырёхтомный сборник "Добротолюбие" — увеличенный и дополненный славянский вариант греческой книги. По мнению её составителя, несмотря на то, что греческое "Добротолюбие" полнее славянского, оно всё же не содержит всего, что дали нам святые отцы в руководство к духовной жизни и чем желалось бы доставить и пользу, и утешение любящим такое чтение.

В книге — повествования о Святом Антонии Великом, Святом Макарии Великом, Преподобном Авве Исаии, Святом Марке Подвижнике, Авве Евгарии, Святом Иоанне Кассиане Римлянине, Преподобных Феодоре, Феогносте, Феодоре Студите и многих других подвижниках Православной Церкви, извлечения из их поучений. Может возникнуть вопрос, почему предлагаются извлечения из поучений? Составитель на него отвечает: у нас цель не книжная — не книгу дать, но собственное назидание. Кроме того, некоторые поучения не все сохранились, содержание иных непонятно. Поэтому они опущены. Кроме желания представить вниманию читателя мысли и суждения святых, составители выражают надежду, что любители чтения найдут в нём много полезных и мудрых мыслей, суждений, основой которым — опыт и мудрость подвижников.




## Для самых маленьких

"Детская Библия" — книга особая, прежде всего тем, что должна она простыми ассоциациями, словами и понятными выражениями знакомить детей с основами христианской религии, учить понимать Слово Божие, ощущать себя частью этого большого мира.

Откуда мы знаем про Бога? — спрашивает читателя составитель, — Оглянитесь вокруг! Задумайтесь, кто растит деревья в лесу, следит за правильной сменой времён года, кто чередует день и ночь, кто сделал так, чтобы растения давали семена, а из семян, упавших в землю, вырастали новые злаки, цветы и деревья, кто устроил на земле множество других вещей? Вы можете сказать, что это произошло само собой, только потому, что не видите могущественную руку, устроившую земные дела. Именно так начинает рассказывать детям о Боге составитель "Детской Библии" Н. Горбачёва.

Кроме краткого и адаптированного для восприятия детьми пересказа Ветхого и Нового Заветов, в это издание вошли рассказы о главных, двунадесятых праздниках христианской православной религии, а также о Пасхе — Воскресении Христовом и Страстной седмице (неделе). Издание хорошо иллюстрировано, причём рисунки не поражают яркостью, чёткостью, профессионализмом, детальностью, они выполнены в немного "наивной" манере, похожей на рисунки детей. Что, безусловно, делает и иллюстрации более понятными и привычными детскому глазу.




## Воспитать интерес к истории

Милые дети! Оглянитесь вокруг, и вы увидите, сколь прекрасен наш мир, увидите людей, дома, горы, леса, красивые цветы, животных и птиц, жуков и бабочек. А если поднимете глаза ввысь, то увидите над собой обширное голубое небо и приветливое солнышко. Но это мы видим сегодня. А когда-то давно не было ни людей, ни животных, ни деревьев, ни камней, ни неба, ни земли. Был только Милосердный Бог.

Такими оптимистичными и добрыми словами начинается "Библия для детей: Священная История в простых рассказах для чтения в школе и дома", составленная по тексту протоиерея Александра Соколова. В основу издания положена "Библия для детей", которая увидела свет в 1896 году. В книге представлены основные моменты из Ветхого и Нового Завета в коротком изложении. Издание — отличный подарок не только для детей, но и для их родителей, ведь читая детям библейские рассказы, украшенные яркими рисунками, они не только знакомят их с основами христианства, но и воспитывают любовь к книге, интерес к истории человечества.

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Юзефа ВОЛК

# Не быць правінцыяй расійскага рынку



**Інфармацыйна-прававое агенцтва "Рэгістр" — першае агенцтва на беларускім рынку, якое занялося распаўсюджваннем прававой інфармацыі ў друкаваным і электронным выглядзе. Сёння яно займаецца выданнем васьмі дзелавых часопісаў, шырокага спектра спецыялізаванай літаратуры. Акрамя таго, не так даўно агенцтва распачало праект па выпуску мастацкіх твораў сучасных беларускіх аўтараў. Пра асаблівасці працы, творчыя і дзелавыя планы карэспандэнту "Кніжнага свету" расказала намеснік дырэктара па выдавецкай дзейнасці інфармацыйна-прававога агенцтва "Рэгістр" Таццяна Карпуніна.**

— Таццяна Аляксандраўна, "Рэгістр", з аднаго боку — гэта інфармацыйна-прававое агенцтва, з іншага — вы сабе цяпер пазіцыянуеце як выдаўцы мастацкай літаратуры. Гэтыя віды дзейнасці на першы погляд падаюцца несумяшчальнымі…

— Сапраўды, такое спалучэнне, на першы погляд, не зусім заканамернае, але калі мы ўспомнім пачатак дзейнасці "Рэгістра", многае стане зразумелым. Сама назва "інфармацыйна-прававое агенцтва" раскрывае яго асноўную задачу — інфармаваць чытача пра змены ў заканадаўстве. Менавіта гэтай мэтай тлумачыцца стварэнне ў 1990 годзе першага прадукта "Рэгістра" — інфармацыйна-прававой сістэмы "ЮСИАС". Наступны прадукт, напрамую звязаны з гэтай сістэмай, — часопіс "Бюллетень нормативно-правовой информации", ім мы крыху наблізіліся да таго, чым займаемся цяпер. Перад часопісам як друкаваным выданнем стаяла тая ж задача — аператыўна інфармаваць чытача пра змены ў галіне заканадаўства. А ў той час — 1990 — 91 гг., калі камп'ютар магла сабе дазволіць далёка не кожная арганізацыя, аўтарытэт друкаванага слова быў дастаткова высокім. Пазней у "Рэгістры" пачаў выходзіць часопіс "Налоговый вестник", больш ярка скіраваны на спецыялістаў-бухгалтараў. Потым было шмат прадуктаў, але, бадай, самым знакавым момантам нашай працы стала выданне кніг пасля атрымання ў 1998 годзе першай ліцэнзіі на гэты від дзейнасці.

— Атрымліваецца, што на кнігавыдавецкім рынку вы працуеце ўжо 12 год. За гэты час з'яўляліся значныя праекты?

— Так, яны сапраўды былі. Гэта перш за ўсё праекты, якія ажыццяўляліся сумесна з іншымі ведамствамі. Разам з Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі выдалі слоўнік юрыдычных тэрмінаў, пад эгідай Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь выйшла кніга "Нотариальное оформление документов". У 2008 годзе атрымаўся, бадай, самы значны праект менавіта ў галіне дзелавой літаратуры — кніга "Постатейный комментарий к трудовому кодексу Республики Беларусь", якая таксама пабачыла свет пад эгідай Міністэрства юстыцыі Беларусі.

— Чаму ж тады звярнуліся да выдання мастацкай літаратуры?

— У тым жа 2008 годзе, калі, здавалася б, на рынку мы ўжо займалі месца як прызнаны выдавец у галіне дзелавой літаратуры, калі працавалі над кнігамі звыклай і ўжо знаёмай нам тэматыкі, пачалі з'яўляцца думкі пра тое, што хочацца сябе паспрабаваць у іншай сферы, прызначанай больш для душы, чым для надзённых прафесійных патрэб чытача. А што можа быць прадуктам для душы? Зразумела, мастацкая кніга. Вось тады і ўзніклі думкі пра выданне такой літаратуры. Мы цудоўна разумеем, што гэтыя кнігі — разнастайныя і тэматычна, і жанрава, больш таго, на дзялянцы вельмі складана адчуць свайго чытача. Разумеем таксама, што выданне мастацкай літаратуры — занятак вузка скіраваны і праблемны. У той жа час у кнігарнях краіны ў асноўнай масе прадаюцца кнігі, прывезеныя з Расіі, якія, на жаль, па цэнавым фактары нас перамагаюць. Хочацца адрознівацца і адчуваць, што мы ствараем свой кніжны рынак




— не правінцыю расійскага, на які скідваецца тое, што чытае Расія. Хочацца быць іншымі.

— Выдаючы мастацкую літаратуру, на якога чытача вы арыентуецеся?

— Мы пакуль робім толькі першыя крокі, спрабуем сябе ў гэтай ролі, таму спробы дастаткова living рознабаковыя. Адначасова выдалі гарадскі раман Тамары Лісіцкай "Идиотки", дэтэктыў Сяргея Клімковіча "Тяжёлые времена", зборнік славянскага фэнтэзі "Грани". І ўжо як лагічны іх працяг, які ў той жа час пашырае тэматыку, з'явіліся кнігі Нікі Батхан "Остров Рай", навуковая фантастыка Юрыя Брайдэра і Мікалая Чадовіча "Властелины Вселенной" і пазней — гістарычная трылогія Юрыя Татарынава "Княгиния Менжинская". Кнігі розныя, і кожная з іх патэнцыяльна можа знайсці свайго чытача. Мы паспяхова працуем з кнігарнямі і бібліятэкамі, выданні актыўна прадаюцца — а гэта сведчыць пра тое, што попыт на іх ёсць.

Чытача можна ахарактарызаваць толькі абагулена. Ён у той ці іншай ступені цікавіцца краінай, у якой жыве. Бо дзенні ўсіх вышэйзгаданых кніг адбываюцца ў Беларусі, іх аўтары — нашы землякі і сучаснікі. Гэтыя творы — прыклад сучаснай беларускай літаратуры. Перад намі не стаіць задача выдаваць класікаў. Гэты аспект — важны, але тут усе карты ў руках дзяржаўных выдавецтваў. Не трэба забывацца, што сучасны чытач-беларус, магчыма, часцей размаўляе па-руску, але гэта не азначае, што ён губляе цікавасць да сваёй краіны. Яму прыемна ўбачыць у кнізе і згадку знаёмых мясцін: Нямігі, Свіслачы, нейкага населенага пункта, і праз гэта ўсвядоміць сваю суаднесенасць з падзеямі, пра якія чытае. Думаецца, такім чынам маленькімі кропелькамі заражаецца цікавасць да сваёй краіны, да яе мінулага, сучаснасці і будучыні.

— Напэўна, падчас першых спроб выдання мастацкай літаратуры, ды і цяпер, у час сумяшчэння, вы сутыкаецеся з многімі цяжкасцямі…

— Сапраўды, нельга сказаць, што ў новым аспекце ўсё адразу атрымалася. Мы пачыналі "з чыстага ліста", адзінае, што было, — вытворчая база, на якой мы гэтую літаратуру маглі ствараць. Але далей усё ішло зусім па-іншаму. Ужо з самага першага моманту сутыкнуліся з прынцыповымі адрозненнямі. Больш як дзесяць год на рынку дзелавой літаратуры паказалі: наша галоўная задача як выдаўцоў дзелавой кнігі аператыўна рэагаваць на змены ў заканадаўстве. З'явіўся новы нарматыўна-прававы акт, які павінен быць пракаментаваны, — адразу ж у перспектыўным плане для сябе можам адзначыць, што кніга на гэтую тэму патрэбна, і яна будзе карыстацца попытам.

У адносінах да мастацкай літаратуры гэтага зрабіць нельга, нават нягледзячы на тое, што палітычныя, эканамічныя падзеі ў некаторым сэнсе ўплываюць на чытацкія густы людзей. Пры выданні мастацкай літаратуры гаварыць пра аператыўнасць і праверанасць нельга, у яе іншая задача, у тым ліку — даць магчымасць забыцца на праблемы паўсядзённасці. У працэсе выдання мастацкай літаратуры нават пошук аўтараў адбываецца зусім па іншых прынцыпах. Калі рыхтуем да друку кнігі дзелавыя, першапачаткова звяртаем увагу на тое, што аўтар — кампетэнтны спецыяліст, эксперт у пэўнай галіне. У мастацкай літаратуры гэтыя крытэрыі не паказальнік. У працэсе падрыхтоўкі дзелавой кнігі адной з ключавых фігур з'яўляецца навуковы рэдактар, які правярае дакладнасць інфармацыі. Роля ж літаратурнага рэдактара іншая — ацаніць, наколькі аўтар чытэльна, лёгка, прыгожа даносіць да чытача ідэю, якую закладвае ў кнігу. Ды і дызайнеры працуюць зусім па-іншаму, маюць магчымасць паказаць сваю крэатыўнасць, што вельмі складана пры падрыхтоўцы дзелавога выдання.

— У "Рэгістры" наладжана сістэма распаўсюджання кніг?

— Этап збыту прадукцыі — прынцыповы і ў той жа час праблемны момант. Зразумела, што і дзелавая, і мастацкая кніга знаходзяць свайго чытача, але знаходзяць яго па-рознаму. Значная частка дзелавой літаратуры — прыкладна трэць накладу кнігі — распаўсюджваецца шляхам прамых продажаў арганізацыям. Трэба ўлічваць, што дзелавую літаратуру людзі часцей набываюць не як фізічныя, а як юрыдычныя асобы, і ў гэтым выпадку дзейнічае зусім іншы прынцып продажу. Мастацкая літаратура такім метадам прадавацца не можа. Бо чытач, які шукае кнігу, каб проста пачытаць, у першую чаргу пойдзе ў кнігарню, на кніжны кірмаш, і абавязкова зазірне ў Інтэрнэт. Менавіта гэтыя кірункі мы і спрабуем асвойваць. Натуральна, больш актыўна сталі працаваць з кнігарнямі, актывізавалася супрацоўніцтва і з публічнымі бібліятэкамі: яны зацікаўлены ў першую чаргу мастацкай літаратурай, хаця, калі ўсталяваліся кантакты, некаторыя бібліятэкі пачалі ў нас закупаць і дзелавыя кнігі. Але мне падаецца больш лагічнай гутарка не пра збыт, але рэкламу, прасоўванне літаратуры. Дзелавая кніга мае свае асаблівасці прасоўвання, паколькі ў нашым агенцтве яна вырасла з тэматычных часопісаў. І заканамерна, што кнігі могуць рэкламавацца на іх старонках, праз іншыя профільныя выданні. З мастацкай літаратурай у гэтым плане складаней, але тым не менш пэўныя метады працы пачынаем ужо спрабаваць. Да такіх варыянтаў адносяцца мерапрыемствы, якія мы праводзім для чытачоў: прэзентацыі кніг, творчыя сустрэчы, што праходзяць у бібліятэках, кнігарнях. Ініцыюем запрашэнне аўтараў на тэлебачанне. Вядзём пошук шляхоў супрацоўніцтва з радыё. Варта заўважыць, што многае залежыць і ад аўтара: чым больш ён адкрыты, публічны і, магчыма, ужо вядомы да таго, як пачне пісаць, тым працей з ім працаваць.

— А які ён, ваш аўтар?

— Нашы аўтары ўсе розныя, з розным узроўнем папулярнасці. Але ў цэлым з імі працаваць вельмі цікава. Яны адкрытыя, і з радасцю згаджаюцца амаль на любую прапанову па рэкламе кнігі. Не так даўно ў Магілёве прайшла прэзентацыя кнігі Тамары Лісіцкай "Идиотки". Сама імпрэза праходзіла па запыце магілёўскіх чытачоў, і мерапрыемства было арганізавана з дапамогай сістэмы публічных бібліятэк горада. На вечарыне сабраліся жанчыны розных узростаў, якія падчас прэзентацыі імкнуліся абмяркоўваць, задаваць пытанні, выказвалі ўласныя думкі наконт твора.

— У "Рэгістры" існуе свая сістэма пошуку аўтараў?

— Маючы шматгадовы вопыт выдання дзелавых часопісаў, заканамерна, маем і кола аўтараў, якія на іх працуюць. І калі спецыяліст супрацоўнічае з выданнем некалькі год, а пасля стварае больш глабальную працу, чым артыкул у часопіс, то прапаноўвае яе нам. Але гэта не абавязковая ўмова. Мы гатовы разглядаць староннія прапановы, тэлефануйце, пішыце, дасылайце, мы абавязкова прачытаем і вырашым, наколькі гатовы з вамі супрацоўнічаць.

— Якія кнігі і праекты рыхтуюцца і распрацоўваюцца інфармацыйна-прававым агенцтвам "Рэгістр"?

— У галіне дзелавой літаратуры цяпер рыхтуюцца апошнія ў годзе нумары часопісаў, кнігі вытворчай праграмы на наступны год. У планах — выданне чатырох новых часопісаў, у сувязі з гэтым і тэматычная скіраванасць дзелавых кніг, магчыма, таксама зменіцца. Плануем выпускаць часопіс па міжнародных стандартах фінансавай справаздачнасці, выданне для дырэктараў магазінаў, часопіс для дырэктараў транспартных арганізацый і выданне па сметнай справе, будоўлі. У выдавецкім партфелі многа цікавых мастацкіх кніг. Гэта абноўлены, крыху зменены варыянт другога рамана Тамары Лісіцкай "Тихий центр", містычны трылер гэтага ж аўтара "Двенадцать" (раней на тэрыторыі Беларусі не выдаваўся), зборнік пісьменніцы і кінасцэнарыста Юліі Ляшко "Ангел в темноте".

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: намеснік дырэктара па выдавецкай дзейнасці інфармацыйна-прававога агенцтва "Рэгістр" Таццяна Карпуніна; кнігі, выдадзеныя інфармацыйна-прававым агенцтвам "Рэгістр".

Калаж Віктара Калініна

# Пошукі ісціны

## Абразкі



Лідзія АРАБЕЙ

Стадыёны

Не так даўно, на маёй памяці, паэзія збірала стадыёны. Паэты чыталі вершы, і вялізны натоўп іх з захапленнем слухаў.

Цяпер стадыёны апанавала эстрада з аголенымі спявачкамі, з песнямі без складу і ладу.

Паэзія больш не патрэбна, патрэбны грошы.

Рэўнасць

Муж пераканаўся, што сабачку жонка любіць больш, чым яго. Сабачку лепшыя кавалкі са стала, сабачку жонка лашчыць, абдымае. Больш таго, мужа адправіла спаць у іншы пакой, на канапу, а сабачка спіць з ёю ў ложку.

Муж раўнуе жонку да сабачкі.

Ракета

Усё больш дзіўлюся з цудаў свету. Муха — невялічкае надакучлівае стварэнне. Заляціць у хату і носіцца — туды-сюды, туды-сюды, ды на якой хуткасці! Паспрабуй, злаві яе!

Гэта ж які павінен быць матор у такога малюпасенькага стварэння, каб развіваць такую хуткасць! Няйнакш, як у ракеты!

Даглядаў бы

Сын даглядаў старых, хворых маці і бацьку. Абодва былі ўжо ляжачыя, і нялёгка было спраўляцца сыну з абавязкамі і сястры міласэрнай, і нянькі.

Але вось бацькі памерлі. Здаецца, палёгка чалавеку. Але сын сказаў:

— Я яшчэ гадоў трыццаць іх даглядаў бы, абы яны былі жывыя.

Далікатнасць

У Францыі жанчына з маладосці да старасці — мадам.

У Польшчы — пані.

У іншых краінах таксама знаходзяць слова, як звярнуцца да жанчыны. Толькі ў нас:

— Дзевушка! — хоць той пад сорак.

— Жэншчына!

А далей:

— Бабуля!

Адрасу вызначаюць узрост кабеты. А гэта не далікатна.

Класіка

Раптам яскрава адчула, што чалавек, калі памірае, то знікае назаўсёды, ён больш ніколі не вернецца да тых, хто яго любіў. І нават зробленае ім як творцам не вельмі доўга будзе свяціць нашчадкам, будзе гарэць нейкі час, як тая свечка, а потым згасне, патухне, бо загарыцца шмат новых агнёў і зацьмяць старое полымя.

А бывае і так, што агонь той свечкі гарыць вельмі доўга і не згасае, гэта калі ўсе новыя агні аказаліся слабейшыя за старыя. І тады старыя агні аб'яўляюцца класікай.

Геній

Сабраліся людзі на тэлебачанні ў праграме Малахава і абураюцца, і спрачаюцца — чаму гэта Перальман адмовіўся ад прэміі — цэлы мільён долараў!

Не могуць зразумець сваімі прымітыўнымі мазгамі думкі і пачуцці генія.

Гоша

Папугайчыка Гошу на дзень гаспадыня выпускала з клеткі, і ён лётаў па кватэры, садзіўся то на карніз над вакном, пад самай столлю, то на шафу, то на раму карціны. А пад вечар сам вяртаўся ў клетку — начаваць. І мне здзіўна было, няўжо птушка разумее, што клетка — яе дом. І наогул, ці яна штонебудзь разумее.

Але аднойчы гаспадыня вынесла клетку з птушкаю на балкон, каб тая падыхала свежым паветрам. Ды забылася зачыніць дзверцы ў клетцы. І Гоша вылецеў на волю. І не вярнуўся ў клетку, якую гаспадыня пакінула на балконе са спадзяваннем — а раптам Гоша вернецца ў свой дом.

Але Гоша не вярнуўся. Можа, ён вырашыў, што лепш загінуць на свабодзе, чым увесь век пражыць у клетцы?

І, мабыць, загінуў. Ці памёр ад голаду, ці склявала яго варона. Гоша знік. А мы па ім сумуем.

Мачалка

Доўга шукала мачалку, каб была не сінтэтычная, а з натуральнага матэрыялу. Нарэшце ўбачыла: у падземным пераходзе на Камароўцы кабета трымала мачалкі і сярод іх такую, якую я шукала.

— Колькі ж яна каштуе? — спыталася я ў кабеты.

— Ідзі ты, — адпіхнула мяне гаспадыня мачалкі, — ты, пенсіянерка, усё роўна не купіш...

Такі ў нас, пенсіянераў, статус, што мы нават мачалку купіць не здольныя.

Тэлеграма

Атрымала віншавальную тэлеграму з аднаго з нашых раённых цэнтраў. Тэлеграма пісалася па-беларуску, але ніводнае слова ў ёй не было напісана граматна.

У апараце, які друкаваў тэкст, адсутнічалі беларускія "і" і "ў", што надавала тэксту яшчэ больш экзотыкі.

Вось так мы, незалежныя беларусы, шануем наш неацэнны скарб — родную мову.

Аргумент

— Каб зямля круцілася, то вада з калодзежаў павылівалася б, — так некалі аспрэчвалі людзі вялікае адкрыццё вучонага.

Так і мы часам аспрэчваем адкрыцці, у якіх нічога не разумеем.

Мудрыя

Стаяць высокія клёны, стаяць высокія дубы. Яны старыя ўжо і шмат пабачылі на сваім вяку. За сваё доўгае жыццё яны набраліся мудрасці і моўчкі пазіраюць на тое, што робіцца ўнізе, на зямлі. Яны разумеюць, што нічым не зменіш, не паправіш таго жыцця, яны стаяць і маўчаць, толькі часам шапочуць лісцем.

Блізка фініш

Засталося мала часу, блізка фініш, а я так і не зразумела — хто мы, адкуль мы і куды сыдзем з гэтай зямлі? Хто кіруе лёсам адной асобы. І ўсяго чалавецтва? Ці роўна на зямлі дабра і зла? І якая з гэтых сіл перамагае? Засталося мала часу, і я хачу за гэты кароткі міг зразумець тое, чаго не зразумела за доўгае жыццё, каб сысці ў іншы свет з нейкім веданнем. І разумею, што гэта немагчыма.

Пашкадуй...

Калі ён быў маленькі хлопчык і старэйшыя дзеці ў двары яго крыўдзілі, ён бег да мамы і прасіў:

— Мама, пашкадуй...

І маці яго абдымала, шкадавала, і праходзілі крыўда і боль.

Ён падрос, але яго зноў крыўдзілі, ужо не дзеці, а дарослыя дзядзькі і цёткі. І ён зноў ішоў да мамы, скардзіўся на крыўдзіцеляў, і маці зноў яго шкадавала, вучыла цярпець.

Ішлі гады, і вось ён, сталы ўжо мужчына, але зноў яго пакрыўдзіла, параніла жыццё.

Як некалі, пайшоў бы ён да мамы, па яе суцяшэнне, але мамы ўжо няма і няма каму пашкадаваць.

Зубы

Паштарка даверліва мне сказала:

— Буду працаваць, пакуль не зараблю на зубы, каб уставіць.

Прайшло гады два, і ў нас з'явілася новая паштарка. Мусібыць, тая на зубы ўжо зарабіла.

Бессмяротныя

Мы прывыклі ведаць, што жыла на свеце такая дзяўчына — Наташа Ростава, што жыла такая жанчына — Ганна Карэніна. Мы фізічна іх адчуваем, разумеем, спачуваем ім, верым у іх зямное існаванне. І раптам аднойчы разумеем, што ніякая Наташа Ростава, ніякая Ганна Карэніна не жылі на свеце, яны бесцялесныя, прыдуманыя і хоць ніколі не краналіся нагою цвердзі зямлі, жывуць на ёй ужо стагоддзе, і будуць жыць вечна, бо яны бессмяротныя.

Палітыка

У свой час у Саюзе пісьменнікаў адбыўся партыйны сход, разглядалася асабістая справа адной пісьменніцы. Аказалася, што ёй на тры гады больш, чым пісала яна ў сваіх дакументах.

Са звычайнай жаночай слабасці — якая кабета не хоча выглядаць маладзей — зрабілі палітыку.

Усяляк бывае

Мужчыну для таго, каб ажаніцца, трэба заказацца ў жанчыну. А жанчыне — неабавязкова. Часам ёю кіруюць іншыя пачуцці: пара выходзіць замуж... Ніхто іншы не заве... А гэты, здаецца, чалавек неблагі...

А пасля вяселля ўсяляк бывае. Жонка заказаецца ў свайго мужа. А муж расчаруецца ў выбранніцы. І сямейны воз скрыпіць, скрыпіць. Ці так і будзе ехаць са скрыпам, ці перакуліцца.

Расказвалі

Некалі, яшчэ да вайны, Пятро Глебка, аказаўшыся на Лідчыне, вырашыў знайсці магілу Цёткі. Ён зайшоў у райкам партыі, да сакратара, і спытаў:

— Ці ведаеце вы, дзе тут пахавана Цётка? Я хачу знайсці яе магілу.

Сакратар райкама націснуў кнопку, выклікаў свайго намесніка і загадаў таму:

— Дапамажыце таварышу Пятру Глебку знайсці магілу яго цёткі.

Сустрэча

Я сустрэлася з роднаю сястрою Цёткі Каралінаю Пашкевіч. Ёй было тады ўжо дзевяноста чатыры гады. І ўжо больш чым паўвека была яна адарванаю ад радзімы. Калі я пачала няўмела гаварыць з ёю па-польску, яна ўзяла мяне за руку і папрасіла:

— Гавары па-беларуску...

А калі я падарыла ёй сваю кнігу пра Цётку, яна сказала:

— Сястрыца мілая, іду да цябе з кніжкаю пра цябе.

Яна частавала мяне клубніцамі з малаком і прыгаворвала:

— Вось ты і на сапраўдным вёсачцы пабыла, свежага малачка папіла... З кубачка ды ў губачку...

Відаць, і ў Караліны Пашкевіч была паэтычная душа.

Талерантнасць

Хто гэта пусціў пагалоску, што беларусы — народ добразычлівы, талерантны? Паездзіце ў тралейбусах, пахадзіце па магазінах і вы ўбачыце, якія нашы людзі нецярпімыя, сварлівыя, як яны ўмеюць абражаць адзін аднаго. Ды не толькі ў магазінах і тралейбусах, а нават сярод тых, хто лічыць сябе адукаваным, інтэлігентным ёсць страшэнныя пачвары.

Гады

Яны былі маладыя, прыгожыя і шчаслівыя. Ён быў знакаміты артыст і загінуў вельмі малады. Яна дажыла да глыбокай старасці. І, можа, добра, што ён не ўбачыў яе цяперашнюю — старую, тоўстую і брыдкую.

Адзінокая

Яна была сірата і ўсё жыццё пражыла адзінокая. Калі памерла, яе хавалі чужыя людзі. Завезлі на далёкія могілкі і закапалі сярод чужых нябожчыкаў. Жыла адзінокая і пасля смерці засталася адзінокая.

Страх

Некалі трымаў народ у страху Сталін. Моцная рука, па якой той-сёй сумуе і сёння. Сталін памёр, і страх нібыта адступіў. Але як трымаць гэту стыхію — мора народнае — без дзясніцы караючай? І вярнуліся да страху, што вякамі трымаў народ у паслухмянасці і веры. Вярнуліся да рэлігіі, да страху Божага. Саграшыш — і Бог цябе пакарае.

Бо як жа без страху?..

Касмічны розум

Адмаўляючы Бога, чалавек прызнае, што ўсё-такі ёсць у прыродзе нейкая сіла, якая кіруе светам. І прыдумалі назву той сіле — касмічны розум.

Але які ж гэта розум, калі на зямлі творыцца так шмат неразумнага?..

Забарона

Гадоў праз пяцьдзесят мы даведаемся пра наш час, нашу эпоху шмат цікавага. Як мы цяпер даведваемся пра эпохі Леніна, Сталіна, Брэжнева. А сёння ведаць пра наша быццё, пра нашых кіраўнікоў нам забаронена.

Пачастунак

Гаспадыня варыла ў чыгуне бульбу свінням. І ведала, што яе кватарантка-студэнтка сядзіць у закутку і вучыць свае лекцыі галодная. Часам гаспадыня дабрэла і вымала з чыгуна дзве бульбіны, прыносіла кватарантцы...

Тая дзякавала і з'ядала.

Абразкі

Думаеце, так лёгка пішуцца гэтыя карацелькі? Па-першае, трэба, каб з'явіўся зародак, як у кожнай істоты, што пачынае жыццё. Потым той зародак павінен выспець, яго трэба вынасіць. А пакуль выношваеш, паварочваеш сказ то так, то гэтак.

Зародак спее, і калі адчуваеш, што пара яго нарадзіць — кладзеш на паперу.

А бывае, што думка мільгане, і калі не паспееш яе запісаць — знікае назаўсёды. Як у Максіма Багдановіча — "Стралою думка мільганула, і тут жа знікла, патанула...".

Добра ж, калі хоць некалі выплывае, а можа патануць назаўсёды...

Бойцеся

Не бойцеся галодных сабак, што крухцяцца каля памыйніц. Бойцеся чалавека, які мае ўсё і нават пісталет. Ён можа выбегчы на вуліцу з тым пісталетам і страляць у каго трапіць.

Чалавек можа ўзброіца бітаю ці якім прутом і таксама лупіць кожнага, хто падвернецца пад руку.

Чалавек можа ўкусіць мацней, чым шалёны сабака.

Хлеб

Цяпер у крамах надта шмат гатункаў чорнага хлеба — нарачанскі, радзівілаўскі, барадзінскі, суражскі, стольны, траецкі, юбілейны, віленскі, водар — і яшчэ не ўсе пералічаны.

У час маёй маладосці быў адзін гатунак. І ён называўся — хлеб. Яго давалі нам па картках, і нам яго заўсёды не хапала.

У 1947 годзе карткі адмянілі і нам не верылася, што мы можам зайсці ў краму і купіць колькі хочаш хлеба.

Для шчасця

Пісьменніку для шчасця мала таго, каб рэцэнзенты хвалілі яго творы, пісьменніку для шчасця трэба яшчэ, каб моцна крытыкавалі творы яго сапернікa.

Аўтограф

На выступленні ў вайсковай часці бібліятэкарка, якая вяла сустрэчу, у заключэнні сказала:

— А цяпер, хто захоча, можа ўзяць у пісьменніцы аўтограф.

Сабралася невялічкая чарга, я падпісвала буклецікі, якія падрыхтавала бібліятэкарка. Калі скончыла падпісваць, адзін салдацік спытаў:

— А дзе ж аўтографы?

Ён, мусібыць, думаў, што аўтограф — гэта нешта матэрыяльнае і я тое матэрыяльнае буду раздаваць. Прыйшлося яго расчараваць, сказаўшы, што мой подпіс і ёсць аўтограф.

Шкадаванне

Вельмі шкадую, што не сказала некалі людзям, паважаным мною і як творцам, і як людзям, добрых слоў. Можа, тыя мае добрыя словы былі ім і не вельмі патрэбныя, але яны сёння патрэбныя маёй душы. Спяшайцеся гаварыць добрым людзям добрыя словы.

Аказваецца:

Калі дзядзька едзе на возе і пугаю паганяе, сцябае каня, то конь пачынае бегчы, каб уцячы ад пугі...

Ратуйце!

Ратуйце ад цемрашальства, што запанавала вакол нас і ліецца з радыё, тэлебачання, ад страціўшых сумленне журналістаў. Яны даводзяць, што ў час вайны Маскву выратавалі не салдацікі сваімі жыццямі і крывёю, а абраз Боскай Маці, з якім, па загадзе Сталіна, абляцелі Маскву.

Зусім сур'ёзна па тэлебачанні расказваюць пра прароцтвы Матроны і Вангі, выцягнулі на экран Кашпіроўскага, расказваюць, як хворых выратавалі не дактары, а тыя ж прарокі ды экстрасэнсы, паставілі на ногі бязногіх. Мусібыць, начальству ўсё гэта выгадна — каб народ прасіў дабрабыту не ў яго, а ў Бога.

Празрыстая кроў

Кроў салёная, і слёзы салёныя. Кроў цячэ з раны цялеснай, слёзы цякуць з раны душэўнай. То ці не тая ж кроў у слязах, бо рана душэўная бывае больш балючая, чым цялесная.

# Фестываль — гэта кірмаш, а кірмаш — гэта выбар

Сёння адкрываецца XVII Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад". Па чырвонай дывановай дарожцы пройдуць вядомыя дзеячы беларускага і замежнага кіно, сярод якіх Барыс Няўзораў, Уладзімір Сіманаў, Людміла Гурчанка, Дзмітрый Мілер, Вахтанг Кікабідзе, Нані Брэгвадзе, Войцах Кабароўскі… У гэтым годзе фестываль прадстаўлены ў новым фармаце. Уладальніка галоўнага прыза "Лістапада" вызначыць прафесійнае журы, а не гледачы, як гэта было раней. Склад конкурснай праграмы такі: асноўны конкурс ігравога кіно, конкурс маладога кіно, конкурсны паказ дакументальных фільмаў і конкурс работ маладой кінадакументалістыкі. Акрамя таго, традыцыйна ў межах кінафоруму пройдзе фестываль дзіцячых і юнацкіх фільмаў "Лістападзік". Па-за конкурсам пройдуць тэматычныя паказы "Панарама расійскага кіно", "Французскі майстар-клас", "Экстрым і Каннаманія", "Без пяці "Оскар". Напярэдадні адкрыцця кінафоруму мы сустрэліся з праграмным дырэктарам "Лістапада" Ігарам Сукманавым.

— Ігар, вы пастаянна бываеце на міжнародных фестывалях класа "А". Ці няма ў вас паблажлівага стаўлення да "Лістапада"?

— Як можна не любіць гэты фестываль тым, хто любіць кіно і выкарыстоўвае кожную нагоду, каб убачыць стужкі найвышэйшага гатунку на вялікім экране? Тым больш, што на "Лістапад" заўжды траплялі цудоўныя фільмы. Пытанне ў акцэнтах, нюансах. Эпоха дылетантаў і самадзейнасці ўжо мінае. Фестываль — гэта бізнес, які піярыць культуру. Шматлікія маленькія фестывалі, каб выжыць, павінны мець свае "фішкі". Наша задача —ператварыць "Лістапад" у прафесійную арганізацыю са сваёй рэпутацыяй. Без уваходжання ў дзелавы свет фестываль так і застанецца лакальным.

— Што будзе ўяўляць сабой XVII Мінскі міжнародны фестываль "Лістапад"?

— Мы не пачынаем усё з чыстага аркуша, ніякіх рэвалюцый, наадварот, мы імкнёмся захаваць традыцыі — тыя, што з'яўляюцца тварам сталічнага глядацкага фестывалю. Ад сваіх вытокаў фестываль задумваўся як форум, які знаёміць гледачоў з кінапрадукцыяй СНД, потым ужо з'явілася прыстаўка "міжнародны" і ў конкурсе пачалі ўдзельнічаць і Францыя, і Марока... Але мы хацелі стварыць канкрэтную генеральную плынь. Мы разбілі конкурс на два накірункі. Першы — гэта фестываль творчых дасягненняў краін былога СССР і сацлагера, звязаных адзіным ментальным мінулым. Сёлета ўдзельнічаюць 12 стужак, у тым ліку тры — з Расіі, фільмы з Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Кыргызстана, Грузіі. Калі сабраць усе вяршкі кінематаграфіі "малых і незалежных", то можна заўважыць, што мы маем найменшае ўяўленне якраз пра тое, што адбываецца ў нашых суседзяў. Калі раней гэтыя краіны прадстаўлялі сабой адзіную сям'ю і мы ведалі, хто і што здымае ў Балгарыі, Грузіі, Арменіі і не ведалі нічога за "жалезнай заслонай", то цяпер тэндэнцыя адваротная: мы добра ведаем кінапрэм'еры на Захадзе, кінапрадукцыю Галівуда і не цікавімся тым, што побач. За кінатыдзень "Лістапада" мы прадэманструем, чым цікавая постсавецкая кінематаграфія.



— Ці ўсе такія краіны будуць прадстаўленыя?

— Не, наш фестываль вельмі маленькі і ў нас няма дабрачынных мэт, каб прадстаўляць кожную краіну. Мы ўзялі толькі самае адметнае, максімальна сабралі якраз лепшыя стужкі на постсавецкай прасторы. Другі кірунак — конкурс маладога кіно з кінематаграфічнай назвай "Маладосць на маршы", паводле аднайменнага фільма Педра Кошта. У гэтай праграме будуць прадстаўленыя лепшыя першыя стужкі — неабавязкова дэбюты, гэта можа быць і другая работа, часам і не зусім маладых аўтараў, але якія толькі-толькі пачынаюць сцвярджаць сябе на ніве кіно. Першыя фільмы найбольш цікавыя і паказальныя ў фестывальным кантэксце, гэта пошукі стылю. І тут мы ўжо не абмяжоўваем сябе тэрытарыяльна. У нас будуць удзельнічаць стужкі з Перу, Уругвая, Іспаніі, Марока, Венесуэлы, Германіі, Францыі.

— На маю думку, нават у замежных пачаткоўцаў-рэжысёраў ёсць прафесіяналізм.

— Добрая рэжысёрская школа, аўтарская школа, заключаецца ў тым, што людзі выяўляюць сябе. Маладыя людзі могуць гаварыць пра тое, што думаюць, яны шырока цікавяцца рэальнасцю і займаюць актыўную грамадзянскую пазіцыю. Вялізную ролю, безумоўна, адыгрывае талент. Фестывальнае кіно — гэта, па сутнасці, кіно, якое ідзе ў процівагу мэйнстрыму. Трэба ўмець забаўляцца, але хтосьці павінен пастаянна нагадваць, што акрамя фантазій і гламура існуе рэальнасць, якую трэба ведаць у твар, якая можа нам шмат чаго даць, каб у сваім жыцці мы маглі дзейнічаць і вырашаць важныя сацыяльныя і асабістыя праблемы.

— Якія тэмы і праблематыка хвалююць сённяшніх кінематаграфістаў?

— Усё ляжыць на паверхні. Праграма "Лістапада" раскажа пра складанасці камунікацыі ўнутры чалавечай супольнасці, вечныя праблемы недастатковага разумення, з-за чаго і нараджаюцца канфлікты на побытавым і метафізічным узроўнях; праблемы сацыяльнай несправядлівасці, да якіх складана прыстасавацца, і тое, як жыць, выжываць у гэтых умовах, таксама хвалюе сучасных кінематаграфістаў. Цікавая праграма будзе і ў дакументальным кіно, якое сёння, на жаль, загнана на перыферыю. Але дакументалісты яшчэ больш праўдзівыя ў адлюстраванні рэальнасці, якую мы не хочам заўважаць: ад праблем фарміравання асобы да несправядлівасці сацыяльнага парадку ў краінах трэцяга свету.

— Без якіх карцін наша ўяўленне пра сучасную кінематаграфію будзе няпоўным?

— Для нашага гледача прыемным сюрпрызам будуць паказы расійскага кіно. Сваю першую стужку "Пярэстыя прыцемкі" прадставіць Людміла Гурчанка. Цікавы і неадназначны твор "Качагар" Аляксея Балабанава. Дапытлівы глядач зверне ўвагу на мастацкую арыгінальнасць фільма-фаварыта Венецыянскага фестывалю "Аўсянка" Аляксея Фядорчанкі. Еўрапейскі артхаўс будзе прадстаўлены французскай праграмай. Гэтыя фільмы будуць цікавыя тым, хто хадзіў на фармат "4х4". Яшчэ адна праграма "Без пяці Оскар" — фільмы, якія апынуліся ў шорт-лісце прэстыжнай амерыканскай прэміі, фільмы, якія з-за нейкіх прычын не трапілі ў шырокі пракат. Смелы ўнікальны эксперымент "Вальса з Башырам" (Ары Фольман, Ізраіль) зрабіў фурор. Тут злучэнне незлучальнага: маляванай графікі і дакументальнасці апавядання, палітыкі і фантазіі.

— Ці можна правесці паралелі з фільмам "Паўтара пакоі" Андрэя Хржаноўскага пра Бродскага?

— Гэта зусім іншае. Хржаноўскі ўсё-ткі працуе на сутыку ігравога і дакументальнага, анімацыйныя ўкрапванні часта пацвярджаюць сцэнічныя мізансцэны. Тут жа стопрацэнтная анімацыя. Героям нададзены рысы рэальных людзей. Гэта палітычнае кіно, канфлікт Ліван — Ізраіль, грамадзянская вайна ў Ізраілі. Таксама варта паглядзець пераможца Оскара "Таямніца ў яго вачах" (рэжысёр Хуан Хасэ Кампанэла, Аргенціна), якога многія ведаюць як аднаго з рэжысёраў "Доктара Хаўса", і ўбачыць яго ў зусім іншым амплуа. Заслугоўвае ўвагі і японская карціна "Тыя, што сышлі" (Ёхіра Такіта, Японія): цікава, як аўтарам далікатна і тонка, часам з гумарам раскрываецца тэма вечных катэгорый "жыццё-смерць". Ні ў якім разе нельга прапусціць і румынскі фільм "Аўрора" Крысці Пую, своеасаблівую медытацыю на тэму штодзённасці.

— Хто ўзначальвае прафесійнае журы ігравога кіно?

— Для нас вялікі гонар, што журы ўзначальвае Шарунас Бартас. Імя не знаёмае беларускаму гледачу і нават кінаманам. Але, між іншым, Бартас — знакавая фігура літоўскага і ўвогуле еўрапейскага кіно. Такі культавы французскі аўтар, як Леос Каракас, выйшаў з яго школы.

— Столькі праграм, як паўсюль паспець?

— Фестываль — гэта кірмаш, а кірмаш — гэта заўсёды выбар, разнастайнасць, нельга ахапіць неабсяжнае, але ў гэтым і ёсць фэставае задавальненне. Нават не паспеўшы ахапіць усяго, што прапануе кароткі насычаны на падзеі тыдзень "Лістапада", вы звяртаеце ўвагу на назвы, ведаеце, хто сёння ёсць цэнтральнай фігурай у кіно. Арыенціры перад вачамі — і далей усё залежыць ад вас. Фестываль не павінен абмяжоўвацца адным конкурсам, адной пляцоўкай. Пляцовак павінна быць шмат. Як сталіца Мінск абавязаны трымаць пэўную культурную планку. Ужо недастаткова казаць, што мы гасцінныя, гаворка павінна ісці і пра інтэлект.

Марына ДОЎГЕР
Фота Таццяны Данілавай

## Радуемся разам

Два паказы спектакля паводле п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы прайшлі ў Варшаве на сцэне тэатра "Рампа". Тут пры канцы верасня адбылася прэм'ера гэтай камедыі, пастаўленай беларускім рэжысёрам Мікалаем Пі-



нігіным, з акцёрам-купалаўцам Віктарам Манаевым у ролі асэсара Кручкова. Як паведамілі з Міністэрства культуры Беларусі, пастаноўка беларускай п'есы ў Варшаве і нядаўнія гастролі купалаўцаў — магутны штуршок да паглыблення і ўмацавання беларуска-польскіх культурных стасункаў. Дарэчы, ужо ёсць дамоўленасць наконт запрашэння спектакляў тэатра "Рампа" ў Мінск на міжнародны тэатральны фестываль "Панарама-2011".

"Званы Сафіі", XV Міжнародны фестываль арганнай музыкі, адбываецца ў межах сёлетняй акцыі "Полацк — культурная сталіца Беларусі-2010". Гэтая традыцый-



ная імпрэза, вядомая далёка за межамі Беларусі, сёлета прысвячаецца 25-годдзю полацкага аргана. Свята караля інструментаў адкрылася выступленнем знакамітага польскага музыканта, прафесара Рамана Пяруцкага. У праграме фестывалю, які завершыцца 28 лістапада, канцэрты выканаўцаў з Аўстрыі, Румыніі, Расіі...

Шведская мастачка па тэкстылі Гуніла Петаў Шоберг прыехала ў Мінск са сваёй выстаўкай "Аспекты жыцця: рэльеф і скульптура з воўны". Паглядзеўшы экспазіцыю, разгорнутую ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва да 14 лістапада, можна падзівіцца на сапраўднае майстэрства, з якім спадарыня Гуніла ператварыла старажытную манеру валяння лямцу ў мастацкі сродак. Мясцовыя тэхнікі гэтага рамяства яна вывучала ў Манголіі, Турцыі, Туркменістане, Венгрыі, а таксама ў Беларусі. "Аспекты жыцця", прадстаўленыя нашай госцяй, якой, між іншым, ужо без малога 70 гадоў, канцэптуальна падзяляюцца на "Пакой росту" і "Пакой святла". У першым слова даецца Прыродзе, ад якой залежаць і само жыццё, і ўсе мы. У другім аб'яднаныя творы, якія нібы ўвасабляюць развагі пра культуру і час, пра чалавецтва і яго гісторыю, пра каханне і ўладу, рэлігію і вайну... Заўтра Гуніла Пэтаў Шоберг выступіць з лекцыяй "Мастацтва валяння: гісторыя і сучаснасць". Паслухаць госцю са Швецыі зможа кожны ахвотны, завітаўшы ў галерэю "Акадэмія" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў: уваход вольны.

Лана ІВАНОВА

На здымках: сцэна са спектакля "Пінская шляхта" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; Полацкі Сафійскі сабор.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

# Шлях да Вялікага тэатра

## Споўнілася 80 гадоў з дня заснавання Беларускай студыі оперы і балета

Як адбываўся працэс станаўлення і развіцця прафесійнага опернага і балетнага мастацтва ва ўмовах савецкай Беларусі? Гэтая складаная, гістарычна падрыхтаваная мастацкая з'ява, шчыльна звязаная з народнай творчасцю, вымагала належнай падрыхтоўкі прафесійных выканальніцкіх кадраў. Першыя крокі ў стварэнні прафесійнай нацыянальнай оперна-пастановачнай творчасці звязаныя з Беларускім дзяржаўным тэатрам (БДТ, з 1926 года БДТ-1), які адкрыўся ў 1920 годзе і меў у сваім складзе харавую, балетную і аркестравую групы, сіламі якіх у 1922 — 1923 гг. былі пастаўленыя першыя балеты: "Капелія" Л. Дэліба, "Зачараваны лес" Р. Дрыго, "Фея лялек" І. Баера. У 1926 — 1927 гг. ставіліся опера "Русалка" А. Даргамыжскага і балетны вечар, у праграму якога ўваходзілі "Вальпургіева ноч" з оперы "Фаўст" Ш. Гуно, "Палавецкі стан" з оперы "Князь Ігар" А. Барадзіна. Балетна-музычныя нумары часта ўключаліся ў драматычныя спектаклі.



Для стварэння ж прафесійнага тэатра оперы і балета неабходна было падрыхтаваць спевакоў, танцораў, музыкантаў, кампазітараў. Для гэтага, па-першае, трэба было выявіць таленты, па-другое — адкрыць музычныя навучальныя ўстановы для іх адукацыі. І вось у 1924 годзе быў адкрыты Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум, створаны на базе музычнай школы, якая існавала ў Мінску з 1879 года. У 1925/26 навучальным годзе пры тэхнікуме адкрыўся балетны клас, а ў 1927/28 — оперны. На дапамогу маладым спевакам у іх творчым развіцці прыйшлі выдатныя педагогі, былыя салісты Вялікага тэатра СССР В. Цвяткоў і А. Баначыч. У 1928-м сіламі опернага класа і з дапамогай драматычнага тэатра, пад кіраўніцтвам В. Цвяткова і І. Гітгарца была ажыццёўлена пастаноўка оперы "Фаўст" Ш. Гуно. Удзельнічалі — хор (50 чалавек), аркестр (30 чалавек), балет (20 чалавек). Варта падкрэсліць, што гэта была першая опера, пастаўленая на беларускай мове.

Легендарная Л. Александроўская ў сваіх успамінах пісала: "Первый выпуск в 1928 году — опера "Фауст" Ш. Гуно на белорусском языке, перевод Ю. Дрейзина, в костюмах, гриме, декорациях, в помещении Драмтеатра. Пела я Маргариту. Это впервые в истории белорусского народа была поставлена опера на белорусском языке, силами воспитанников Бел. муз. техникума… Воодушевлённые успехом, заручившись поддержкой, группа окончивших вокалистов — 12 человек — осталась в Минске, продолжали работать в так называемом "высшем оперном классе". Подготовили оперу "Русалка" А. Даргомыжского (1929) и "Севильский цырюльник" Ш. Гуно (1930)". (Цытую на мове арыгінала).

На базе опернага і балетнага класаў 5 кастрычніка 1930 года ў Мінску была адкрыта Беларуская дзяржаўная студыя оперы і балета. Напачатку ў яе прынялі 17 чалавек — навучэнцаў опернага і балетнага класаў музычнага тэхнікума, пазней прыходзіла папаўненне з навучэнцаў тэхнікума і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Кіраўнікамі студыі былі дырыжор І. Гітгарц, балетмайстар Л. Крамарэўскі, хормайстар Г. Пятроў.



Арганізатарам і кіраўніком вышэйшага опернага класа, вакальным кансультантам яшчэ з тэхнікума быў Антон Пятровіч Баначыч. Гэты педагог прайшоў выдатную школу опернага майстэрства: выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі па класе спеваў, якую скончыў з залатым медалём і дзе аваладаў не толькі спевамі, але і майстэрствам ігры на раяле, навыкамі ў кампазіцыі. Праз два гады пасля заканчэння кансерваторыі ён паехаў у Парыж,: займаўся ў славутага прафесара вакалу Рэшке і пад яго кіраўніцтвам пераключыўся у сваім спеўным мастацтве з барытона на тэнар. Да 1921 г. быў салістам Вялікага тэатра СССР, потым працаваў у Омску, у Саратаўскім музычным тэхнікуме, з 1928 г. пераехаў у Мінск. Выкладаў спевы ў Беларускім дзяржаўным музычным тэхнікуме, паралельна з адкрыццём Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, з лістапада 1932-га з'яўляўся загадчыкам вакальнай кафедры і прафесарам спеваў. На жаль, яму было наканавана нядоўгае жыццё, у 1933 А. Баначыч пакінуў зямны свет, пражыўшы толькі 52 гады. Але за час сваёй працы ў тэхнікуме і студыі ён разам з Васілём Цвятковым, (рускім спеваком (бас) і педагогам, выпускніком Маскоўскай кансерваторыі, які таксама працаваў у Вялікім тэатры СССР, а ў 1925 годзе быў запрошаны выкладаць у Беларускім дзяржаўным музычным тэхнікуме) падрыхтавалі першы склад вакалістаў для беларускага опернага тэатра. Падрыхтоўка тая была на вельмі высокім узроўні, пра што сведчаць і рэпертуар тэатра на пачатку яго дзейнасці ("Кармэн" Ж. Бізе, "Царская нявеста" М. Рымскага-Корсакава, "Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага, "Князь Ігар" А. Барадзіна, "Пікавая дама" П. Чайкоўскага), і імёны першых, сёння ўжо легендарных выканаўцаў: Л. Александроўская — прыма беларускай оперы, І. Балоцін, Т. Баначыч, М. Дзянісаў, С. Друкер, Р. Млодак, Д. Кроз і многія іншыя.

> У 1928 годзе сіламі опернага класа і з дапамогай драматычнага тэатра, пад кіраўніцтвам В. Цвяткова і І. Гітгарца была ажыццёўлена пастаноўка оперы "Фаўст" Ш. Гуно. Удзельнічалі — хор (50 чалавек), аркестр (30 чалавек), балет (20 чалавек). Варта падкрэсліць, што гэта першая опера, пастаўленая на беларускай мове.



Студыйцы працавалі з вялікім творчым уздымам. За кароткі тэрмін яны падрыхтавалі оперу М. Рымскага-Корсакава "Залаты пеўнік" (1931, пастаноўка У. Тэзаўроўскага). Многія лічылі, што не варта ставіць такую складаную оперу, што з гэтага нічога не атрымаецца, але грамадскасць Мінска высока ацаніла першы оперны спектакль студыі.

На базе опернага і балетнага класаў 5 кастрычніка 1930 года ў Мінску была адкрыта Беларуская дзяржаўная студыя оперы і балета. Напачатку ў яе прынялі 17 чалавек — навучэнцаў опернага і балетнага класаў музычнага тэхнікума, пазней прыходзіла папаўненне з навучэнцаў тэхнікума і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Кіраўнікамі студыі былі дырыжор І. Гітгарц, балетмайстар Л. Крамарэўскі, хормайстар Г. Пятроў.

У 1932 годзе мінчане ўбачылі ў выкананні студыйцаў оперу "Кармэн" Ж. Бізе (рэжысёр Б. Норд) — новае дасягненне маладых артыстаў, якія пераканаўча перадалі прыгажосць і вобразнасць музыкі. Паэтычны вобраз Кармэн стварыла Л. Александроўская, уладальніца цудоўнага голасу. У ролі Хазэ выступіў І. Русін, Т. Баначыч увасобіла Мікаэлу, М. Дзянісаў і В. Каліноўскі — Эскамільё. Опера ставілася на беларускай мове, перакладчыкам тэкстаў быў Ю. Дрэйзін.

Але ў працы студыі Беларускай студыі оперы і балета было і нямала цяжкасцей. "На гэтых днях калегія Наркамата асветы БССР будзе разглядаць пытанне аб далейшых шляхах студыі. Калегія Наркамата асветы павінна прыняць самыя рашучыя меры для забеспячэння студыі неабходнымі сродкамі, кадрамі, памяшканнем. У выпадку, калі гэта не будзе зроблена, стварэнне Беларускага тэатра оперы і балета будзе сарвана, чаго ні ў якім выпадку нельга дапусціць", — пісала газета "Савецкая Беларусь" 3 ліпеня 1931 года.

Асноўныя цяжкасці перш за ўсё выяўляліся ў навучальным працэсе, асабліва ў працы харэаграфічнага класа, не хапала прафесійных выкладчыкаў. Кіраўніком балетнай трупы студыі быў Леў Крамарэўскі, балетмайстар і педагог. Танцавальнаму майстэрству ён вучыўся прыватна ў балерыны Ю. Сядовай. З 1930 па 1933 — балетмайстар Беларускай студыі оперы і балета, куды запрасіў артыстаў з танцавальнай групы БДТ-1, навучэнцаў з харэаграфічнага класа Беларускага музычнага тэхнікума, аматараў. Намаганнямі і актыўнай дзейнасцю Л. Крамарэўскага і педагога Е. Бянецкай, а таксама вядомых ужо на той час артыстаў балета Ю. Хіраскі, Т. Узунавай, С. Дрэчына, Н. Гурвіча, Я. Вяпрынскага, Р. Гімпелевай, Г. Шчолкінай і іншых, у студыі падтрымлівалася творчая атмасфера, рэгулярна праводзіліся заняткі, ішла праца над рэпертуарнымі творамі будучага тэатра оперы і балета. У выніку карпатлівай і настойлівай працы харэаграфічнага калектыву студыі 31 жніўня 1933 года адбылася прэм'ера першага балета — "Чырвоны мак" Р. Гліэра, у якім, сярод іншых, былі занятыя С. Дрэчын, Л. Крамарэўская, Ю. Хіраска, Д. Самохін, Т. Узунава.

Студыя з'явілася выдатнай школай для маладых акцёраў, яны атрымалі магчымасць павышаць сваё майстэрства, набываць творчыя навыкі і досвед. Востра паўстала праблема стварэння нацыянальнага рэпертуару, арганізацыі сімфанічнага аркестра, павелічэння складу выканаўцаў, запрашэння спрактыкаваных дырыжораў, рэжысёраў, канцэртмайстраў, мастакоў, іншых дзеячаў прафесійнага тэатра. Але студыя, якая з'яўлялася толькі школай падрыхтоўкі вакальных кадраў, своеасаблівай творчай лабараторыяй, дзе спалучаліся вытворчая і навучальная дзейнасць, не магла вырашыць гэтыя праблемы. Яна толькі стварала перадумовы і падрыхтавала глебу для адкрыцця тэатра. Толькі такая творчая ўстанова, як тэатр, магла справіцца з вялікай і складанай праблемай стварэння нацыянальнай музычнай культуры і задавальнення мастацкіх запатрабаванняў грамадскасці.

Паводле рашэння ўрада Беларусі 25 мая 1933 года ў Мінску быў адкрыты Дзяржаўны тэатр оперы і балета. У той урачысты дзень артысты студыі паказалі свой лепшы спектакль — оперу "Кармэн". Гэта было важнай падзеяй у гісторыі беларускага музычна-сцэнічнага мастацтва і нашага Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.

Ганна ЖУКАВА,
старшы захавальнік
экспанатаў НАВТ оперы
і балета Беларусі

На здымках: у гэтым памяшканні (інтэрнат МОПРА) па вуліцы Кірава ў 1924 годзе быў адкрыты Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум; калектыў Беларускай дзяржаўнай студыі оперы і балета (1932); Л. Рамарэўская ў ролі Тай-Хоа з балета "Чырвоны мак" Р. Гліэра (1933).

Пры падрыхтоўцы публікацыі выкарыстаныя архіўныя матэрыялы НАВТ оперы і балета Беларусі, матэрыялы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Імя Веры Ляшук стала з'яўляцца на старонках рэспубліканскіх і саюзных выданняў у канцы 1960-х. Асноўныя праблемы, якія яе тады хвалявалі і якія засталіся вызначальнымі і ў наступныя дзесяцігоддзі творчай дзейнасці навукоўца, — краязнаўства, літаратурныя традыцыі Берасцейшчыны, методыка выкладання беларускага мастацкага слова ў школе. Напэўна, на першае яе блаславіў Уладзімір Каляснік: на кафедры, якую ён узначальваў, яна на той час працавала. Вера Якаўлеўна аказалася годнай яго вучаніцай. Яна прадоўжыла распачатае настаўнікам.

# Захавальніца літаратурнай карты

Нельга, аднак, не ўлічваць і такую акалічнасць, што на працу ў Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна В. Ляшук прыйшла са школы. Закон "Аб сувязі школы з жыццём і з практыкай камуністычнага будаўніцтва" адкрываў настаўнікам магчымасць зноў вярнуцца да такога надзейнага сродка навучання і выхавання, якім было і застаецца краязнаўства. На той час пасля заканчэння факультэта мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута (1959) Вера Якаўлеўна працавала настаўніцай у мястэчку Дамачава Брэсцкага раёна.

На кафедры беларускай літаратуры ў Брэсце былі ўсе ўмовы для навучальнай і навукова-папулярызатарскай дзейнасці. Вывучэннем літаратуры краю, найперш старажытнага, заходнебеларускага, сучаснага перыядаў, займаўся сам загадчык, Уладзімір Калеснік. Ён быў ініцыятарам правядзення экскурсій па літаратурных мясцінах рэспублікі. Не абміналі і школы, дзе настаўнікі ўключалі вучняў у краязнаўчую працу. Неяк на курсах у Брэсцкім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў Вера Якаўлеўна прыгадала сваё ўражанне, калі яна ў час такой экскурсіі ўпершыню трапіла ў краязнаўчы музей Валеўскай СШ на Навагрудчыне, у якім была прадстаўлена і літаратура краю. Нас, настаўнікаў, тады вельмі здзівіла яе прызнанне: "Я ў думках паклялася сабе, што вывучу літаратуру Берасцейшчыны і ствару нешта падобнае ў сябе". У час майго студэнцтва ў кабінеце беларускай літаратуры віселі "Літаратурная карта вобласці" і стэнд "Рускія пісьменнікі на Брэстчыне", падрыхтаваныя В. Ляшук. Вера Якаўлеўна распрацоўвала экспазіцыйныя планы для музеяў сярэдняй школы № 4 г. Баранавічы, Дамачаўскай сярэдняй школы Брэсцкага раёна, музея Яўгеніі Янішчыц у Парэцкай сярэдняй школе Пінскага раёна.

Краязнаўчая дзейнасць прафесара з Брэста мае некалькі напрамкаў: вывучэнне вопыту працы настаўнікаў, аматараў літаратурна-краязнаўчых занятк з вучнямі і іх папулярызацыя ў друку, распрацоўка рэкамендацый па эфектыўным выкарыстанні краязнаўчых матэрыялаў на ўроках беларускай і рускай літаратуры, напісанне артыкулаў, прысвечаных пісьменнікам-землякам, а таксама тым мастакам слова, хто так ці інакш звязаны з Берасцейшчынай. Першыя два напрамкі дзейнасці В. Ляшук выліліся ў напісанне кандыдацкай дысертацыі "Краязнаўства як сродак павышэння эфектыўнасці ўрокаў літаратуры ў школах Беларусі" і манаграфіі "Краязнаўчыя матэрыялы на ўроках літаратуры" (1980). Неяк Вера Якаўлеўна сказала, што ў пачатку 1970-х у Маскве ў бібліятэках імя Леніна і імя Ушынскага было ўсяго тры дысертацыі па гэтай праблеме, напісаных на матэрыяле Казахстана, Каўказа і Пензенскай вобласці. Еённая была чацвёртай, падрыхтаваная на матэрыяле Берасцейшчыны. Ужо ў гэтых працах многія літаратурна-краязнаўчыя матэрыялы былі ўпершыню прапанаваны ў навуковы ўжытак і рэкамендаваны для выкарыстання ў школе. У 1991 годзе выходзіць кніга В. Ляшук "Літаратурнае краязнаўства ў школе". У гэтай працы раскрыта гісторыя краязнаўства, у тым ліку і літаратурнага, у Беларусі, асвет-

> У час майго студэнцтва ў кабінеце беларускай літаратуры віселі "Літаратурная карта вобласці" і стэнд "Рускія пісьменнікі на Брэстчыне", падрыхтаваныя В. Ляшук. Вера Якаўлеўна распрацоўвала экспазіцыйныя планы для музеяў сярэдняй школы № 4 г. Баранавічы, Дамачаўскай сярэдняй школы Брэсцкага раёна, музея Яўгеніі Янішчыц у Парэцкай сярэдняй школы Пінскага раёна.

лены тэарэтычныя асновы літаратурна-краязнаўчай працы, паказана, якія крыніцы могуць стаць асновамі ў падрыхтоўцы настаўніка да эфектыўных заняткаў па вывучэнні літаратуры краю, акрэслены падыходы да адбору рэгіянальных матэрыялаў да ўрокаў і пазакласных мерапрыемстваў, распрацаваны асноўныя віды пазакласнай працы і некаторыя тыпы ўрокаў з выкарыстаннем краязнаўчых фактаў з улікам розных рэгіёнаў Беларусі. Праца і цяпер не страціла свайго значэння, бо наша грамадства пачула патрэбу ведаць свае вытокі. Цяпер гэта не проста дзейнасць аматараў, але і дзяржаўных дзеячаў, што не можа не радаваць. Дапоўненая і адрэдагаваная кніга "Літаратурнае краязнаўства" (наколькі мне вядома) у РВУ "Літаратура і Мастацтва" і чакае спрыяльнага часу, каб трапіць да чытачоў.

Уся папярэдняя дзейнасць па вывучэнні літаратуры краю была своеасаблівай падрыхтоўкай да этапнай працы ў творчай дзейнасці В. Ляшук — "Берасцейшчына літаратурная" (1999, 2006). Такіх выданняў, у якіх бы асэнсоўвалася мастацкае слова пэўнага рэгіёна, не было не толькі ў Беларусі, але і ў нашых бліжэйшых суседзяў.

Кніга "Берасцейшчына літаратурная" напісана Верай Ляшук у сааўтарстве, але канцэпцыя, структура выдання, адбор матэрыялу цалкам належаць ёй. Упершыню навукова даследавана літаратура рэгіёна з XII па XX стагоддзі. Відавочным з'яўляецца тое, што аўтары кнігі не ставілі перад сабой задачы расказаць пра ўсіх мастакоў слова, хто так ці інакш звязаны з Берасцейшчынай, а імкнуліся раскрыць асноўныя адметнасці літаратурнага жыцця краю ад старажытнасці і да нашага часу.

Невыпадкова, што гэтае выданне знайшло шырокі водгук у друку. Кнігу называлі ўнікальнай, канцэптуальнай, энцыклапедычнай, надзённай. Дапоўненае выданне "Літаратурнай Берасцейшчыны" (2006) стала сапраўднай літаратурнай сенсацыяй. У кнізе пераканальна паказана, што Берасцейшчына — сапраўды спеўная зямля, калі асобныя вёскі і вёсачкі, цэлыя раёны з'яўляюцца гняздоўямі мастакоў слова — з'ява ўнікальная ў сусветнай літаратуры.

В. Ляшук закончыла шырокі профіль філалагічнага факультэта і атрымала кваліфікацыю выкладчыка беларускай і рускай моў і літаратуры. У школе выкладала гэтыя прадметы. У педінстытуце вяла курсы методыкі выкладання беларускага і рускага мастацкага слова. Станоўчага спраў у той і другой навуцы яна ведала знутры. Уласныя назіранні дапаўняліся настаўнікамі. Усё гэта перакон-

> Кніга "Берасцейшчына літаратурная" напісана Верай Ляшук у сааўтарстве, але канцэпцыя, структура выдання, адбор матэрыялу цалкам належаць ёй. Упершыню навукова даследавана літаратура рэгіёна з XII па XX стагоддзі. Відавочным з'яўляецца тое, што аўтары кнігі не ставілі перад сабой задачы расказаць пра ўсіх мастакоў слова, хто так ці інакш звязаны з Берасцейшчынай, а імкнуліся раскрыць асноўныя адметнасці літаратурнага жыцця краю ад старажытнасці і да нашага часу.

вала, "што беларуская літаратура як прадмет у школе часам не адыгрывае той функцыі, якая ёй наканавана: настаўніцкая праца не забяспечана метадычна. Тыя рэдкія выданні, што часам паяўляліся ў друку, цаніліся настаўнікамі-беларусаведамі на вагу золата".

Спачатку Вера Якаўлеўна абмяжоўвалася распрацоўкай асобных актуальных для школы праблем. Спярша гэта былі асобныя артыкулы, аднак у хуткім часе сталі выходзіць адна за адной кнігі: "Урокі пазакласнага чытання ў IV—VI класах", "Вывучэнне эпічных твораў у школе: 5—8 класы", "Вывучэнне трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" ды іншыя. Адным з першых самастойных выданняў было "Іван Мележ у школе". В. Ляшук — аўтар каля дзесяці кніг гэтай серыі, прысвечаных А. Міцкевічу, Янку Брылю, Якубу Коласу, Кандрату Крапіве (у сааўтарстве), М. Багдановічу, Ф. Багушэвічу, Максіму Танку, А. Дудараву. Апошнія тры працы пакуль што не выдадзены. Этапнай прац, на маю думку, з'яўляецца "Вывучэнне беларускай літаратуры ў школе: гісторыка-метадычны нарыс (даваенны перыяд)", бо гэта была першая спроба асэнсаваць вытокі методыкі выкладання нацыянальнага мастацкага слова ў школе і зразумець прычыны заняпаду гэтай навукі. Ад гэтай працы ідзе прамая дарога да "Методыкі выкладання беларускай літаратуры (1999, 2006), у якой большасць раздзелаў напісаны Верай Якаўлеўнай. У ім створана цэласная сістэма вывучэння мастацкага слова на аснове ўласных набыткаў і разважанняў, вопыту творчых настаўнікаў і дасягненняў сусветнай метадычнай думкі. Заўважу, што яшчэ ў 1986 годзе быў створаны навучальны дапаможнік пад рэдакцыяй В. Ляшук і А. Рагулі "Методыка выкладання беларускай літаратуры", першы за ўсю гісторыю вывучэння нацыянальнага мастацкага слова ў школе.

З 1988 года па даручэнні Міністэрства адукацыі В. Ляшук пачала працу над зместам літаратурнай адукацыі ў школе. Калі ў нашай краіне была зроблена спроба перайсці на яго шматварыянтнасць, прафесар з Брэста згрупавала вакол сябе і ўзначаліла навуковы калектыў, які ўпершыню за такі кароткі тэрмін (крыху больш дзесяці гадоў) стварыў навучальна-метадычны комплекс па беларускай літаратуры для сярэдняй школы: праграму, падручнікі, метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў, кнігі для пазакласнага чытання для вучняў базавай школы, тэсты для старшакласнікаў. В. Ляшук у кожным кампаненце комплексу не проста кіраўнік, навуковы рэдактар, а яшчэ і аўтар.

У творчай спадчыне навукоўца з Брэста значнае месца належыць крытыцы і літаратуразнаўству. Апошнім часам увага Веры Якаўлеўны засяроджана галоўным чынам на творчасці пісьменнікаў-землякоў: В. Жуковіча, В. Гардзея, М. Рудкоўскага, М. Аляхновіча, М. Пракаповіча ды іншых. У сваіх крытычных працах яна найперш імкнецца выклікаць цікавасць да пісьменніка, пераканаць чытача, што кніга, твор варты ўвагі. Гэта, аднак, не значыць, што яе ацэнкі пазбаўлены заўваг, але робіць іх яна надзвычай добразычліва і пераканальна, шанауючы аўтара.

Я засяродзіла ўвагу ўсяго на адным аспекце шматграннай дзейнасці Зарэцкай (Ляшук) Веры Якаўлеўны. Яна больш за сорак гадоў (1963—2007) працавала ў Брэсцкім педінстытуце (універсітэце), прайшла шлях ад выкладчыка да прафесара, 15 гадоў загадвала кафедрай, спачатку беларускага літаратуразнаўства, затым методыкі літаратуры і краязнаўства, 5 гадоў узначальвала філалагічны факультэт.

Як Вера Якаўлеўна працавала ўсе гэтыя гады, сведчаць не толькі яе шматлікія ўрадавыя ўзнагароды, але і высокі аўтарытэт сярод настаўнікаў і навуковай грамады.

Ірына РУДКОЎСКАЯ



На здымку: В. Ляшук і У. Калеснік са студэнтамі-філолагамі падчас вандроўкі па літаратурных мясцінах (каля камяня філарэтаў, Баранавіцкі раён).

## Свята ў Замошшы...

На свята паэзіі і песні "Я словам слаўлю родны край", прысвечанае 75-годдзю слыннага паэта і празаіка Уладзіміра Паўлава, у родную вёску творцы Замошша прыехалі яго сваякі, прыйшлі аднакласнікі, землякі, сябры, сабралася шмат прыхільнікаў творчасці. У тым, што юбілейнае мерапрыемства сталася шматлюдным, вялікая заслуга раённай газеты "Голас Любаншчыны", якая змясціла на сваіх старонках адпаведную аб'яву. Арганізатары ж свята запрасілі ў Замошша мясцовыя калектывы мастацкай самадзейнасці, паэтаў Любаншчыны.

Свята пачалося з песні "У белым рамонку" ў выкананні ансамбля "Любанскі гармонік". На паўлаўскія словы музыку напісаў кіраўнік ансамбля, самадзейны кампазітар Іван Раманчук. Але гэта ўжо не першая спроба пакласці менавіта гэты яркі тэкст на музыку. Свой варыянт песні стварыў выкладчык Любанскай школы мастацтваў Міхась Жураўскі. Песня, што атрымала назву "Любань-лебедзь", стала своеасаблівым гімнам Любанскаму краю.

Да свята студыя гуказапісу "Артправінцыя" падрыхтавала ўсім удзельнікам падарунак — дыск з вершамі і песнямі мясцовых аўтараў. У гэты ж дзень у Замошшы адбылася прэзентацыя новага паэтычнага зборніка У. Паўлава "Калодзеж у полі" і асобнага выдання аповесці "Пад схіленым дрэвам". Абедзве кнігі падрыхтавалі і выпусцілі ў свет супрацоўнікі раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.

Пасля эстафету прынялі паэты Наталля Бышык, Анатоль Вялічка, Валянціна Рагалевіч, Мікалай Бухала, Тамара Міхаленя, Клара Ляўчэня. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Муравейка прачытаў новы верш, прысвечаны юбіляру. І ўрэшце на сцэну запрасілі самога Уладзіміра Паўлава, які пазнаёміў прысутных са сваімі новымі вершамі.

На свяце гучала шмат прыгожых песень. Акрамя ансамбля "Любанскі гармонік" выступалі іншыя — "Добры настрой", "Чуткі", "Суседзі", "Смаката".

Васіль КАТКАВЕЦ

## Затоенасць выбуху

Ёсць такія аўтары, якія, быццам той цар Мідас, да чаго ні дакрануцца — усё ператвараецца ў золата. Мне здаецца, што ўсё-такі з гэткім талентам нараджаюцца, набыць яго немажліва, толькі развіць альбо загубіць наяўны. Вось і Алесь Наварыч — тое, што ім напісана — адно толькі малая частка ягонай асобы. Усе, каму хоць раз пашчасціла з ім пагаварыць, ведаюць: гэты чалавек можа пісаць па два апавяданні і тры эсэ ў дзень. Зрэшты, можа проста надыктоўваць, а "літаратурные негры" тарахцелі б на клавіятуры за яго. Мне сапраўды шкада, што падобнага не адбываецца. Вядома, кнігі ёсць, і не абы-якія: "Рабкова ноч", "Ноч пацалункаў незалежнасці", раман "Літоўскі воўк"... Але мала, "бязлітасна мала" (як пісаў пра некага М. Гарэцкі) друкуецца ён. Нібыта нечага чакае.

Такім чынам, Алесю Наварычу не трэба пыхцець над стылем — дар апавядальніка дадзены яму ад пачатку. Запал мастацкай жарсці, вольнага палёту можна параўнаць хіба з караткевічаўскім. Не гістарычная тут тэматыка маецца на ўвазе, але пасіянарны імпэт і раблезіянскі размах. Якія тут, прабачце, фэнтэзі: ірэальнае толькі тады мае моц, калі прарвалася з рэальнага ад перанапругі!

Наварычу мінула 50. Лічба не лічба, але межавы слуп. Што ж, будзем спадзявацца, што напал яго бурлівай энергіі не зменшыцца, а "ўперад рынецца, маўляў крыніца", у выніку чаго чытачы атрымаюць новыя творы і новыя ўражанні.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**Восень ідзе па Паставах. Наганяе ў душу сум сваімі золкімі туманамі ды нудлівымі дажджамі, абпальвае агнём зеляніну паркаў, напаўняе паветра гаркаватым пахам позніх кветак. Такой парой год таму пайшоў ад нас у свет іншы вядомы пастаўскі паэт, пісьменнік і журналіст Алесь Касцень. Невылечная хвароба вырвала яго з плыні жыцця, не даўшы часу дапісаць, дагаварыць, дадумаць...**



# У мястэчку яго любові...

Мяркую, што калі будзе ствараецца энцыклапедыя Пастаўскага раёна, то пра гэтага чалавека там будзе напісана нешта накшталт "адна з найбольш адметных асоб у культуры Пастаўшчыны канца XX — пачатку XXI стагоддзя". І гэта будзе справядліва. Сапраўды, культурную прастору Пастаўскага краю апошніх дзесяцігоддзяў немагчыма ўявіць без постаці А. Касценя. Цікавыя артыкулы ў газетах і часопісах, высокамастацкая паэзія, выдавецкая дзейнасць, кіраўніцтва літаратурным аб'яднаннем "Світанак", рэдактарская работа, падтрымка пачаткоўцаў, шматлікія выступы на розных культурных імпрэзах, актыўны ўдзел ў Таварыстве беларускай мовы — вось няпоўны пералік накірункаў дзейнасці, у якіх пакінуў свой адметны след гэты творца.

Не скажу, што мы з Алесем былі сябрамі, бачыліся даволі рэдка, але пры сустрэчах заўсёды былі рады адзін аднаму, кожны раз у нас было пра што пагаварыць, што абмеркаваць. Для мяне ён быў літаратурным настаўнікам: першы аналіз вершаў, першую крытыку, першыя парады і першую ўхвалу я пачуў ад яго. Алесь вельмі тонка адчуваў і разумеў паэзію. Гэта было важна для мяне, як і для многіх маладых аўтараў, якія прыносілі свае творы ў рэдакцыю раённай газеты "Пастаўскі край". Літаб'яднанне, якім кіраваў А. Касцень, у 1990-я было адным з найбольш актыўных і адметных творчых аб'яднанняў Беларусі. Удзельнікі суполкі перыядычна збіраліся разам, чыталі і абмяркоўвалі новыя творы, ладзілі выступленні перад чытачамі, рыхтавалі падборкі вершаў і апавяданняў для газет і часопісаў, выязджалі ў Віцебск для запісу перадачы на абласным тэлебачанні. І выдавалі зборнікі. Свет пабачылі кніжкі "Рунь-91", "Рунь-92", Рунь-93", "Рунь-2001". На пасяджэнні літаб'яднання прыязджалі аўтары з Варапаева, Лынтупаў, некаторых вёсак. У той час была эйфарыя незалежнасці, спадзяванне на адраджэнне роднай мовы і культуры. Алесь Касцень рэдагаваў першыя кнігі Аркадзя Нафрановіча, Ніны Захарэвіч, Іосіфа Атрахімовіча, Пятра Літвіновіча, Славы Ліпеня, Іосіфа Быхаўца, Алеся Гарбуля. Можна было б назваць яшчэ, напэўна, паўсотні прозвішчаў аўтараў, чые вершы і апавяданні зазналі Алесеву рэдактарскую праўку.

Наўмысна засяроджу ўвагу чытачоў на гэтай адметнасці творчасці А. Касценя, бо яна застаецца часта "па-за кадрам", яе не заўважаюць, але яна вельмі важная як для саміх творцаў, так і для грамадства. Каб не было Алеся, ці расквітнеў бы літаратурна-краязнаўчы букет на Пастаўшчыне?

А творчая спадчына самога Алеся Касценя таксама важкая. Ён дэбютаваў у літаратуры невялікім зборнікам з сімвалічнай назвай "Зруб". Такім чынам паэт засведчыў пачатак узвядзення свайго ўласнага літаратурнага дома, у якім было б утульна яму самому, сябрам і ўсім, хто любіць нашу Бацькаўшчыну, наш народ. Мы можам толькі здагадвацца, чаму застаўся ў рукапісе першы зборнік А. Касценя "Радовішча палёў", вершы якога сваёй тэматыкай блізкія да ранняга Ясеніна...

Пасля выхаду ў свет зборніка "Зруб" аўтар атрымаў прапанову ўступіць у Саюз пісьменнікаў. Алесь адмовіўся. Ці то ад няўпэўненасці ў сваіх сілах, ці то з-за боязі абмежаваць сваю творчую свабоду. Пазней некаторы час А. Касцень уваходзіў у Таварыства вольных літаратараў і, між іншым, менавіта дзякуючы яму першы нумар часопіса "Калосьсе", які выдаваўся гэтым творчым саюзам, выйшаў у Паставах.

У 1992 годзе ў Алеся асобнымі кніжкамі выходзяць аповесць "Золата дзядулі", пабудаваная на матэрыяле з жыцця Пастаўшчыны, і зборнік сатырычных паэм "Правінцыялы". У 1995 годзе ён падрыхтаваў зборнік "13 чарачак і гляк". Наклад кнігі быў аддрукаваны, а вось грошы на вокладку з'ела імклівая інфляцыя. Таму гэтая кніга так і засталася ў аўтара ў выглядзе асобных старонак. Сёлетняй вясной да дня нараджэння паэта сябры выдалі гэты зборнік, і аматары творчасці А. Касценя могуць яго набыць у чытальнай зале Пастаўскай раённай бібліятэкі.

Пэўныя падзеі ў грамадстве і асабістым жыцці адбіліся на творчасці А. Касценя. Ён пісаў мала вершаў, засяродзіўся на журналістыцы і прозе. Супрацоўнічаў з газетамі "Звязда" і "Народнае слова", удзельнічаў у выданні рэгіянальных газет і часопісаў. На працягу апошняга дзесяцігоддзя ім выдадзены зборнік вершаў са зноў жа сімвалічнай назвай "Лязо душы" і кніга невялікіх, пераважна жартоўных апавяданняў "Вясковыя і местачковыя гісторыі". Аўтар змог патрымаць у руках арыгінал-макет сваёй апошняй кнігі "Каменьчыкі ў кірзавым боце" — зборнік кароткіх апавяданняў-успамінаў пра службу ў савецкім войску, але кнігу ўбачыць не паспеў. Яна была выдадзена намаганнямі Міхася Гіля і сяброў з Глыбокага. На жаль, застаўся незавершаны цыкл эсэ "Простыя рэчы", які карыстаўся шырокай папулярнасцю ў чытачоў рэспубліканскай газеты "Звязда", а таксама інтымна-пяшчотнае апавяданне-маналог пра Паставы "Мястэчка маёй любові"...

Ігар ПРАКАПОВІЧ

# «Ты — боль, гісторыя. Ты — быль»

**Сёлета знакамітаму беларускаму гістарычнаму пісьменніку Кастусю Тарасаву споўнілася б 70 гадоў. Глыбіня створаных ім раманаў і апавесцяў, а таксама тая акалічнасць, што яго творы па-ранейшаму не атрымалі належнага аналізу, прымушае нас зноў звярнуцца да асэнсавання феномена іх аўтара.**



Месца Тарасава ў беларускай літаратуры можа быць патлумачана толькі праз зварот да дзвюх плыняў інтэрпрэтацыі мінулага, якія трывала замацаваліся ў гістарычнай прозе.

Пачатак першай з іх звязаны з культавай постаццю Уладзіміра Караткевіча. Думаецца, што Уладзімір Сямёнавіч разглядаў мінулае не як класічны гістарычны пісьменнік, а хутчэй як пісьменнік-фантаст, чый позірк быў скіраваны не ў будучыню, а ў гісторыю. На чым грунтаваўся такі падыход?

Падчас з'яўлення ў літаратуры У. Караткевіча беларуская гістарычная прастора заставалася некранутай і мала каму вядомай. Таму пісьменнік прыдумаў міф, прыгожую легенду пра наш край, на прасторах якога дзейнічалі негістарычныя асобы, народжаныя яго фантазіяй. У той час аб'ектыўнага разумення ў гісторыі грамадства не было наогул. Таму ўвод у якасці становчага героя кіраўніка аднаго з дзяржаўных утварэнняў (Полацкага княства, ВКЛ ці Рэчы Паспалітай) мог аўтаматычна адштурхнуць ад беларускай ідэі чытача, выхаванага на думцы, што Полацк з'яўляўся часткай Старажытнарускай дзяржавы, а дзве наступныя дзяржавы былі, адпаведна, літоўскай і польскай. У якасці альтэрнатывы пісьменнік прапагандаваў вуснамі сваіх герояў любоў да роднай зямлі без "прывязкі" да дзяржаўных утварэнняў. Заклік, на які адгукнулася цэлае пакаленне, прывёў да асэнсавання сябе і адначасова, да неабходнасці канкрэтыкі і суровай гістарычнай праўды. У такіх умовах у літаратуру прыйшоў Кастусь Тарасаў.

Выпускнік хімічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута, Тарасаў быў досыць далёкі ад гуманітарнага асяроддзя. Ён змяніў шмат прафесій, але да творчай журналісцкай працы звярнуўся позна, калі разменяў ужо трэці дзясятак. Друкавацца як пісьменнік пачаў яшчэ пазней: толькі ў 1976 годзе, калі яму споўнілася 36 гадоў, у "Нёмане" выйшла аповесць "Следственный эксперимент". Але ўжо праз чатары гады з'явіўся яго славуты раман "День рассеяния". Менавіта гэты твор, які стаў адной з візітных картак пісьменніка і пазней быў выдадзены пад назвай "Пагоня на Грунвальд", заклаў прынцыпы гістарычнага пісьменства другой плыні.

Тарасаў істотна змяніў ракурс і форму назірання за мінулым. Творы Караткевіча па сваёй эпічнасці і абагуленасці нагадвалі верталётныя фотаздымкі. У адрозненне ад свайго папярэдніка Тарасаў спусціўся на зямлю, пераўтварыўся з летапісца сівой даўніны, які апісваў падзеі з вышыні некалькіх стагоддзяў, у непасрэднага відавочцу. Таму ў "Пагоні на Грунвальд" гісторыя была паказана на шырокім фоне: ліцвіны і палякі, крыжакі і татары; бітвы і сямейнае жыццё; панарамнае апісанне Грунвальдскай бітвы.

Іншым стаў пісьменніцкі падыход. У Караткевіча гісторыю рухалі народныя масы на чале са сваімі павадырамі. У Тарасава логіка развіцця падзей абумоўлівалася палітыкай эліты грамадства і дзеяннямі простых людзей, якія рэалізоўвалі заканамернасці гісторыі праз выпадковасці. Так, герой "Пагоні на Грунвальд" Андрэй Ільініч арыштоўваў князя Свідрыгайлу, удзельнічаў у вандроўцы Вітаўта да імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі і спрыяў перамозе над крыжакамі.

Як ужо адзначалася, перад пакаленнем Тарасава стала праблема выбару, ідэнтыфікацыі беларускай нацыі, а неўзабаве і маладой дзяржавы з ранейшымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на тэрыторыі Беларусі. Лагічны выбар быў зроблены на карысць Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага, гісторыя якіх стала тэмай большасці тарасаўскіх твораў.

Але самым галоўным у творчасці Тарасава стаў іншы, у параўнанні з Караткевічам, агульны настрой. У "Пагоні на Грунвальд" Кастусь Тарасаў адпраўляе на смерць двух галоўных герояў, якія раней вярнуліся жывымі з Грунвальдскай бітвы. Прычым, Юрыя забіваюць у Чэхіі, а Андрэя Ільініча – у час міжусобнай барацьбы ў ВКЛ. Атрымліваецца, што ў той момант яны абаранялі не родную зямлю, а сталі разменнымі пешкамі ў чужой гульні.

Цікава, што той жа гістарычны перыяд апісвае Генрых Сянкевіч у сваіх "Крыжаках". Але яго героі Мацько і Збышка дажылі да глыбокай старасці. А Збышка дачакаўся той шчаслівай хвіліны, калі адбылося канчатковае падпарадкаванне Тэўтонскага ордэна Польшчы.

Што ж атрымліваецца? Пасля прачытання "Крыжакоў" чытач мог убачыць, што змаганне з крыжакамі вялося не дарма, і Польшча атрымала доўгачаканы выхад да мора. А вось "Пагоня на Грунвальд" нібыта ў чарговы раз адлюстроўвала трагічнае светаўспрыманне як беларускіх пісьменнікаў, так і ментальнасць народа.

Але Сянкевіч, як, дарэчы, і Караткевіч, з'яўляўся абуджальнікам нацыі. Таму раманы абодвух пісьменнікаў пры ўсёй трагічнасці апісваемых падзей не маглі не прапагандаваць нацыянальную ідэю праз аптымізм галоўных герояў – носьбітаў гэтай ідэі. Тарасаў несумненна пайшоў далей. Ён зразумеў ці, хутчэй, наважыўся паказаць, што гісторыя трагічна сама па сабе, што ў ёй далёка не заўсёды бываюць пераможцы. Перафразаваўшы Л. Галубовіча, можна сфармуляваць прынцып Тарасава знакамітымі радкамі: "Ты — боль, гісторыя. Ты — быль.// Твае суровыя законы// Не для забаў, не для гульбы — // А пошук ісціны да скону".

Абодва пісьменнікі заклалі дзве традыцыі асэнсавання мінулага. Класічным прыкладам караткевічаўскага падыходу з'яўляецца творчасць Людмілы Рублеўскай ("Золата забытых магіл", "Пярсцёнак апошняга імператара"). Тарасаўскага — творы Вітаўта Чаропкі ("Храм без бога"), Алеся Наварыча ("Літоўскі воўк") і Андрэя Федарэнкі ("Нічые"). Паколькі беларускае грамадства знаходзіцца, так бы мовіць, у палоне караткевічаўскага падыходу, гэтыя творы выклікалі пэўныя пярэчанні сярод чытачоў. А вось Леанід Дайнека і некаторыя яго калегі выкарысталі прынцыпы абедзвюх традыцый, што і прадвызначыла іх найбольшую папулярнасць сярод аматараў гісторыі.

Творы Кастуся Тарасава сталі адной з вяршыняў беларускай гістарычнай прозы, а яго асоба абумовіла развіццё гэтага жанру на дзесяцігоддзі.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ












Скульптару Льву Гумілеўскаму споўнілася 80 гадоў. З гэтай знамянальнай жыццёвай датай знанага творцу, народнага мастака Беларусі павіншаваў Прэзідэнт нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. У віншаванні адзначаецца: “Сваёй шматграннай дзейнасцю Вы зрабілі значны ўнёсак у развіццё айчыннай культуры. Дзякуючы Вашаму непаўторнаму таленту і штодзённаму творчаму пошуку нарадзіліся сапраўдныя шэдэўры манументальнага мастацтва, якія ўпрыгожваюць плошчы, паркі, музеі не толькі беларускіх, але і замежных гарадоў”. Прэзідэнт падкрэсліў: “Ваша натхнёнае служэнне абранай прафесіі, патрыятызм і грамадзянская адказнасць выклікаюць шчырую павагу і ўдзячнасць”.

Леў Гумілеўскі — не з тых сучасных класікаў, якія нагадваюць пра сябе выключна ў дні чарговых сваіх юбілеяў. Яго актыўная, актуальная, запатрабаваная творчасць заўсёды ў эпіцэнтры не толькі ўласна мастацкага, але і — шырэй — грамадскага жыцця. Мала хто з нашых сённяшніх скульптараў мае такую вядомасць (і свядомасць: жывую, адкрытую, усеахопную і глыбока беларускую!), як гэты майстар: з імем Льва Гумілеўскага звязана сапраўдная галерэя выразных станковых партрэтаў М. Гусоўскага, К. Каліноўскага, У. Караткевіча, М. Савіцкага, А. Клімавай, А. Пушкіна, С.Рахманінава, пластычных кампазіцый “Скіф”, “Змена”, “Партызаны”, “Развітанне з Радзімай”... А яшчэ — чарада значных падзей у манументальным мастацтве, сярод якіх не былі выключэннем і помнік У. Леніну ў Пружанах, і манумент “Змагарам за Савецкую ўладу” ў Магілёве. За апошнія некалькі гадоў Леў Мікалаевіч у гарманічным дуэце са сваім таленавітым сынам, скульптарам Сяргеем Гумілеўскім, стварыў манумент Кірылу Тураўскаму для цэнтральнай плошчы Гомеля; трыпціх “Сказ пра Нясвіж”, які аздобіў інтэр’ер Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі; помнік Максіму Багдановічу, што ў Ялце, на старых могілках, пазначае апошні прытулак паэта; скульптурную постаць Францішка Багушэвіча — доўгачаканы набытак старажытнай Смаргоні. І — помнік Янку Купалу, устаноўлены ў сталіцы Расіі.

Як вядома, у 1974 г. манументальная праца Л. Гумілеўскага ў сааўтарстве з А. Анікейчыкам і А. Заспіцкім — скульптура песняра ў мінскім купалаўскім парку — была ганаравана Дзяржаўнай прэміяй БССР. А гэтым летам беларуска-расійскі аўтарскі калектыў — стваральнікі помніка Янку Купалу ў Маскве скульптары Леў і Сяргей Гумілеўскія, архітэктар Юрый Грыгор’еў — атрымалі прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2009 — 2010 гады.

Штораз, калі даводзілася звяртацца да Майстра з просьбай распавесці пра чарговы манументальны праект, ён не абмяжоўваўся прафесійным каментарыем, а шчыра і трапна разважаў пра нацыянальныя традыцыі, пра жыццядайнае для мастакоў поле класічнай беларускай літаратуры, пра постаці айчынных прарокаў, пра значэнне роднага слова, дадзенага нам, “каб не ўмёрлі”... Чакаем новай нагоды для размовы з мудрым Львом Мікалаевічам.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# А мастак нарадзіўся — тут!

Мая цікавасць да творчага абсягу скульптара Льва Гумілеўскага даўняя. Асабліва ўсцешна было сачыць за яго працай, калі маэстра ўзяўся ўвасобіць для Смаргоні постаць Францішка Багушэвіча ў бронзе. Напачатку меркавалася, у кожным разе гэтак хацелася самому скульптару, усталяваць гэты помнік да 160-годдзя з дня народзінаў паэта. Але не атрымалася. Не атрымалася і да 165-й гадавіны. Але Леў Мікалаевіч не складаў рукі. “Падбухторваў” грамадскую думку, даводзячы, што Смаргонь без такой выбітной постаці, як Францішак Багушэвіч, будзе ў духоўным сэнсе горадам непаўнавартасным.

Рыхтуючы ў 2000 годзе юбілейны выпуск тэлечасопіса “Роднае Слова”, прысвечанага Францішку Багушэвічу, я завітаў з тэлевізійнай камерай у майстэрню скульптара па інтэрв’ю. Тады Леў Гумілеўскі прызнаўся, што гэта была яго даўняя мара: увасобіць нашага Прарочу ў бронзе… З часу таго інтэрв’ю мінула 10 гадоў. Але толькі летась мара Льва Гумілеўскага здзейснілася: паспрыяла правядзенне Дня беларускага пісьменства ў Смаргоні. Тут назаўсёды прапісаўся слынны кушлянец Францішак Багушэвіч. Смаргонцы атрымалі магчымасць штодзённага сумоўя са слынным Пракокам, які ў сваёй “Дудцы беларускай” яшчэ пры канцы XIX ст. акрэсліў усе адметнасці Беларусі і беларусаў. І гэтыя адметнасці ведае кожны, хто хадзіў у беларускія школы…

Калісьці, знаёмячыся з Львом Гумілеўскім, я, каб зразумець яго ныя творчыя парыванні, пацікавіўся, адкуль ён родам, з якіх мясцін. Адказ яго мяне збянтэжыў: “З Масквы я… У Маскве нарадзіўся…”. А потым суразмоўца мой расказаў: “Мая матуля родам з Браслаўшчыны. Але падчас першай сусветнай вайны яе засваталі, без яе волі, за якогась ваяку, і яна паехала з ім у Маскву. Там я і нарадзіўся. Але там штось было не па ёй і яна, разам з ужо двума дзецьмі, падалася аж у Сярэднюю Азію. Мая мама, звалі яе Франя, была рашучая. І калі што не так, гатовая была на ўсё. Урэшце яна вярнулася ў Беларусь. З тае пары Беларусь для мяне — крыніца творчага натхнення”.

Ужо не адно дзесяцігоддзе Льва Гумілеўскага натхняюць вобразы роднага — а хіба можна сказаць інакш? — беларускага краю, постаці нашых слынных суайчыннікаў. Вось вам і “нарадзіўся ў Маскве”…

Уладзімір СОДАЛЬ





На здымках: Л. Гумілеўскі перадае скульптурную выяву свайго настаўніка М. Сеўрука для мемарыяльна-музейнай экспазіцыі гэтага мастака ў Нясвіжы; “Ценям Касцюшкі” (гіпс таніраваны); “Я адплаціў народу, чым моц мая магла…”. Янка Купала” (гіпс таніраваны); “Янка Купала” (бронза), сумесна з Сяргеем Гумілеўскім; помнік Францішку Багушэвічу ў Смаргоні, сумесна з Сяргеем Гумілеўскім; “Жалейка” (дрэва); “Русалка” ў Нясвіжскім парку.

Фота Віктара Кавалёва і Святланы Берасцень

# Распавесці пра сябе

Якім бы мастацтвам ні займаўся творчы чалавек — здымае кіно, увасабляе вобраз тэатральнага героя, складае вершы, піша сімфонію ці працуе над жывапісным палатном, — ён міжволі выяўляе свой светапогляд і характар, спавядаецца з большай ці меншай мераю адкрытасці, а ўрэшце — распавядае пра сябе. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Выяўленчае мастацтва" Леанід Дударэнка, адзначаючы сваё 80-годдзе, звярнуўся да гледача са шчырым жывапісным маналогам. Сваю персанальную выстаўку, што разгарнулася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі да 10 снежня, Леанід Аляксандравіч назваў "Маё жыццё".

Шматгранны жывапісец-станкавіст, ён паспяхова працуе ў жанрах канцэптуальнай карціны, пейзажа, нацюрморта, партрэта, грунтуючыся на рэалістычных традыцыях беларускага мастацтва і сцвярджаючы ўласны мастакоўскі почырк, які сілкуецца высокім прафесіяналізмам і своеадметным светапоглядам.

"Трэба, каб група мастакоў, аб'яднаных пад адной ідэяй добрых, прагрэсіўных традыцый, не несла ў сабе сцвярджэнне аджылых мастацкіх формаў, а сваёй творчасцю спрыяла далейшаму развіццю мастацкага майстэрства, высокай мастацкай культуры, любові чалавека, і каб усё гэта было прынята ў спадчыну наступнымі пакаленнямі калег", — разважае Леанід Дударэнка. Ён з'яўляецца адным з яркіх прадстаўнікоў творчай суполкі "Традыцыя" і актыўным удзельнікам Студыі вайсковых мастакоў. Ураджэнец Маладзечна, спасцігаў прафесію ў Мінскім мастацкім вучылішчы, Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер БДАМ), а творчасць з першых самастойных крокаў звяраў па ўнутраным камертоне духоўнасці, прытрымліваўся мастацкай праўды, не лавіраваў між зменлівымі моднымі тэндэнцыямі ў арт-свеце. Мабыць, таму і ўспрымаюць Леаніда Дударэнку як індывідуальнасць каларытную, як мастака глыбока нацыянальнага, але адкрытага для эксперыментаў з колеравай палітрай, у руках майстра сапраўды невычэрпнай на выразныя магчымасці.

Яго творчая натура адкрытая не толькі для жывапісных эксперыментаў, але і для таго высокага зямнога натхнення, якое дае прырода. Леанід Аляксандравіч не замыкаецца ў сценах майстэрні, з энтузіязмам вандруе па Беларусі, удзельнічае ў міжнародных пленэрах. Таму сярод яго шматстайных палотнаў на самыя розныя, у тым ліку на спрадвечна-філасофскія, надзённа-публіцыстычныя, гістарычна-эпахальныя ці простыя жыццёвыя тэмы, вылучаюцца не толькі партрэты людзей, але і адухоўленыя і мудрыя партрэты адметных беларускіх мясцін: Радашковічаў і Вязынкі, Браслава і Магілёва, Раўбічаў і Краснага, а то і маляўнічага ўскрайку нейкай невядомай, ды казачна прыгожай вёсачкі...

Творы Леаніда Дударэнкі знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава, у фондах Беларускага саюза мастакоў, у Астраханскім мастацкім музеі (Расія), у фондах Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі. І ў юбілейную экспазіцыю, большая частка якой размешчаная на галерэі НММ, трапілі работы з розных збораў. Своеасаблівым жа эпіграфам да жывапіснай споведзі мастака сталася яго вялікае палатно, прадстаўленае ў цэнтры фае: "Кніга гэтая народу майму". Галоўны герой шматфігурнай кампазіцыі — наш першадрукар і асветнік Францыск Скарына...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: карціны Леаніда Дударэнкі "Крэпасць над Бугам"; "Спартыўнае свята"; "Памяці ката Марчэлы. (Партрэт жонкі)".

Фота Віктара Кавалёва і аўтара







# Сімволіка зменлівых пачуццяў

Музей сучаснага выяўленчага мастацтва наладзіў персанальную выстаўку Сержука Цімохава "Паводле часу". Мастаку споўнілася 50 — знакавы ўзрост, які дазваляе ўжо не апрыёры, а на падставе ўласнага досведу сцвярджаць: з часам творца падсвядома мяняецца, і не толькі знешне, фізіялагічна, але і ў філасофска-эстэтычным аспекце, і гэтыя змены занатоўваюцца ў яго творах. Да такой высновы схіляецца і глядач, апынуўшыся ва ўлонні яскравай экспазіцыі, складзенай з выбраных жывапісных і графічных работ, створаных С. Цімохавым за апошнія 20 гадоў.



Падчас адкрыцця выстаўкі ў музейнай зале, якая тут і лічыцца, і завецца вялікай, было людна да цеснаты. Якія шматлікія і шматаблічныя прыхільнікі таленту Сержука Цімохава: аксакалы беларускага выяўленчага мастацтва, знаныя пісьменнікі, дыпламаты, студэнцтва... Ды і шчырых сяброў у яго багата, нават — што ў творчым асяроддзі бывае рэдка! — сярод калег. Яны, дарэчы, жартаў не пазнаўшы, ледзьве не перасварыліся, прылічваючы сябе да землякоў героя вернісажа: той казаў — "ён з нашых, полацкіх хлопцаў!"; той пярэчыў — "ён жа наш, паляшук!"; пакуль трэці ўрэшце не давёў — "мы ўсе тут зараз пачуваем сябе мінчукамі". Насамрэч мастак нарадзіўся на Гомельшчыне, у вёсцы Кротаў, прафесійную адукацыю атрымаў добрым традыцыйным шляхам: Мінскае мастацкае вучылішча, БДАМ (кафедра манументальна-дэкаратыўнага мастацтва). З 1986 па 1998 жыў і працаваў у Полацку, затым пераехаў у Мінск...

Пяць гадоў таму калегі абралі С. Цімохава ў кіраўніцтва Беларускага саюза мастакоў і даверылі пасаду намесніка старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці. Чаму? Можна і не пытацца: у яго асобе ўдала спалучыліся безумоўна выбітны творчы дар, працавітасць, душэўная цеплыня, таварыскасць, арганізатарскі талент.

"Мабыць, гэта цяжка: спалучаць мастацкую дзейнасць з адміністрацыйнымі функцыямі. Але мы бачым плён працы Сержука Цімохава і адчуваем яго адказнае разуменне ролі Саюза мастакоў у дапамозе калегам, асабліва маладзейшым — тым, для каго надзвычай важна выйсці на вялікую сцэну творчага жыцця, але вельмі складана зрабіць гэта самастойна, — гаварыў падчас адкрыцця выстаўкі намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі. — Сёння БСМ чуйна падтрымлівае першыя крокі маладых творцаў, знайшоўшы ў гэтай справе паразуменне і добры кантакт з Міністэрствам культуры. Нашы супольныя намаганні скіраваныя на тое, каб не толькі дапамагчы канкрэтным мастакам, але і зрабіць беларускае выяўленчае мастацтва наогул даступным як мага шырэйшаму колу грамадства, як у нашай краіне, так і ў замежжы. Наша мастацтва сёння і можна, і трэба прадстаўляць ва ўсім свеце на самым высокім узроўні — як годную візітоўку Беларусі. Пацвярджэннем — і творчыя поспехі Сержука Цімохава".

А сведчанне гэтых поспехаў — факты, якія не вымагаюць каментарыяў. Творы С. Цімохава знаходзяцца не толькі ў лепшых зборах на радзіме, але і ў галерэях Варшавы, Дрэздэна, Лондана, Масквы. Ён з'яўляецца лаўрэатам 2-га Міжнароднага Шагалаўскага пленэру і 1-й Беларускай біенале жывапісу графікі і скульптуры, уладальнікам Гран-пры 7-й міжнароднай біенале ілюстрацыі "Залатое пяро Бялграда".

Таямнічасць, пачуццёвасць, радасць Жыцця — такі, можна сказаць, трыадзіны лейтматыў, што зніто́ўвае яго работы, уключаныя ў юбілейную экспазіцыю. Тут і вядомыя "брэнды" ранейшых выставачных праектаў — "Дрэва-стод", "Цені Купальскай ночы", іншыя творы, якія сілкуюцца сімволікай глыбіннай спадчыны дахрысціянскага, паганскага перыяду беларускай гісторыі, і датаваны 2010 годам трыпціх "Грунвальд"...

"Са студэнцкіх гадоў Сержука цікавіла беларускасць, якая заўважна прысутнічае ў яго творчасці й дагэтуль і, дасць Бог, ніколі не знікне. І галоўнае, што набытак, якім багата папоўнілася сімвалічная "торба" мастака на кірмашы творчага жыцця (а назбіраў ён у тую торбу да сваіх пяцідзесяці гадоў шмат чаго!), — гэта ўсё сваё, цімохаўскае". Вось так, проста і вобразна, сказаў на адкрыцці выстаўкі Сержука Цімохава яго мудры настаўнік, народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка. Народны мастак Георгій Паплаўскі дадаў: "Мастацтва сімвалаў я наогул люблю. Але самае цікавае для мяне, як на гэтай выстаўцы, калі моваю сімвалаў мастак выказвае пэўныя пачуцці і пачуцці. Я ўражаны выяўленчымі знаходкамі, цікавай аўтарскай тэхнікай, вялікім мастацкім Рамяством і высокім густам. Такія падзвіжнікі, як Сяржук, радуюць сваім поглядам на свет, а, чытаючы мову загадкавых палотнаў, спасцігаючы іх сэнс, мы — расцём!"

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





На здымках: палатно Сяргея Цімохава "На Вялікдзень сонца іграе" і яго аркушы з нізкі "Постаці".

Фота аўтара

Свята-конкурс "Саламяны павук" невыпадкова адбылося пасля Пакроваў: менавіта пасля заканчэння палявых работ беларускія сяляне пачыналі плесці павукоў-абярэгаў. Два гады таму першае свята-конкурс праходзіла ў Валожыне, сёлета ж госці з васьмі раёнаў Мінскай вобласці сабраліся ў мястэчку Івянец. На працягу трох гадзін у рэжыме он-лайн, на вачах у гледачоў і журы, майстры выплыталі з саломы кожны свайго павука. Трэба заўважыць, што ніхто з удзельнікаў не ўзяўся за традыцыйнага шарападобнага "павука-сонейка", затое ў намінацыях "фантазійны павук" і "авангардны павук" былі вылучаныя па адным лаўрэаце і па два дыпламанты. На конкурсе былі прадстаўлены як традыцыйна-класічныя павукі, так і дызайнерскія знаходкі, якія могуць аздобіць сучасны інтэр'ер.

# Беларуская саломка — эксклюзіў ці плойма сувеніраў?



Стаўленне беларусаў да саломкі лепш за ўсё выяўляецца ў попыце на саламяныя вырабы. "Саломку ў нас купляюць пераважна турысты і тыя, хто едзе за мяжу, — ва ўнісон адказалі прадаўцы з сувенірных аддзелаў розных сталічных крам. — Летам попыт крыху большы, у іншы час купляюць менш". Як выявілася, часам саломку набываюць, каб зрабіць падарунак тутэйшым сябрам альбо родным, прычым попыт на фігуральнае пляценне (лялькі, конікі, буслы) і на ўтылітарныя вырабы (куфэркі, абручы, цукерачніцы) прыблізна аднолькавы. Але ніхто з вытворцаў не забяспечвае сваю далікатную прадукцыю адпаведнай упакоўкай, таму саламяныя "Любачкі" падарожнічаюць у абрэзаных пластыкавых бутэльках.

У крамах, разлічаных не на турыстаў, а на прыхільнікаў мастацтва, саламяныя вырабы можна знайсці далёка не заўсёды. "Саломкі ў нас няма, бо яе ніхто не набывае. Ні для сябе, ні для арганізацый," — паведамілі ў мастацкай галерэі "Артблік". Прыкладна тое ж адказалі ў галерэі "Падземка".

Атрымліваецца, што рэчы з саломкі ўспрымаюцца беларусамі хутчэй як традыцыйны сувенір, чым як мастацкі твор. Праўда, не выпадае казаць пра тое, што саламяныя лялькі і алені — з'ява на сто адсоткаў традыцыйная. Фігуркі людзей і птушак, якія сёння патокам вырабляюцца на мастацкіх фабрыках, у традыцыйным інтэр'еры ўвогуле не сустракаліся.

"Абрадавая лялька альбо птушачка, якую вешалі падчас жніва над калыскай, мелі вельмі сімвалічны, умоўны характар, рабіліся ўсяго з некалькіх саламяных пучкоў, — расказвае Яўген Сахута. — Сёння ж пры выплятанні дэкаратыўнай фігуркі выкарыстоўваюцца сотні пучкоў саломы і дзясяткі прыёмаў пляцення… Тэхніка саломапляцення ў сучасных майстроў значна больш высокая, чым у колішніх сялян. Беларускія вырабы — манументальныя алені, коні ледзь не ў натуральную велічыню — значна адрозніваюцца ад еўрапейскіх: там з саломы робяць штосьці накшталт мініяцюр рукадзельнага ўзроўню".

Маладыя майстры, якія стала маюць справу з саломкай, часта адыходзяць ад традыцыі і пачынаюць фантазіраваць, эксперыментаваць. Вынік — сучасныя авангардныя, нетрадыцыйныя вырабы…

"Далёка не ў кожным мадэрновым інтэр'еры будуць добра глядзецца звыклыя сувеніры з саломы. Таму мне цікава рабіць неардынарныя рэчы, якія знойдуць месца ў сучаснай кватэры. Гэта запатрабавана: такія вырабы купляюць, шмат што замаўляюць праз Інтэрнэт," — распавядае Вольга Мешчаракова з вёскі Вялікае сяло. На святе-конкурсе "Саламяны павук" Вольга стала лаўрэатам у намінацыі "авангардны павук". У Вользіным партфоліа — фотаздымкі саламяных пчолак і мушак, эксклюзіўных дэкаратыўных пано. На нядаўняй выстаўцы "Тэхна-арт" у сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" Вольга прэзентавала работу "Памкненне да дасканаласці" — кола з саламянай шынай і саламяныя крылы.



Сёння Вольга вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Выпускніком яго некалькі гадоў таму стаў Дзяніс Міжуй, інтэрнэт-сайт якога дае добрае ўяўленне пра тое, колькі арыгінальных, нечаканых рэчаў можна зрабіць з саломы. Гэта і залаты слімак, і рыбка да піва, і дыхтоўны капялюш для Незнаёмкі. Аднак ужо тры гады Дзяніс працуе ў іншай сферы і саломай амаль не займаецца — пры тым, што мае шмат ідэй, якія засталіся нерэалізаванымі. Прычына простая: не атрымалася ўладкавацца так, каб творчасць прыносіла прыбытак.

"Акрамя стварэння ўнікальных твораў, майстры вымушаныя шмат часу аддаваць іншай працы. Звычайна ідуць на фабрыкі мастацкіх вырабаў, але праца на рынак — гэта паток, масавая работа. Канечне, можна паўгода плесці саламянага аленя, але невядома, ці знойдзецца на яго паляўнічы," — уздыхае Яўген Сахута. Дарэчы, фабрыкам мастацкіх вырабаў праца з саломай дае прыбытак. Сыравіна амаль бясплатная, частку прадукцыі можна рэалізоўваць за мяжой, ёсць магчымасць спецыялізацыі, да кожнага свята асартымент саламяных вырабаў абнаўляецца. Так, у беларускіх крамах хутка з'явяцца ёлачныя ўпрыгожванні, а чачэрская "Надзея" ўжо распачала выраб навагодніх сувеніраў, разлічаных на экспарт у Германію. Нечаканасцю для беларускага пакупніка могуць стаць саламяныя школьніцы, бабкі-ёжкі і сабакі-таксы, якіх можна пабачыць на мінскіх прылаўках. Не толькі асобныя майстры, але і цэлыя фабрыкі ствараюць саламяны эксклюзіў!

Добра, што сёння з саломы плятуць не толькі сувеніры, але і арыгінальныя, унікальныя рэчы. І варта думаць, што між аматараў спалучэння традыцый і авангарда знойдуцца тыя, хто ацэніць каштоўнасць незвычайных аўтарскіх ідэй, увасобленых у тэхніцы саломапляцення. Магчыма, з цягам часу саломапляценне канчаткова стане не рамяством, а мастацтвам — мастацтвам сучасным, але выключна нацыянальным. Справа толькі ў тым, каб творчы патэнцыял маладых майстроў мог раскрыцца напоўніцу…

Алеся ЛАПІЦКАЯ





На здымках: журы свята-конкурсу "Саламяны павук" ацэньвае работы Вольгі Мешчараковай; Дзяніс Міжуй, "Рыбка да піва", "Рыбка пасля піва","Слімак".

Фота Юліі Воўчак і Дзяніса Міжуя

## У наступным нумары "ЛіМ"

Традыцыйна ў лістападаўскія дні беларуская грамадскасць прыгадвае аднаго з волатаў айчыннага пісьменства — Якуба Коласа. Якія прытоеныя скарбы дагэтуль захоўвае ў сабе яго творчасць, што гаворыць нам класіка сёння, у часы полістылістыкі – адказы на гэтыя і іншыя пытанні вы знойдзеце ў артыкуле Васіля Жураўлёва "Някідкая праява мужнасці" (рубрыка "Ars philologica").

З глыбінкі

# Вясковая дынастыя

У горадзе Старыя Дарогі не першы год праводзіцца рэгіянальнае свята "Матчыны кросны". Жыхарка Старых Дарог Аляксандра Праташчык удзельнічала ў ім сёлета з унучкай Вольгай Бобрык.

Аляксандры Аляксееўне — 67 гадоў. У яе бацькоў , якія таксама жылі ў Старых Дарогах, былі тры дачкі. Старэйшая Марыя, 1932 года нараджэння, да замужжа любіла ткаць. Маладзейшая за яе на 7 гадоў Соф'я, прозвішча якой цяпер Епіхава, і самая малодшая таксама — Аляксандра, навучыліся ткаць дзякуючы сваёй маці, Кацярыне Філімонаўне Емяльянавай. У іх хаце быў станок, на якім у маладосці сёстры ткалі з лёну ручнікі, настольнікі, посцілкі, нажуткі, андаракі, сукенкі. У пасаг звычайна давала свае вырабы маці, але жаніхам сясцёр было прыемна, што і іх нявесты ўмеюць ткаць, вышываць. Соф'я і Аляксандра вышываюць гладдзю накідкі на падушкі, крыжыкам — ручнікі, карціны, на якіх з-пад умелых рук выходзяць кветкі ці жывёлінкі. Такія работы раней змяшчалі ў рамкі і вывешвалі на сценах.

Абедзве сястры адпрацавалі на ферме. Але Аляксандра Аляксееўна, хаця даўно ўжо на заслужаным адпачынку, знайшла новую справу: 16 гадоў яна кіруе гуртком па ткацтве пры мясцовым СДК. Ткацкі станок для Дома культуры ў свой час выпрасілі ў мясцовай майстрыхі Настассі Дубік. Яе ўжо няма на гэтым свеце, а станок па-ранейшаму служыць людзям, бо на ім дзеці вучацца старажытнаму рамяству. На заняткі прыходзяць звычайна дзяўчаты-падлеткі Старых Дарог, якія вучацца ў гарадскіх школах. Сёлета адбыўся чарговы выпуск вучняў гуртка — іх шасцёра, у тым ліку ўнук Аляксандры Аляксееўны Андрэй Дзенісевіч.

"Я думаю, — кажа Аляксандра Праташчык, — сёлетнія выпускнікі майго гуртка не забудуць дарогу ў СДК і будуць прыходзіць сюды ткаць у вольны ад вучобы ці працы час. А я набіраю ўжо новых вучняў. Пакуль здароўе і сілы ёсць, буду перадаваць свае веды і ўменне дзецям. Мару, каб маё майстэрства засталося і працягвалася ў нашай сям'і нашчадкамі".

Сярод стрыечных сясцёр, пляменнікаў, унукаў таксама ёсць таленавітыя ўмельцы. Яны дораць свае ткацкія вырабы, вышыўку сваякам і добрым знаёмым. Народныя традыцыі працягваюцца і знаходзяць новых прыхільнікаў сярод моладзі.

Анатоль БАРЫС
г. Старыя Дарогі

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2967
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 4.11.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 5359
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6686